# Беларусь


ISSN 0320-7544

1988

5 593











Вясна... Першамай... Перамога...
Як любы нам квецень садоў,
трапятанне сцягоў,
шырокія разлівы
святочных дэманстрацый,
дзе песня і танец ідуць поруч.

Дзе мацуецца наша еднасць
у барацьбе за мір,
за шчаслівую будучыню нашых дзяцей.
А вясна — гэта заўжды надзея.
Надзея, што знікнуць жахі вайны,
радасць запануе на планеце.

Салістка. Фота Аляксандра ШАБЛЮКА.



Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 5 (593)
МАЙ
1988 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: народны артыст БССР Яраслаў Еўдакімаў, чый мяккі, лірычны голас ведаюць і любяць аматары музыкі далёка за межамі Беларусі.

Фота Юрыя ІВАНОВА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 14.03.88.
Падпісана да друку 15.04.88.
АТ 08079.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,1.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т 16 500 экз.
Зак. 830.
Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы
памерам не больш
як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

# Перапіска

●

*Я — беларус, але лёс закінуў мяне на Украіну, дзе я і жыву зараз. Але мне здаецца, гэта не так важна. Я па-ранейшаму патрыёт сваёй бацькаўшчыны, свайго Мінска. У Мінску і Мінскай вобласці жывуць мае продкі з XV—XVI стагоддзяў. Вакол горада і зараз ёсць пяць вёсак, названых — Шабуня.*

*Я памятаю гэты горад даваенны, абхадзіў і аб'ездзіў яго ўдоўж і ўпоперак. Памятаю, як душа радавалася за новабудоўлі, за наш народ, за нашу моладзь. Самым прыгожым і самым высокім на той час не толькі ў Мінску, ва ўсёй Беларусі, быў Дом урада.*

*Памятаю Мінск пасляваенны. Я бачыў яго ўвесь у руінах, калі мяне, цяжкапараненага, везлі з фронту вясной 1945 года. Як сімвал нясказанасці беларускага народа сярод папялішчаў узвышаўся тады Дом урада.*

*Ведаю цяперашні малады і прыгожы Мінск, які ўражвае сваімі шырокімі праспектамі, новымі мікрараёнамі, велічнымі гмахамі палацаў. Крыўдна толькі, што Дом урада, выратаваны народам ад знішчэння, не здолелі захаваць як велічны помнік гісторыі.*

*Справа не ў тым, ці застаўся ён на месцы, а ў тым, што яго забудавалі дамамі, прыбудовамі, зацерлі новабудоўлямі.*

*Хіба мала месца ў горадзе, дзе будаваць? Мне здаецца, можна было знайсці месца для арганізацый, якія засланілі сваімі будынкамі Дом урада.*

*Можна прывесці нямала прыкладаў ашчадных адносін да даўніны. Вазьміце Маскоўскі Крэмль. Там пабудавалі Палац з'ездаў, але ж ён не разбурае архітэктуру Крамля, не ўзвышаецца нават з-за Крамлёўскіх сцен.*

*Пішу не для таго, каб прадэманстраваць сваю старэчую бурклівасць, а з надзеяй, што трапяць гэтыя радкі на вочы маладому архітэктару ці будаўніку. Магчыма, і прыгадае ён іх, калі жыццё паставіць яго ў падобную сітуацыю.*

Э. ШАБУНЯ,
Хмяльніцкая вобласць.

●

*Усё мінулае лета думаў і гадаў, можна збіраць грыбы і ягады ў маім родным лесе ці нельга. А можа ад'ехаць куды далей? А куды ехаць, таксама не ведаю. Прыедзеш у лес — і рукі не бяруцца тыя ягады збіраць. Глядзіш на буйныя, спелыя чарніцы і гадаеш, што тоіцца ў іх — гаючы духмяны сок ці страшная небяспека.*

*Прывезлі дзіцяці журавіны з Магілёўшчыны — зноў жа не ведаю, можна даваць ці не. Захварэла дзіця, пабег у аптэку, каб купіць якіх зёлак, кажуць, няма. Я б і сам сабраў, ды не ведаю, дзе можна іх збіраць. Ні для кога ж не сакрэт, што вынікі Чарнобыльскай аварыі яшчэ доўга будуць адчувальнымі на нашай беларускай зямлі.*

*Вось і надумаў я напісаць у рэдакцыю. Ці не магла б рэдакцыя надрукаваць маё пісьмо з прапановай да кампетэнтных органаў, вучоных расказаць у перыядычным друку аб найбольш небяспечных у сэнсе радыяцыйнага заражэння зонах Беларусі ці, яшчэ лепш, надрукаваць карту, з якой было б відаць, якую мясціну радыяцыя закранула, а якую — зусім абышла. Гэта ж, на мой погляд, не сакрэт. Дый пра здароўе людзей трэба клапаціцца ў першую чаргу.*

Аляксандр **ЦЯРЭШЧАНКА**, урач.
пас. Ратамка Мінскага раёна.

●

*Звяртаемся да вас з просьбай разабрацца ў рабоце Зарэцкага вясковага клуба Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Не думайце, што мы адразу ж пачалі біць трывогу і пісаць у рэспубліканскі часопіс: прасілі мы дапамагчы і старшыню сельскага Савета тав. Саплюкова М. П., і загадчыка раённага аддзела культуры тав. Лапацентава І. М., але нашы просьбы прайшлі міма іх вушэй.*

*Улетку 1986 года з артыкула ў раённай газеце «Сельскае жыццё» мы даведаліся, што ў нашым клубе вядзецца вялікая работа: праводзяцца вечары адпачынку, працуюць разнастайныя гурткі, у час уборкі ў поле выязджаюць агітбрыгады з канцэртамі.*

*Дык гэта ж самая звычайная «ліпа»! Некалькі гадоў назад у наш клуб паступіла выдатная апаратура, каляровы тэлевізар. З таго часу яна захоўваецца ў жалезнай шафе пад вялікім замком, якая стаіць у клубе як музейны экспанат. Вялікая заслуга загадчыц клуба М. Бялешка і В. Ташкоўскай у тым, што апаратура надзейна захоўваецца! Толькі вось пытанне: навошта дзяржава траціла грошы на дарагую апаратуру? Каб трымаць яе ў жалезнай шафе?*

*У рашэннях XXVII з'езда КПСС запісана, што прыцягненне моладзі ў сельскую гаспадарку, павышэнне яе культурнага ўзроўню, паляпшэнне ўмоў адпачынку з'яўляецца важнай задачай. А пра які культурны адпачынак можна гаварыць, калі нам няма дзе правесці свой вольны час, няма дзе сустрэцца з сябрамі, пагаварыць, патанцаваць. Мы ўжо забыліся, калі ў нашым клубе праводзіліся звычайныя танцы, не гаворачы пра дыскатэку, бо адчыняецца ён толькі для таго, каб не размарозіць сістэму ацяплення. Дзіўна, што ў раёне наш клуб лічыцца ўзорным, як пісала пра гэта газета «Сельскае жыццё». Цікава было б даведацца, за што таварышы Бялешка і Ташкоўская атрымліваюць зарплату, граматы і падзякі. Няўжо за добрую арганізацыю вольнага часу моладзі?*

*З павагай і надзеяй
моладзь вёскі Зарэчча.*

●

*Мяркую, усе са мною згодны, што стаяць у чарзе — занятак малапрыемны.*

*Тым жа, у каго сям'я, дзеці, стаяць у чарзе даводзіцца кожны дзень, і чым далей, тым даўжэй. Справа ў тым, што праблема дэфіцытаў у нас не здымаецца з парадку дня, наадварот, становіцца нашым пастаянным спадарожнікам. Больш таго, мне нават здаецца, што гэта гульня ў мячык, калі самыя неабходныя рэчы то з'яўляюцца, то раптам знікаюць, некаму падабаецца. Бо як інакш вытлумачыць, што ў нас то з'яўляецца, то знікае зубная паста, сода, губная памада, дзіцячыя калготкі, рыс, цукар?*

*Зімою ў нас на Дзяржыншчыне раптам знік цукар. Прычым усе добра ведалі, што на базе цукар ёсць. Потым пачалі даваць па 1 кілаграму. Зразумела, што стаяць за тым кілаграмам трэба было не адну гадзіну. Тлумачылася ўсё гэта барацьбой з самагонаварэннем. Што ж атрымліваецца? Меркавалі пакараць п'яніц і спекулянтаў, а пакаралі шматдзетных маці, якім і так даводзіцца несалодка.*

*Калі ўжо мы навучымся рабіць добрую справу разумна, узважваць усе за і супроць, ставіць сябе на месца тых, каму штодзень трэба накарміць, абуць і апрануць сям'ю? Калі ўжо нельга змагацца з п'янствам іншым шляхам, чаму б не зрабіць талоны на цукар ці яшчэ які прадукт? Сяброўка, якая жыве ў Арджанікідзе, пісала мне, што ім даюць на рабоце талоны па 2 кг на кожнага члена сям'і на месяц. Мяркую, гэтага было б дастаткова. Прыйшоў і забраў свой цукар спакойна, і рабі з ім што хочаш. Да таго ж, мне здаецца, самагоншчыкі — народ прадпрымальны. Іх абмежаваннем на цукар не спыніш. Абышліся без дражджэй, абыдуцца і без цукру. Заўтра яшчэ што-небудзь прыдумаюць. А мы будзем з іх ласкі зноў гадзінамі стаяць у чэргах. Трэба шукаць іншыя, больш рашучыя меры, а не гуляць з імі ў хованкі.*

Я. ПІЛЬКОЎСКАЯ,
Дзяржынскі раён.

●

*Я ўжо стары чалавек, даўно на пенсіі, але яшчэ працую вартаўніком на аўтабазе. Не столькі дзеля грошай, колькі дзеля таго, каб чалавекам сябе пачуваць, ад жыцця не адбіцца. Рэгулярна газеты чытаю, гляджу тэлевізар.*

●

**Ад каго тайна?**

●

**Гульня ў хованкі**

●

**Чалавек старой загартоўкі**

●

**Дзейнічайце і зарабляйце!**

# Перапіска

*І што я вам скажу — такога яшчэ не было на маёй памяці, каб так адкрыта і шчыра гаварылі пра ўсе нашы недахопы, нелады на заводах і ў сельскай гаспадарцы. Іншы раз пачуеш, як несправядліва абышліся з чалавекам або колькі дабра народнага прападае, гніе марна, і сэрца крывёю абліваецца, і думаеш — як мы маглі да такога жыцця дакаціцца? Чаму людзі раней маўчалі? Куды глядзелі кіраўнікі тых заводаў і фабрык, з якіх гадамі раскрадалі тое, што здабыта працай людской? А ім жа медалі, ордэны, званні Героя Сацыялістычнай Працы праз аднаго прысвойвалі — то да шасцідзесяцігоддзя, то да сямідзесяцігоддзя.*

*І што цікава... Даўно я заўважыў, толькі напісаць не асмельваўся. Як ні прачытаеш Указ аб узнагароджанні Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, дык абавязкова начальніка, дырэктара ці там галоўнага інжынера якога. За ўсё жыццё толькі разы 2 ці 3 сустракаў, каб гэтай граматай узнагародзілі рабочага. А хіба мала ў нас дастойных? Ёсць людзі, якія па 25—30 гадоў сумленна адпрацавалі на адным прадпрыемстве, ніколі ў адстаючых не хадзілі. Няўжо яны толькі і заслужылі што медаль «Ветэран працы», які ў народзе «пясочным» завуць? Ці мо гэта не дазваляецца спецыяльным указам або абмежавана палажэннем аб узнагароджанні?*

С. Ю.,
г. Віцебск.

Р. S. *Прабачце, што не назваў свайго прозвішча — я чалавек старой загартоўкі.*

●

*Да глыбіні душы ўсхваляваў мяне артыкул Я. Далматоўскага «Кніга, якая прапала без вестак», змешчаны ў «Литературной газете» ў канцы студзеня гэтага года. Факты, аб якіх гаворыцца ў артыкуле, нікога не могуць пакінуць абыякавымі, а тым больш нас, беларусаў: кніга, якая загадкава знікла з падвалаў Волга-Вяцкага выдавецтва, а потым з друкарні выдавецтва «Молодая гвардия»,— ні больш ні менш, як «Брэсцкая крэпасць» С. С. Смірнова! Згубілі кнігу, якой была прысуджана Ленінская прэмія, кнігу, на падставе якой Брэсцкай крэпасці было прысвоена званне «Крэпасць-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». Знішчана праца чалавека, які першым падаў голас у абарону тых, хто грудзьмі сваімі перакрыў дарогу фашысцкай нечысці, дзякуючы якому мы сёння лічым абаронцаў Брэсцкай крэпасці не здраднікамі Радзімы, а менавіта «гераічнымі абаронцамі».*

*Большасці герояў Брэста сёння ўжо няма ў жывых, як няма ў жывых і самога С. Смірнова. Няма ў жывых і К. Сіманава, Б. Палявога, У. Багамолава, якія пайсталі ў абарону кнігі, якая стала этапам нашай гісторыі, голасам нашага сумлення. Сёння мы павінны стаць на іх месца, пісаць і патрабаваць, каб кнігу гэту знайшлі тыя чыноўнікі, якім яна замінала. Знайшлі і надрукавалі. Самым вялікім тыражом. Людзі хочуць ведаць праўду сёння, як ніколі раней.*

*Мяркую, справай гонару нашага выдавецтва «Мастацкая літаратура» была б прапанова надрукаваць кнігу «Брэсцкая крэпасць» у нас, у Мінску, на беларускай зямлі, дзе пралілі сваю кроў абаронцы Брэсцкай крэпасці.*

Л. ЦІТОВА,
г. Мінск.

●

*За апошні год нас, старшакласнікаў, некалькі разоў запрашалі (а то і прымушалі!) на розныя гутаркі і лекцыі аб сучаснай музыцы. Змест гэтых гутарак можна звесці да аднаго сказа: дзеці, не слухайце цяжкі металічны рок, таму што ён дрэнны. Чаму ён такі дрэнны і якая крамола ў тым, што мы слухаем пераліcаныя адзін у аднаго кампазіцыі, нам не здолеў растлумачыць ніводзін з лектараў. Амаль усе гэтыя людзі, што выходзілі на трыбуну і браліся выхаваць у нас добры музычны густ, няправільна вымаўлялі назвы рок-ансамбляў і груп, не маглі назваць акрамя Майкла Джэксана замежных выканаўцаў.*

*Як могуць людзі без усялякай музычнай адукацыі, якія не тое што не здольны адрозніць на слых хард-рок ад арт-рока, а наогул блытаюць рок з джазам, выходзіць на трыбуну і вучыць моладзь, якую музыку трэба слухаць і любіць?! Час міне, і магчыма, на змену захапленню рок-музыкай прыйдзе новае захапленне. Дык што, яно таксама будзе дрэннае, таму што новае і незразумелае вам, старэйшым? Дык што, усё новае — дрэннае?*

Віктар КАЗЮЛЯ,
г. Гродна.

●

*Прачытала 12-ты нумар часопіса і здзівілася, што В. Лапіна, аўтара артыкула «Прадаецца сакрэт шчасця», падтрымаў чытач Аляксандр Шустоўскі. Апанентаў жа ў яго не было або іх думка ігнаравалася. Вось гэта мне і не спадабалася. У духу новых перамен у часопісе павінны з'яўляцца допісы, якія ўхваляюць і не ўхваляюць вашу думку.*

*Дык вось, я мяркую, што вы не маеце рацыі. Мне здаецца, няма вялікай шкоды ад той «фотапрадукцыі», якая вырабляецца саматужным спосабам. Нават калі гэтыя хлопцы, што прадаюць самаробныя паштоўкі, і зарабляюць шмат. Бо яшчэ Маркс сказаў, што цана вызначаецца попытам. Нельга змагацца з перажыткамі адміністрацыйнымі сродкамі, як прапануеце вы. Наша гісторыя ведае прыклады, калі «атэісты» сцвярджалі свае ідэі, узрываючы цэрквы. Такім чынам і вы прапануеце змагацца з рамантызмам і казкамі.*

*А індывідуальная працоўная дзейнасць — гэта здорава! Вось дзе здаровая процівага безгаспадарлівасці і някемлівасці! Кулібіны, дзейнічайце і зарабляйце на зайздрасць тым «правільным», якія «ўсё ведаюць», але нічога не робяць на карысць грамадства.*

Надзея БУДНІКАВА,
эканаміст.
г. Гомель.

●

*Зноў вясна. Як і летась, яна радуе і засмучае. Радуе — сышоў снег, свеціць і грэе, хоць і не так часта, сонца, але яно робіць сваю справу: брыняюць пупышкі на дрэвах, адскоквае траўка на газонах, падсохлі вуліцы... І засмучае: зноў, як і ў мінулым годзе, на праспекце дый на іншых вуліцах носяцца клубы пылу. Дымным шлейфам сцелецца пыл за машынамі, якія «на сухую» чысцяць, мятуць пясок і гразь, што сабралася за зіму. Пыл ляціць у вокны і дзверы дамоў, абдае прахожых.*

*Помніцца, гады два назад вуліцы ў Мінску заўсёды мылі. Выходзілі раненька адна за адною палівальныя машыны з цяжкімі цыстэрнамі вады, іх магутныя струмені вымывалі асфальт. Горад прачынаўся свежы і чысты. Але гэтыя машыны некуды зніклі. Не выйшлі яны на вуліцы Мінска ні ў мінулую вясну, ні сёлета. Дзе ж яны?*

*Гараджане мяркуюць, што тыя машыны аддалі Кіеву, маўляў, там патрэбна было мыць вуліцы ў сувязі з радыяцыяй. Гэта ўхвальна — дапамагаць братам. Але ці нармальнае становішча з чысцінёй паветра ў Мінску? Усё ж, думаецца, што трэба рабіць вільготную ўборку. Што пра гэта думаюць санітарныя службы і гарвыканком?*

Галіна МІРОНЕНКА,
медсястра.

●

*У шэрагу публікацый часопіса за 1987 і 1988 гады выказваецца ідэя стварэння ў рэспубліцы музея копій помнікаў архітэктуры.*

*Цяпер з такім варыянтам стварэння музея выступае Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры. Гэта сведчыць аб тым, што значна ўзрос інтарэс грамадскасці да праблемы захавання сваёй гісторыі і яе культурнай спадчыны.*

*Сама па сабе задума заслугоўвае не толькі ўвагі, але і ўсебаковага вывучэння, таму што ў працэсе рэалізацыі ўзнікае мноства складаных пытанняў, пачынаючы з месца для будучага музея і канчаючы выкананнем макетаў у даўгавечных і сучасных матэрыялах. Для вырашэння ўсіх гэтых праблем можна стварыць арганізацыі па асобных напрамках функцыяніравання гэтай музейнай структуры.*

*Пытанне аб стварэнні музея копій помнікаў беларускай архітэктуры вывучаецца ўпраўленнем музеяў і аховы помнікаў з іншымі зацікаўленымі бакамі.*

Аляксандр КАНАВАЛЕНКА,
начальнік упраўлення музеяў
і аховы помнікаў.

# Хочаш кватэру? Калі ласка!

Вячаслаў ДУБІНКА

Няўжо такое будзе? Колькі ж гадоў міне, калі з такім пытаннем будуць сустракаць кожнага, хто мае пільную патрэбу ў жыллі... Будзем спадзявацца.

А пакуль што жыллёвая праблема — адна з самых вострых. І колькасць тых, хто не мае «свайго» даху над галавой, дасягае некалькіх дзесяткаў мільёнаў. Больш дзесяці, а то і ўсе пятнаццаць, шаснаццаць гадоў трэба чакаць кватэру цярпліва, абіваючы парогі аддзелаў гарвыканкома, райсавета, пасялковага Савета дэпутатаў працоўных, мясцовых прафсаюзных камітэтаў, высокіх дзяржаўных устаноў. Прасіць, патрабаваць, маліць, пісаць «слёзныя» лісты... Час, нервы, здароўе. А якія маральныя страты. Настаяўшыся ў такой бясконцай «чарзе», зноў стукаецца ў дзверы мясцовых улад... І не дзіва, што ён бачыць у кожным дзяржаўным служачым ледзь не асабістага ворага. Маўляў, сядзіць на куфры з ордэрамі, выгадвае, як абысціся з кватэрамі, сплаўляе іх направа і налева, канечне ж, за хабар, а не, дык аддае па «званочку» высокага начальства.

Некалькі дзён хадзіў пад незабыўным уражаннем ад усяго таго, што давялося пачуць на прыёме ў намесніка старшыні Бабруйскага гарвыканкома Валянціна Аляксеевіча Піліпенкі. Нялёгкія, прама скажу, восем гадзін. Трэба было бачыць узмакрэлых і членаў камісіі і загадчыка аддзела па ўліку і размеркаванню жылля пры Бабруйскім гарвыканкоме Івана Платонавіча Котава і старшага інжынера аддзела Уладзіміра Пятровіча Зубарава, загадчыка прыёмнай па скаргах Вольгі Аляксандраўны Кунец. Да сарака чалавек прынялі члены камісіі на чале з Піліпенкам. Толькі чацвёра з сарака не краналі жыллёвай праблемы, прасілі дапамагчы паставіць газавую пліту, пра тэлефон клапаціліся, хваляваліся пра працаўладкаванне. Усе ж астатнія — пра жыллё... І мала хто «далікатнічаў», а ўсе рашуча: «Дайце кватэру! Забяспечце! Парамантуйце! Расшырце! Ганіце кватэру і ніякіх адгаворак!»

Дзіўлюся жалезнаму цярпенню і вытрымцы членаў камісіі па прыёму грамадзян. Спакойна тлумачаць, што і да чаго, на закон спасылаюцца, дый цяжкасці з жыллём у горадзе не сёлета ўзніклі. Жадаючых хутка да пятнаццаці тысяч набярэцца, а на год толькі тысяча кватэры атрымлівае... І праўда, далёка не ўсе, хто запісаўся на прыём, могуць спадзявацца, бо не маюць на гэта права. Тут і санітарныя нормы на аднаго жыльца, і састаў сям'і, і інш. І, атрымаўшы аргументаванае тлумачэнне, па якой прычыне пакуль што не будзе выдзелена кватэра, наведвальнікі пакідаюць залу, пагражаючы, што дабяруцца... аж да Крамля і паведамяць «каму трэба».

І дабіраюцца...

Папяровая рака, якую поўняць скаргі бабруйчан, хлынула ва ўсе ўстановы краіны. У гэтым я ўпэўніўся, калі назаўтра разам з Валянцінам Аляксеевічам Піліпенкам разбіралі ранішнюю пошту. Куды ні кінь вокам — скаргі, скаргі, скаргі. І на машынцы надрукаваныя, і пад капірку...

А палове восьмай раніцы Валянцін Аляксеевіч даў «нырца» ў гэтую папяровую раку. Бабруйчане-«бескватэрнікі» скардзіліся і ў Камітэт савецкіх жанчын, і ў Фонд культуры, і ў Таварыства Чырвонага Крыжа. Крык адчаю дасылалі ў часопіс «Чалавек і закон». На многа аркушаў распісвалі сваё гора Прэзідыуму Вярхоўнага Савета, Цэнтральнаму Камітэту нашай партыі. І ў кожным лісце тое ж самае: «Дай! Забяспеч! Выдзяляй! Я патрабую! Я маю права!»

Варта зазначыць, што сярод аўтараў дасланых лістоў былі і тыя, хто нядаўна прыходзіў на прыём да намесніка старшыні тав. Піліпенкі.

— Куды толькі не пішуць,— адзначае Валянцін Аляксеевіч.— Не лянуюцца. Па дзесяць лістоў і ўсе пад капірку — гуляй вецер!.. А мы патанулі ў скаргах, дробязных прэтэнзіях. Колькі лаўкачоў спекулюе на «перабудове», «галоснасці». Не хочуць і слухаць, што і да чаго. Не тлумач ім пра цяжкасці, пра слабую будаўнічую індустрыю. Не хапае бальніц, дзіцячых садоў, добраўпарадкаваных вуліц... Маем права на жыллё і ўсё тут...

І тут я злавіў сябе на думцы, што, мабыць, паспешліва быў прыняты «Закон пра жыллё»... У тым сэнсе, што даў у рукі абыякавым, гарлапанам, гультаям і прайдзісветам моцную зброю. Наабяцаўшы ўсім рай менавіта ў 2000 годзе, адбіў ахвоту ў людзей самім прымаць непасрэдны ўдзел у гэтай праграме. І людзі сталі звычайнымі чакальшчыкамі. Сталі нецярпліва чакаць, самі нічога не робячы.

Цяпер паслухайце, што высветлілася ў ходзе імправізаванага рэйду па адрасах шматлікіх «плакальшчыкаў». Так, тых самых, што вельмі ж агрэсіўна паводзілі сябе на прыёме з патрабавальным воклічам: «Дай кватэру!»

Разам з Валянцінам Аляксеевічам кіруем па вуліцы Бахарава і заварочваем на завулак Энгельса, шукаем дом 25. Пабудаваны яшчэ да вайны і лічыцца ў спіску тых, якія трэба зносіць... Але ж ці падымецца рука зносіць такі дом... Праўда, гаспадары, не вагаючыся, хоць заразператварылі б яго ў попел. Не мой, а дзяржаўны, галава не баліць. Прыкрае ўражанне засталося ад таго ранішняга візіту. Дом страшэнна занядбаны. Тут папрок і домакіраўніцтву, і яшчэ больш гаспадарам, абыякавым, раўнадушным.

Няўжо цяжка прыбіць дошку на шалёўцы, пафарбаваць весніцы? Дзверы трэба парамантаваць, каб не свістаў вецер. Чакаеце ласкі домакіраўніцтва? Дзядзька Сцёпа прыйдзе і прыб'е канёк на даху, каб вада не прабівалася праз столь?

Учора на прыёме ў гарвыканкоме сярэдняга веку жанчына і моцны дзяцюк, майстар мэблевай фабрыкі, махалі рукамі, ледзь не крычалі:

— Нас топіць, штодня залівае вада...

І вось яны перада мной, гаспадары вуглавой кватэры ў № 25. «Гаротнікі, пакутуюць»,— падумалася мне на прыёме... Я паставіў лескі і зірнуў, што робіцца на гарышчы. Зразумела: звычайная нядбайнасць. На такіх гаспадароў у вёсцы паказваюць пальцам, называючы зняважліва — гандыль! Паўнюткі дзень уходалі муж і жонка, чакаючы сваёй чаргі на прыёме. Муж не здагадаўся ўзяць у рукі малаток, сякеру, скокнуць на дах і падбіць дошку. Не зломак жа, майстар цэха.

Рыхтуючыся да нашага прыезду, гаспадар старанна... пааддзіраў дошкі шалёўкі, каб зрабіць яшчэ больш непрывабным дом, у якім пражыў столькі гадоў, але які так і не стаў для яго родным. І ў іншых гаспадароў, а жыве тут тры, не лепшы парадак. Адбітая тынкоўка, знявечаныя пліты, пабітыя дзверы... Жывуць, даводзячы дом да «ручкі».

— Колькі вы плаціце за кватэру? — пытаюся ў жыхароў.

— Тры рублі,— чую ў адказ.

І той самы дзяцюк, майстар мэблевай фабрыкі, стараўся адвесці нас далей убок, каб хаця мы не пацікавіліся, якой мадэлі машына стаіць у яго ных гаражы. Высветлілася ў дадатак, што ў бацькоў — прасторны дом, пабудаваны параўнаўча нядаўна. Няўжо ў тым доме цесна бацькам з сынавай сям'ёй? Вырваць дзяржаўную кватэру — мэта дзецюка, а там трава не расці... Не, яму не прыйшло ў галаву хаця б у давесці да ладу жытло сваё, бо яно для дзецюка часовае, дзяржаўнае, вось машына, дык свая да болю...

Дзіўная сітуацыя склалася, і не толькі ў Бабруйску. Дзеці гадуюцца ў бацькоўскім доме, утульным, прасторным. І так да тае пары, пакуль не атрымаюць свае пашпарты. Вось тут і пачынаецца знаёмая тактыка. Сыны і дочкі праўдамі і няпраўдамі ўладкоўваюцца ў інтэрнат, прапісваюцца да далёкіх сваякоў, плацяць немалыя грошы чужым людзям з той жа мэтай: прапіска. А праз пяць гадоў пачынаюць захады па кватэрнаму пытанню.

У тым жа Бабруйску больш як пятнаццаць тысяч прыватных дамоў, не абы-якія — залюбавацца. І хто палічыць, колькі тых, хто гадаваўся ў гэтых дамах, мае кватэру ці цісенцца яшчэ ў чарзе?.. А разважаюць яны, дзеці, прыкладна так: мы адхопім дзяржаўную кватэру, бацька з маці ў нябыт пойдуць, а нам дамок па спадчыне. Значыцца, жывая капейка...

— Мне партыя і ўрад яшчэ дзесяць гадоў таму абяцалі кватэру, я газеты чытаю,— з імпэтам, не жартуючы, гаварыў на прыёме саракагадовы дзяцюк, вадзіцель аўтабазы.

— А чаму не будуеце свой дом? — пытаемся ў яго.— Шаснаццаць гадоў на чарзе, за кватэру плаціце штомесяц за паўсотні. Звычайны падлік падкажа, што за гэтыя грошы пекны палац стаяў бы. Праўда, аднаго жадання мала, папрацаваць трэба. Без мазалька і хлеба скібы не ўкусіш... Сябе б больш паважалі, мужчына ж, галава сям'і, дзецям колькі гордасці за бацьку...

— Няма дурных! — бесцырымонна перапыняе нашы довады дзяцюк.— Ёсць закон, і ён гарантуе мне жытло... Я сваю місію выканаў, траіх дзетак маю...

Не, рашуча ніхто не хоча нават і слухаць пра будаўніцтва жытла сваім мазалькам, як тое спрадвеку было ў нашых дзядоў... Бацькі нашы гарбом свой дабрабыт здабывалі, а сыны ў чарзе дзесяцігоддзямі ціснуцца, правы «качаюць».

Завіталі мы і да гэтага імпэтнага «чаргоўніка» на дзяржаўную кватэру. Вуліца Баброва, дом 8. Прыватны дом. Нягледзячы на тое, што было а палове адзінаццатай, дзеці яшчэ не падняліся. Хлопчыкі лена палежвалі на ложку. Бацька,

сонна пазяхаючы, соўгаўся па хаце... Як стала вядома, учора ён дапазна гуляў з сябрукамі ў даміно, а пасля рэзаўся ў карты, правёўшы час на мужчынскай бяседзе... Канечне ж, мазалька на яго́ных руках не шукай. Хіба на азадку, хай прабачыць чытач...

Здаровы дзяцюк, мае рукі, неблагую прафесію, дый трох хлопцаў — памочнікаў, чаму б не будаваць свой дамок?.. Вось дзе б і хлопчыкам справа знайшлася, няхай змалку да працы душа ў іх горнецца. У сваім дамку і пакойчык кожнаму,— зайздросна...

Я з ўдзячнасцю прыгадваю і цяпер майго дзядулю, які падараваў

Прыватным забудоўшчыкам у Беларусі зайздросцяць жыхары многіх абласцей Украіны. У такую далечыню едуць, каб набыць керамічную плітку, печку для вадзянога ацяплення, сантэхнічнае абсталяванне.

Дзе ж вы, народныя дойліды, умельцы? Мужчыны, адгукніцеся! Няўжо, вырваўшы за пятнаццаць гадоў па дзесятку метраў карыснай жыллёвай плошчы на душу, атрымаеце спакой на душы і шчасце ў хаце?..

Раю тым, хто прастойвае гадзінамі ў чарзе за «чарнілам», набівае непрацоўныя мазалі касцяшкамі даміно і тым, што лена палежвае на канапцы, пазяхаючы ад сумнай





нам з братам свята: дазволіў самастойна прыбіць дошкі на шалёўцы сенцаў... А бацька цярпліва вучыў, як працаваць гэблікам, долата ў дзела пускаць... І ўсе хлапчукі суседскія такую ж навуку прайшлі, ведаючы, як дастаецца бацькам кавалак хлеба, дах над галавой. І ніколі надалей не паднялася ў нас рука, каб зламаць кволае дрэўца ў двары, пабіць шкло, накрэмзаць брыдкія словы. Праца — вось першы настаўнік, і шкада, што памянёны бацька трох хлапчукоў не хоча зразумець гэта... Зірніце, што робіцца ў ліфтах шматпавярховых дамоў, дый не толькі ў Бабруйску, але і Капылі, Слуцку, Мінску ці Магілёве. Брыдкія словы, зламана, пабіта. Змалку і пачынаецца непавага да працы старэйшых... Адкуль жа яно будзе, тое шанаванне...

Мала, вельмі мала будуецца шматпавярховых дамоў у Бабруйску. І таго горай, куды меней будуецца прыватных дамоў. А будавацЬ жа на Беларусі ўмелі, славіліся і дзяды нашы рукамі ўмелымі, працавітымі... Так, не звіняць пілы, не чуцён вясёлы перастук сякер. Каб жа толькі ў Бабруйску, а то і паўсюдна па рэспубліцы. У тым жа Бабруйску на пачатку сямідзесятых гадоў будавалася да 200 з лішкам дамоў грамадзянамі штогод, а вось у 1987 годзе такіх забудоўшчыкаў было толькі крыху больш за дваццаць. Парадокс і толькі. Цяпер з набыццём будаўнічых матэрыялаў аніякіх цяжкасцяў. У тым жа Бабруйску ёсць у свабодным продажы і піламатэрыялы, і скабяныя вырабы, і цэмент. Бетон і раствор даставяць прама на будаўнічую пляцоўку па першаму запатрабаванню.

тэлеперадачы, паехаць на вуліцу Прыбярэжную на ўскраі Бабруйска, якраз непадалёку ад Бярэзіны, да Марата Дзянісавіча Гісава. Марата і Марыю летась напаткала бяда. Згарэў дом, згарэла ўсё, набытае за гады сумеснага жыцця. У адной кашулі гаспадар выскачыў на вуліцу... Што рабіць? Роспачна біцца аб сцяну? Марат Дзянісавіч не пайшоў у гарвыканком са слёзнай просьбай, каб пайшлі насустрач, як пацярпеўшаму. Марат і Марыя ўзяліся за справу. Набылі за некалькі соцень дом, які зносілі непадалёку, бярвенне даставілі на свой пляц. І цэлае лета, дзянёк у дзянёк нястомна ўвіхаліся. І да халадоў быў гатовы добры, прасторны катэдж, інакш і не назавеш. Астатняе — для душы. Марат Дзянісавіч з жонкай зробяць тое ў хаце, што радуе вока. І куточак для адпачынку, і кветнік, і...

Я пацікавіўся выдаткамі. Цяжка паверыць, але патраціўся гаспадар на пабудову дома, дзе карыснай плошчы аж 60 метраў, на дзве тысячы рублёў... Праўда, не адну тысячу варты яго моцныя, мазолістыя рукі, цярпенне, жаданне і ўменне працаваць да чорнай стомы.

Так, даўно адчуваецца дэфіцыт на мазолістыя рукі... Паўсюдна па рэспубліцы.

Сярод соцень лістоў, што прыходзяць ад раззлаваных грамадзян шаноўнага Бабруйска, былі толькі папрокі, заўвагі. Усе «сігналізавалі», і ніводзін не пахваліўся, што парамантаваў лаўку ў грамадскім двары, зашкліў акенца ў калідоры дома, праўда, дзяржаўнага. Тут ён пражыў палову жыцця, плацячы 10—15 рублёў у месяц...

Як жа вярнуць так незаслужана забытую шчымлівую і радасную песню піл і перастуку сякер? З прыхаванай зайздрасцю я назіраў у Грузіі дзіва. Малады, дваццаціпяцігадовы хлопец ладаваў сваё котлішча. Уся вёска сабралася тут, на пляц. Некалькі дзён ад маладога да старога складалі хлопцу падмурак. Капалі траншэі, насілі раствор, каменне... І за ўсё гэта ніхто не патрабаваў і капейкі. Такая вось цудоўная традыцыя, вартая пераймання.

Усцешвае, што ў Бабруйску робяць усё, каб заахвоціць маладых забудоўшчыкаў. Гарвыканком выдзеліў два ўчасткі, куды будуць падведзены гарадскія камунікацыі. Бяры ўчастак, спяшайся за дзяржаўнай пазыкай і будуйся. Будзе ў тваім катэджы гарачая і халодная вада, паравое ацяпленне. Жывi і радуйся. Бульба ў склепчыку, свае прысмакі пад рукой. Вылузаўся з адной чаргі, не пабяжыш і ў другую, бо ўсё сваё...

Хочацца верыць, што сярод тых пятнаццаці тысяч «чаргавікоў», многія з якіх спадзяюцца атрымаць кватэру ў Бабруйску не раней 2000 года, маюць магчымасць засяліцца пад «свой» дах літаральна за лічаныя месяцы. Аніякага дзіва не чакайце, дзіва ў вашых уласных руках. Мазолістых працавітых руках.

**Фота У. МАРЦЫЕНКІ і БЕЛТА.**



# ПАЙШОЎ У БЕССМЯРОТНАСЦЬ

Даўно адгрымела рэха вайны. Але памяць пра яе не слабее. Кожны год летапіс Вялікай Айчыннай дапаўняецца новымі старонкамі, ажываюць новыя імёны, праясняюцца лёсы.

У пачатку 1974 года Паўднёвай Асеціі ўручалі ордэн Дружбы народаў. Цырымонія ўручэння транслiравалася па цэнтральным тэлебачанні, дзе выступіў тагачасны першы сакратар абкома партыі Ф. С. Санакоеў. Сярод тых, хто глядзеў гэту перадачу, быў і жыхар горада Мінска С. З. Крэмнеў. І прыпомніўся яму баявы сябар, падпольшчык, таксама Санакоеў. Падумалася: можа, родзіч гэтаму чалавеку. І напісаў ён сакратару абкома пісьмо.

«Паважаны таварыш Санакоеў. Пачуў ваша прозвішча і ўспомніў 1941 год. Тады я працаваў на падпольнай партыйнай рабоце ў Бабруйску і ведаў ваеннага ўрача, таксама Санакоева. Ён быў у падпольнай групе К. М. Якаўлева, якая дзейнічала ў Бабруйскай гарадской бальніцы, дзе ў 1941 годзе лячыліся галоўным чынам савецкія воіны. Пасля лячэння яны павінны былі быць накіраваны ў лагеры ваеннапалонных, але падпольшчыкі ўхітраліся перапраўляць іх у партызанскія атрады. Гэтым самым яны рабілі неацэнную паслугу першым партызанскім групам і атрадам з мясцовага насельніцтва Акцябрскага і Клічаўскага раёнаў Беларусі. Яны забяспечвалі партызан таксама медыкаментамі і перавязачнымі матэрыяламі, накіроўвалі ў атрады вопытных урачоў.

У гэтай справе вялікую ролю адыграў урач-падпольшчык, асецін па нацыянальнасці, Санакоеў.

Фашысты раскрылі гэту падпольную групу, і Санакоеў разам з іншымі падпольшчыкамі быў расстраляны...

У сувязі з гэтым у мяне да Вас вялікая просьба: даручыць аблваенкамату, ці каму вы палічыце патрэбным, навесці адпаведныя даведкі аб Санакоеве і яго родных, каб можна было некаму з іх паслаць даведку аб тым, як ён загінуў у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Відаць, да гэтага часу ён лічыцца загінуўшым без вестак. Хачу выканаць свой абавязак перад загінуўшым таварышам. І прашу вас адгукнуцца на гэта пісьмо. Мінск, Крэмнеў С. З.».

У пошук уключыліся чырвоныя следапыты з клуба «Арганаўты» Цхінвальскай сярэдняй школы № 3 пад кіраўніцтвам педагога К. М. Бяловай.

Цяпер у іх шмат дакументаў і пісем з успамінамі пра падпольшчыка Глеба Паўлавіча Санакоева.

Так родзічы, сябры, землякі даведаліся пра лёс Глеба Санакоева.

Адзін з братоў Глеба, Уладзімір, выехаў неадкладна ў Мінск да С. З. Крэмнева. Далёка за поўнач зацягнулася іх гаворка. Потым Уладзімір накіроўваўся ў Бабруйск, дзе спадзяваўся знайсці сведак і ўдзельнікаў падполля, якія ведалі асабіста Санакоева.

Сустрэўся з тымі, хто прытуліў брата ў суровым сорак першым, хто дапамагаў яму, непакоіўся, клапаціўся пра яго, як пра роднага.

Каб пацвердзіць, што гэта сапраўды той Санакоеў, Крэмнеў адаслаў яго фота, прывезенае Уладзімірам, былому кіраўніку падпольнай групы К. М. Якаўлеву, які жыве ў горадзе Омску. Вельмі хутка Крэмнеў атрымаў адказ ад Якаўлева: «Дарагі Сяргей Зіноўевіч! Тэрмінова адказваю на тваё пісьмо і што-колечы паведамляю пра Санакоева Глеба. Так, гэта ён, ваенны ўрач, які аказаўся пасля акружэння ў Бабруйску. Праз урача Гурскую, якая цяпер бяцца бы працуе ў Кіеўскім інстытуце пералівання крыві, я пазнаёміўся з Глебам Санакоевым і па даручэнню кіраўніцтва падполля прапанаваў яму ісці ў нямецкую бальніцу-шпіталь працаваць. Спачатку Санакоеў, Гурская, Макшынская, Валодзя Зэмба займаліся вызваленнем палонных чырвонаармейцаў з лагера і паспяхова правадзілі гэту работу. Потым Глеб і Валодзя ўвайшлі ў групу баевікоў-знішчальнікаў. Калі я выходзіў з Бабруйска ў лясы ў сакавіку 1942 года, Санакоеў заставаўся там і вёў работу супраць фашыстаў. Разам з падпольшчыкам фельчарам Валодзем Зембам, санітаркай Аленай Адамаўнай Зэмба ён быў схоплены фашыстамі і расстраляны.

Глеб Санакоеў па нацыянальнасці асецін, гарачы, тэмпераментны. Ён, па словах Зембы, нават у нямецкім шпіталі насіў у кішэні пісталет, хоць гэта і забаранялася. Вось, пэўна, і ўсё, што я магу напісаць пра Глеба. Баявы, мужны, адданы Радзіме чалавек, гатовы на любы подзвіг у імя Радзімы і нават на самаахвяраванне».

У снежні 1941 — студзені 1942 г. арганізавана пайшла ў лес група Лівенцава, на базе якой быў створаны партызанскі атрад № 752, а пазней 1-я Бабруйская партызанская брыгада.

У 1942 годзе з горада пайшлі групы С. З. Крэмнева, К. М. Якаўлева і іншыя.

Кожная група, адыходзячы ў лес, пакідала частку сваіх людзей у горадзе, якія мужна выконвалі заданні партызанскага камандавання.

Сярод гэтых людзей быў і Г. П. Санакоеў.

**З УСПАМІНАЎ ГАННЫ МІХАЙЛАЎНЫ СКАРАХОДАВАЙ:**

**«Я працавала ў гэтым шпіталі хірургічнай сястрой, а Г. П. Санакоеў — хірургам. Праз нейкі час яму ўдалося атрымаць дазвол на свабоднае пражыванне ў горадзе і працаваць у гарадской бальніцы для абслугоўвання мірнага насельніцтва. Я прапанавала яму кватэру у доме маіх бацькоў па вуліцы Піянерскай, 8, дзе жыла і сама.**

**Санакоеў прыносіў з бальніцы дадому розныя медыкаменты і перавязачныя матэрыялы і прасіў мяне ўсё гэта надзейна хаваць. Ён шукаў сувязі з падполлем і прыкладна ў кастрычніку 1941 г.— знайшоў, але мне толькі сказаў, што будзе прыходзіць фельчар Зэмба Валодзя і я павінна аддаваць яму медыкаменты, колькі ён папросіць».**

Ганна Міхайлаўна добра разумела, што ўсё гэта перапраўлялася партызанам. У студзені 1942 г. Г. П. Санакоеў перайшоў жыць у бальніцу, ён не хацеў, каб бацькі Ганны адчувалі сябе ў небяспецы.

**«Аднойчы, прыкладна ў сакавіку 1942 г., Санакоеў прыйшоў да нас дадому вельмі ўзрушаны і сказаў, што, відаць, яго арыштуюць. Я яму прапанавала пайсці да маіх родзічаў, якія жылі за Бярэзінай у пасёлку Цітаўка, яму там дапамогуць схавацца, а потым пайсці ў лес да партызанаў. Але ён сказаў, што не можа гэта зрабіць зараз, бо трэба ратаваць людзей, якія нічога не ведаюць аб небяспецы. Развітаўся з намі і пайшоў.**

**Назаўтра ён быў арыштаваны разам з Валодзем Зембам, яго маці Аленай Адамаўнай і Гурскай Ларысай Аляксандраўнай.**

**З Аленай Адамаўнай мы сядзелі ў адной камеры з 2 па 13 мая 1942 года. У гэты страшны дзень, 13 мая, усіх маіх таварышаў расстралялі. Я чула, як іх па адным выклікалі, як яны развітваліся з тымі, хто заставаўся, і ішлі на смерць. Маці Зембы, Алену Адамаўну, адпусцілі дадому, але яна пайшла разам з сынам Валодзем. Іх расстралялі разам.**

**Прайшло так багата гадоў, а я пішу гэтыя радкі, узрушваючы ад перажытага. Мяне мог напаткаць такі ж лёс, але ўрач Санакоеў і фельчар Зэмба не выдалі мяне, і я вярнулася зноў на работу.**

**Пасля гэтых трагічных падзей умовы нашай падпольнай работы сталі значна цяжэйшымі, але мы працягвалі рабіць, што маглі: затрымлівалі, хавалі моладзь ад адпраўкі ў Германію, выдавалі фіктыўныя даведкі аб хваробах, аперыравалі тых, каго і не трэба было, і г. д.».**

**З ПІСЬМА ЛАРЫСЫ АЛЯКСАНДРАЎНЫ ГУРСКАЙ БРАТУ:**

**«Паважаны Уладзімір Паўлавіч, сёння дзень гібелі Глеба... Шмат гадоў прайшло, ужо і дзесяцігоддзі, як жорсткі вораг забраў яго жыццё. Але Глеб не загінуў, ён пайшоў у бессмяротнасць. Усе мы, хто ведаў яго, да канца дзён сваіх будзем помніць, што ён аддаў усяго сябе за справу, у якую верыў, і свой абавязак перад Радзімай выканаў як сапраўдны, верны патрыёт!**

**Мы ўкленчваем перад ім і перад усімі, падобнымі на яго».**

**Валерый ГАСІЕЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

У МІНЧАНІНА АЛЯКСАНДРА ЯРМОЛЕНКІ АВІЯБІЛЕТ БЫЎ ДА НІЖНЯВАРТАЎСКА. НА ПОЎНАЧ ЦЮМЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЁН НЕ ПРЫЛЯЦЕЎ... ПАСМЯРОТНА ЎЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ «ЗНАК ПАШАНЫ».

## ТАКСАМАТОР І «ТУ»

Цяпер, калі суд вызначыў меру віны кожнага з забойцаў і іх саўдзельнікаў, стаў магчымым расказ аб трагедыі на борце авіялайнера № 65877.

Гэта здарылася больш года назад.

Чацвёра ваеннаслужачых аднаго з падраздзяленняў унутраных войск МУС СССР сталі на шлях здрады і распрацавалі «аперацыю» здрады Радзіме, для ажыццяўлення якой ім быў неабходны самалёт.

Прычым — вялікі самалёт грамадзянскай авіяцыі.

Назавём прозвішчы гэтых чацвярых адразу, каб далей як мага радзей вяртацца да іх і не ставіць іх побач з імёнамі тых, для каго апошні палёт стаў палётам-подзвігам, чыя мужнасць адзначана ўзнагародамі Радзімы.

Лайнер вырашылі захапіць малодшы сяржант Мацнеў, радавыя Ягмуржы, Канавал, Фядоткін. Усе разам яны былі прызначаны ў нарад. Такога зручнага выпадку для пачатку пірацкага нападу «аднадумцы» чакалі і таму дзейнічалі хутка, спакойна, не раздумваючы.

Ноччу трое з іх адчынілі пакой, дзе захоўваліся зброя і боепрыпасы, выкралі ручны кулямёт, аўтамат, снайперскую вінтоўку, патроны... Здраднікаў ніхто не спыніў, і ўжо праз некалькі мінут яны загадвалі вадзіцелю таксі:

— За горад!

Яны ехалі да Фядоткіна — ён быў у адным з караулаў, які ахоўваў склад і баявую тэхніку: у аэрапорт сябры думалі прыехаць на бронетранспарцёры.

У гэты час борт № 65877 ужо трымаў курс на Уфу: дзе ў яго прамежкавая пасадка і дзе разгарнуліся неверагодныя, страшныя падзеі.

...Уфімская Затока. Ускраіна горада, пасёлак рачнікоў.

Яшчэ нядаўна ўвесь пасёлак — баракі, драўляныя дамы, глухія завулкі... Калі праз раку Белую пабудавалі прыгожы і шырокі мост, Затока сталаператварацца ў сучасны жылы масіў. І ўсётакі да гэтага часу ён зусім не самы спакойны раён на картах уфімскай міліцыі.

Міліцыянеры Ахцямаў і Галееў ахоўвалі ў тую ноч даручаныя ім аб'екты і спакой мірных жыхароў.

Ішоў моцны дождж, святло фар патрульнага аўтамабіля выхапіла з цемры таксі на абочыне. Відаць, пад лівенем машына паказалася нараду падазронай.

Трое ўзброеных — ужо злачынцаў, але яшчэ не забойцаў — загадалі таксісту спыніцца. Спыніліся з адной мэтай: вырашылі змяніць аўтамабіль. Але ў першай жа машыне, якая праязджала міма, былі Ахцямаў і Галееў.

Бандыты ўбачылі іх форму, адразу схапіліся за зброю, адкрылі агонь і забілі міліцыянераў. Пасля гэтага думку аб бронетранспарцёры давялося пакінуць. Тым больш, што адзін з траіх (удакладнім — Канавал) спалохаўся, уцёк, а двое, што засталіся,— з аўтаматам і кулямётам у руках — амаль не сумняваліся: праследаванне пачалося, час працуе супраць іх.

— У аэрапорт! Гані, шэф, гані...

Але праследавання яшчэ не было. Зрэшты, яго — у самым прамым сэнсе слова — і не будзе.

## «САМАЛЁТ ЗАХОПЛЕН!»

«ТУ-134» здзейсніў пасадку ў аэрапорце «Уфа» і падрулиў да самага краю перона. Кароткі прыпынак на шляху перад апошнім адрэзкам маршруту Уфа — Ніжнявартаўск.

Тыповы будынак аэравакзала 70-х гадоў.



# БОРТ № 65877

Расторна і няўтульна. Тым больш — а пятай гадзіне раніцы. Пасажыры з «ТУ» праходжваліся па зале, прыслухоўваліся да аб'яў дыктара.

У гэтыя ж мінуты ля самага краю перона ляжалі, прыціскаліся да зямлі двое забойцаў, двое здраднікаў. Яны таксама чакалі пачатку пасадкі на «ТУ» з бартавым нумарам 65877. Гэты лайнер быў амаль побач.

Семдзесят чатыры пасажыры падняліся па трапе. Многія з іх — нафтавікі, будаўнікі. Людзі маладыя, моцныя, такіх спалохаць цяжка. Але цяпер яны паспешліва займалі месцы. Яны ўжо шмат лята лі. Парадак пасадкі добра знаёмы, пытанняў-просьбаў да экіпажа няма.

Ніхто не заўважыў, што апошнімі па трапе ўзбеглі (назавём, каб удакладніць) Мацнеў і Ягмуржы. Аўтамат і кулямёт, кулі з якіх ужо абарвалі жыццё двух маладых міліцыянераў, цяпер былі накіраваны ў салон.

— Самалёт захоплен! Бортправадніца, перадай камандзіру патрабаванне: курс — на поўдзень, за межы краіны. І няхай аддасць «пушку».

Як маглі б развівацца ашаламляльныя падзеі на борце «ТУ» далей? Не ведаю. Відаць, нават меркаваць тут немагчыма.

Але зразумела: тыя, хто выкраў зброю, забіў міліцыянераў, былі гатовы захапіць бронетранспарцёр і зрашэціць кулямі кожнага дзеля мэты «аперацыі», ужо не мелі дарогі назад. На іх руках была кроў, а што гэта значыць — салдатам унутраных войск тлумачыць не трэба. І яшчэ ясна: любому экіпажу, маладым нафтавікам і будаўнікам было зразумела (служылі ў арміі — і нядаўна), якая зброя аказалася ў бандытаў і якая бойня можа пачацца ў салоне.

Ярмоленка ніколі не раскажа, што ён адчуваў, якая сіла падняла яго з крэсла, каб абяззброіць забойцаў і ўратаваць людзей. Ён адзін ірвануўся з месца. У руках — куртка. Патрэбна імгненне, каб асляпіць ворага, вырваць або накіраваць уверх ствалы кулямёта і аўтамата, а там — ачомаюцца ад шоку і іншыя.

Апошнімі словамі Аляксандра былі:

— Чаго, хлопцы, расшумеліся? Давайце разбяромся...

Яго паласнулі агнём ва ўпор. Смяротна паранілі яшчэ аднаго чалавека.

Долі секунды не хапіла Аляксандру. Ён дзейнічаў смела, псіхалагічна правільна. Не адчай, не лютасць і тым больш не страх за самога сябе далі Ярмоленку сілы пайсці на накіраваны ў яго грудзі кулямёт. Ён ішоў і стараўся здавацца «простым хлопцам», які яшчэ нічога да канца не зразумеў, ішоў, каб перамагчы або загінуць.

Ён усведамляў гэта: перамагчы або загінуць. Мужнасць? Так. Подзвіг? Так.

Смерць Ярмоленкі і расстроіла амаль ажыццёўлены план юных падонкаў: кулі разгерметызавалі «ТУ». Узлёт лайнера стаў немагчымым. Неўзабаве ён быў акружаны аператыўнымі работнікамі міліцыі і КДБ.

Злачынцы патрабавалі ў «зямлі»:

— Тэрмінова рамантуйце самалёт.

Але вось цяпер час з кожнай мінутай набліжаў паражэнне забойцаў і крах іх «аперацыі».

Бортправадніцы ўжо адышлі ад шоку і — з годнасцю, мужна, без ценю бачнага страху — сталі вырываць ініцыятыву ў двух бандытаў, маральна падтрымліваючы пасажыраў, якія засталіся ў жывых.

Бандыты разлічвалі, што змогуць запалохаць людзей, з дапамогай зброі прымусяць іх рабіць усё, што будзе імі загадана.

Не, ніхто не тросся ад жаху. На іх глядзелі з нянавісцю, з пагардай. А няўпэўненасць, разгубленасць, страх — у вачах гэтых двух з аўтаматычнай зброяй у руках.

Прайшла гадзіна, яшчэ гадзіна... Світанак. Больш выстралаў не было, але паядынак у лайнеры працягваўся. Гэта быў паядынак маралі і амаральнасці, сумленнасці і здрады, маральнай перакананасці і маральнай смерці.

І злачынцы былі вымушаны пачаць адступаць: спачатку пагадзіліся вызваліць жанчын і дзяцей, затым — яшчэ частку пасажыраў. Відаць, захопнікі пачалі ўжо разумець: «аперацыя» не завершыцца. Яны патрабавалі наркотыкі і гітару...

Спецыяльная група чэкістаў дзейнічала дакладна: адзін з бандытаў забіты, другі — ранены.

Усё. Борт № 65877 ачышчаны ад піратаў.

## ПРА ШТО НЕ ДАВЕДАЕЦЦА ЯРМОЛЕНКА

Цяпер можна было б расказаць, якія прыгаворы вынес усім удзельнікам злачынства Ваенны трыбунал, чаму бандыты так лёгка выкралі зброю, хто вінаваты ў тым, што ім усё-такі ўдалося непрыкметна пранікнуць на лётнае поле, падняцца па трапе ў самалёт, якая ацэнка дадзена маральнаму клімату і рабоце афіцэраў з падначаленымі ў Н-скім падраздзяленні, як маглі наркаманы (ужо выяўленыя!) аказацца на службе ва ўнутраных войсках і чаму ніхто не заўважаў, што вакол вучэбнага пункта падраздзялення зараснікі канапель... Вось пра што і яшчэ пра многае іншае можна было б расказаць цяпер. Аднак гэты артыкул не аб ходзе следства, не аб праблемах аэрапорта «Уфа» і ваенкаматаў. Пра гэта, дарэчы, пісалі газеты Расіі, у прыватнасці,— «Советская Россия».

Мы ж аддаём даніну павагі мужнасці нашага земляка, мінчаніна Аляксандра Сяргеевіча Ярмоленкі.

Ён ніколі не даведаецца, што стаў на шляху раз'юшаных наркаманаў, якія марылі вылецець «куды-небудзь у Ізраіль або Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку» і вельмі хацелі быць падобнымі на герояў заходніх фільмаў жахаў. Яны жадалі «быць незалежнымі, моцнымі, мець грошы і ўцехі». Ярмоленка не даведаецца, што за падданства яго забойцы гатовы былі заплаціць здрадай, расказаць «усё, што зацікавіць спецслужбы».

Вядома, па простай выпадковасці бандыты выбралі мэтай захопу борт № 65877. Але не выпадковасць не дазволіла ім апынуцца на Захадзе, беспакарана ўхіліцца ад адказу за забойствы. На іх шляху стаў Аляксандр, на іх шляху стала мужнасць сапраўднага савецкага чалавека.

Ярмоленка працаваў вахтавіком, ён ляцеў на мантаж жылога дома ў горадзе Радужным, што на поўначы Цюменскай вобласці. Аляксандр Сяргеевіч быў цесляром-бетоншчыкам.

Ярмоленка запомніўся яго таварышам сваёй прынцыповасцю, выдатнай працавітасцю, дабратой... Дом, які пачынаў будаваць Аляксандр Сяргеевіч, ужо заселены. Цёплы, добры дом. Навасёлы ведаюць пра подзвіг Ярмоленкі, успамінаюць яго добрымі словамі.

Загінуў цудоўны, сапраўдны чалавек. Але падрастаюць у Беларусі двое яго дзяцей, стаіць у далёкім Радужным дом, захоўваецца ў яго сям'і ўзнагарода Радзімы — ордэн... І мы таксама будзем ведаць і помніць яго імя, яго подзвіг.

**Валерый ЛАПІН.**

**Апошні фотаздымак Аляксандра Ярмоленкі (ён — перад вамі) у рэдакцыю «Беларусі» перадала яго жонка, Тамара Антонаўна.**

**— Увогуле, муж не любіў фатаграфавацца,— сказала яна.— А вось перад апошняй паездкай у Радужны — як быццам прадчуваў бяду — прапанаваў схадзіць у фотаатэльe ўсім разам. Але за клопатамі не сабраліся...**

**Паўлюк ПРАНУЗА**

## *Абеліскі*

Стэлы. Помнікі. Абеліскі
Да Берліна ад Волгі-ракі.
Захаваў да драбнюткае рыскі
Вашы вобразы я, землякі.

Шлях прайшлі непаўторны, суровы.
Колькі дзён і бяссонных начэй!
Чую вашы каманды, размовы,
Бачу ўсмешкі і зоркі вачэй.

Калі хто пад снарадамі падаў,
Рукі сябра далей неслі сцяг.
Пад Масквою, пад Сталінградам
Пачалі штурмаваць мы рэйхстаг...

Бой на Курскай дузе —
Люты, цяжкі.
Сталь раўла у хаўрусе з свінцом.
Паў з Калінкавіч сябар Івашкін,
Паў з-пад Гомеля сябар Сіўцоў.

Пад Берлінам — у сэрцы
з надзеяй,
Што пабачыць Дняпро, Рагачоў,
Паў, як віцязь, адважны
гвардзеец,
Непаўторны паэт Сурначоў.

Я бядую трывожна і шчыра,
Што іх лёс у баях не зберог.
Абеліскі — арыенціры
Нашай памяці і перамог.

## *Памяці сябра*

*Аляксею* **ПЫСІНУ.**

Тэлефон маўчыць. Ніхто
не звоніць.
Смутак свой у сэрцы я таю.
Па-суседску у твой дом сягоння
Завітаў. Спыніўся і стаю.

Стол прыбраны. Ціха.
Кніжак стосік.
Не выходзіш прывітацца ты.
Паштальён табе яшчэ прыносіць
Ад знаёмых і сяброў лісты.

На сцяне з часоў далёкіх фота.
На грудзях — медалі, ардэны.
Памятаю, як у бой вёў роту
У Берліне на краю вайны.

Скончан бой. Бяздымнае світанне.
Палымнеў сцягоў прабітых шоўк.
Ты ж пісаў: «Калі мяне не стане,
Я ў сваю дывізію пайшоў».

## *Я рос пад гострымі вятрамі*

Як ні крамсала,
Як ні гнула
Мяне жыццё за столькі год,
Але мяне не бартанула
Наводшыб з кузава свайго.

Глыбока ўрос я каранямі
У справы, у зямлю бацькоў.
Я рос пад гострымі вятрамі,
Не баючыся скразнякоў.

## *Зайздросная сіла*

Гэта ж трэба! Зайздросная
сіла —
Узарвалі асфальт карані.
Ні лісточка з бярозы не збіла,
Не прастрэліла цішыні.

І грыбы прабіваюцца дружна,
Не са сталі галоўкі у іх.
Я люблю гэту сціплую мужнасць
Пабрацімаў мясцін баравых.

## *Маё пакаленне*

Адыходзіць маё пакаленне.
Адыходзіць у небыццё.
Перагрузкі, інфаркты, раненні
Нам падрэзалі крылы-жыццё.

Нас не страшыць і гэта завеса.
Рэалісты — не церпім маны.
Нам на змену здаровы падлесак
Раскусціўся — унукі, сыны.

Ён сваёю ахрышчаны славай,
Хопіць спраў і яму на вяку.
Быў наш лёс пад агнём пераправай
Праз кіпучую ў бурах раку.

**Юрась СВІРКА**

## *Непадалёку ад Ай-Петры*

Яны палеглі ў сорак першым,
На першым месяцы вайны...
Сцяжынкай узышлі мы пешшу.
Па ёй хадзілі і яны.

Тут пад рукой аблокі з ветрам,
Тут фарміруецца туман.
Непадалёку ад Ай-Петры
Магіла крымскіх партызан.

Як сімвалічна — над абрывамі...
Паветра над скалой трымціць.
А ўнізе мора пералівам
Гудроннай масы зіхаціць.

Ля абеліска непакорным —
Чырвоных кветак аганькі.
У ганаровай варце горы
І кіпарысы, як штыкі.

І неба прыўзняло карону,
Яно іх бачыла жывых,
Калі ляжалі ў абароне
На гэтых скалах векавых.

Яны палеглі за Айчыну,
За родны дом, за родны Крым.
І вучаць, як стаяць павінны
За родны край.
Стаім! Маўчым.

Далей, далей адсюль, машыны,
І гаварыце тут цішэй.
Ты, рукатворная вяршыня,
За ўсе прыродныя — вышэй.

## *Калыханка не для сну*

Засынай, маленькая трывога,
Засынай, лянотная знямога;
Засынай, няясная задума,
Засынай, і здзек, і прага глуму;
Засынай жаданне —
брацць чужое,—
Паслушэнства рабскае, сляпое;
Засынай няшчырасць і зазнайства,
Засынай і зайздрасць,
і нядбайства,
Засынай, варожасць, прага бою,
Што жадаюць спапяліць жывое,
...І заснуць і не прачнуцца
заўтра,
Калі будзе верхаводзіць праўда.

І заснуць (няхай і не імгненна),
Калі спаць не ўляжацца сумленне.

І заснуць яны у згодным гудзе,
Калі я і ты драмаць не будзем.

## *Вёсны Перамогі*

Я не адчую ніколі знямогі
Вёсны лічыць дарагой Перамогі,
Той,
Што у памятным сорак пятым
Сцяг узняла урачыста крылаты,
Сцяг самай мірнай,
любімай Айчыны
Над чорным рэйхстагам,
Над дымным Берлінам.
Сцяг пераможны, пунсова-чырвоны,
Крывёй за яго
Заплацілі мільёны,
Аж дваццаць мільёнаў
Загубленых сэрцаў.
І сёння ад болю
Душа ўстрапянецца.
Тады мне адгрукала
Роўна дванаццаць.
Не хочацца ў час той далёкі
вяртацца.
І лічыць мне годы
Мая Перамога,
У вечнасць маю напраўляе дарогу.
Няцяжка: свае пералічваю годы,
Няхай,
Што настрой мой зусім не лагодны.
І вёсны мае
Закругляюцца ў маі.
К гадам Перамогі
Свае дабаўляю —
Дванаццаць гаротных,
Галодна-блакадных,
І ўзрост мой
(Ніякай памылкі!) — дакладны.
Ёй сорак было,
Перамозе Вялікай,
Ды вёснам яе
Не паддацца падліку.
Стагоддзі з ёй будуць
і тысячагоддзі.
Яна застанецца — жывой
у народзе.
Яна застанецца ў вяках —
маладою,
Бо свет ад вайны засланіла
сабою.

✦

Не чутна пеўня ў бацькавым двары,
Даўно ён адспяваў, адкукарэкаў.
Сялібу ўпадабаў туман сыры,
Прадрог, відаць, ля рэчкі,
недарэка.

У пуньцы быў салодкі, сенны пах.
І у хляве карова уздыхала.
Адкормнік сыта рохкаў па начах,
І ластаўка гняздзечка
майстравала.

А зараз апусцеў і двор і хлеў.
У пуньцы пахне цвіллю і мышамі.
І певень не пачне гарласты спеў,
І конь трывогу не стрыжэ вушамі.

Хапала у калодзежы вады,
І ў засуху ён не мялеў ніколі.
Што доўга не прыходзіў я сюды,
Перакасіўся ён, нібы ад болю.

Азмрочаная хата на замку.
А сад разросся, ды здзічэў
з гадамі.
І нешта вецер шэпча вішняку,
Здалося, што мяне ён не згадае.

Двор не пазнаў. Відаць, і я
не свой.
А тут было і ўтульна мне
і цёпла...
Касою некляпанаю, тупой
Дварышча брат скасіў, нібыта
поплаў.

Сюды мяне цягнула адусюль
Да гэтага драўлянага парога.
Ля ганка стаў маліновы «Жыгуль»,
Чахлом прыкрыты, нібы конь
з дарогі.

Чым некалі я жыў, усё ў былым.
І ажывіць яго ўжо немагчыма.
Як нельга заставацца век малым,
Як нельга двойчы клясціся
радзіме.

## *Верш пра сяброўства*

Ён чакаў цэлы дзень. Дачакаўся
прыёму,
Як ён верыў, што сябра
паможа яму!
Не прыняў. Усміхнуўся:
«Спяшаю дадому...
Што, цябе не пускалі? Не знаю,
чаму».

Гэта ж разам яны штурмавалі
навуку,
Пяць гадоў глянцавалі, як кажуць,
штаны.
Пакляліся, што іхнія дзеці
і ўнукі
Будуць вернасць сябрам берагчы,
як яны.

І не зробяць іх чэрствымі час і
пасады,
Як былі, так і будуць
навечна сябры!
Пакляліся, што іх дабрату
і спагаду
Не задзьмуць, як слабую іскрынку,
вятры...

«Бедалага, няўдачнік. Куды мне
з табою?» —
Спачувальна ён пальцамі
скроню паскроб.
Палітончык худзенькі
айчыннага крою
І трусіная шапка, што лезе
на лоб.

Яго ж сябра ў дублёнцы, у шапцы
шыкоўнай,
За яе не бярэцца ні дождж,
ні мароз.
Ах, прарок Багушэвіч:
«...не роўна, не роўна»...
Бог дзяліў у тым веку.
І крыўдна да слёз.

«Ты заходзь і звані»,—
як чужому нібыта.
І пайшлі. Не паціснута
нават рука.
Ён — да «Чайкі» дзяржаўнай —
пад бляск антрацыту,—
А сябрук-бедалага, відаць,—
да шынка.




ЗЕМЛЯКІ

# салдацкі гармонік

І на фронце ігралі гармонікі. У кароткіх передышках між баямі, на прывалах, у зямлянках. Рэдкі гарманіст адпраўляўся на фронт без любімага інструмента. Ішоў з жартам: «Паміраць, дык з музыкай». Але кожны верыў у хуткае вяртанне. Вайна яшчэ толькі пачыналася, а байцы ўжо спявалі пра перамогу.

Разам з салдатам прайшоў гармонік слаўны баявы шлях. Ляжаў у акопах, мок у балотах, трэсся на палутарках і ў цяплушках. Не раз быў прашыты кулямі. Але голас ягоны заўсёды гучаў горда і звонка. Асабліва, калі браў гармонік у рукі ліхі музыкант...

Быў гармонік душою байцоў. Без яго жыццё не жыццё і вайна не вайна. Пад гармонік пелі і скакалі, сумавалі і радаваліся, пісалі родным лісты і курылі самакруткі.

А калі вораг быў знішчаны ў сваім логаве, сустрэліся на берлінскіх маставых гармонікі тульскія і саратаўскія, сібірскія і беларускія, смаленскія і літоўскія... Перамога! І вярталіся гарманісты дамоў з ордэнамі і медалямі на грудзях, з гармонікамі ў руках.

Наш гарманіст таксама ўсю вайну з гармонікам прайшоў. Калі вяртаўся ў сваю родную вёску Неглюбку, што ў Веткаўскім раёне, шырока развярнуў мяхі двухрадкі, каб усе пачулі: радавы Пятро Прыходзька з Перамогаю вярнуўся.

І па сённяшні дзень не развітваецца ветэран з гармонікам. Але не толькі іграць ён майстар: стварае гармонікі сваімі рукамі. Для сваіх чатырох сыноў-гарманістаў, для былых франтавікоў, для ўсіх, каму даспадобы голас прыходзькаўскага гармоніка. І называе іх у гонар салдацкай баявой доблесці проста — «Перамога».

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.



На рацэ нашага жыцця скрануўся спрасаваны за дзесяцігоддзі лёд маўчання і абыякавасці... Часам бязладна наскокваючы адна на адну, з залішнім грукатам і трэскам пайшлі адна за адной крыгі адкрытага выкрывання, крытыкі недахопаў, прыкладаў эканамічнай неабгрунтаванасці нашай сістэмы гаспадарання. Нібы айсбергі, вывернуліся на сонца сваім падводным бокам факты фальсіфікацыі гісторыі, сацыяльнай несправядлівасці. Крыгаход... Плывуць і плывуць бясконцым патокам вялікія і маленькія крыгі, і паступова ачышчаецца рака, і пачынае праглядаць скрозь ледзяную крышанку чыстая вада...

Міне час, і мы назавем гэтыя гады гадамі ачышчэння, працвярэжвання, прасвятлення. Мы нібыта прачнуліся пасля доўгага сну светлым ранкам і раптам заўважылі, што не ўсё добра ў нашым доме. Што трэба было б вынесці назапашанае гадамі смецце, падрамантаваць дах над галавой, памыць вокны, каб лепш відаць быў праз іх заўтрашні дзень...

Мы раптам заўважылі, а дакладней, прызналіся ўголас, што не ўсё ў парадку і з нашымі дзецьмі. Не так мы іх вучым, не так выхоўваем. А рэформа школы, на якую мы ўскладалі столькі надзей, адстаўшы ад бурных перамен у іншых галінах нашага жыцця, сама ператварылася ў сапраўдны тормаз.

Мы раптам усвядомілі да канца, што стаім толькі на першай прыступцы стварэння новай школы. (А што перабудоўваць усю сістэму народнай адукацыі ў адпаведнасці з перабудовай грамадства неабходна, цяпер для ўсіх стала відавочным.) Якой павінна быць новая школа? Як арганізаваць вучэбна-выхаваўчы працэс, каб выходзілі з яе людзі сапраўды высокай маралі, сумленныя, стойкія ў жыццёвых выпрабаваннях? Якую методыку трэба ўзяць на ўзбраенне, каб павысіць катастрафічна нізкую на сённяшні дзень якасць ведаў вучняў? Як навучыць іх не цурацца працы? Ці не занадта рана мы ўвялі ўсеагульную сярэднюю адукацыю? Што штурхае нашых дзяцей з утульных пакояў палацаў піянераў і аснашчаных найноўшым абсталяваннем спартыўных залаў на вуліцу, у змрочныя падвалы?

Тысячы і тысячы пытанняў стаяць сёння перад тымі, хто працуе на ніве народнай асветы. Каб адказаць на іх, асы педагагічнай навукі, нібы спахапіўшыся, кінуліся перачытваць наноў працы У. І. Леніна, А. В. Луначарскага, вывучаць педагагічную спадчыну А. С. Макаранкі, В. А. Сухамлінскага, вопыт перадавых педагогаў нашай краіны, замежных калег. Пытанне якаснага абнаўлення нашага сацыялістычнага грамадства, карэннай перабудовы сярэдняй і вышэйшай школы было вынесена на парадак дня лютаўскага Пленума ЦК КПСС. Размова, пачатая на пленуме, працягваецца на старонках перыядычнага друку. Педагогі ўсіх рэспублік дзеляцца вопытам, думкамі аб шляхах развіцця агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы. Ідзе падрыхтоўка да Усесаюзнага з'езда настаўнікаў...

# ЮНАЦТВА Ў ДАРОЗЕ



Абмяркоўваюцца гэтыя набалелыя пытанні і ў педагагічным калектыве аднаго з лепшых у рэспубліцы мінскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 103 чыгуначнага транспарту Упраўлення Беларускай чыгункі. Лічыць гэта вучылішча адным з лепшых ёсць усе падставы: сёлета, у лютым, на ўрачыстым вечары, прысвечаным 65-годдзю вучылішча, яго дырэктару была ўручана Ганаровая грамата за 1-е месца ў аглядзе-конкурсе чыгуначных вучылішчаў СССР і прэмія (3000 рублёў), якая яшчэ больш умацу трывалую матэрыяльную базу, створаную пры дапамозе Мінскага аддзялення чыгункі і лакаматыўнага дэпо. У новым, добра аснашчаным і прыгожа афармленым вучэбным корпусе, у інтэрнаце — чысціня і парадак, навучэнцы ў строгай чыгуначнай форме (толькі без зорачак на рукавах, як у выкладчыкаў) нават у сталоўку заходзяць без валтузні і ляманту, як гэта яны рабілі ў школе. Няма звыклых прэтэнзій да будучых чыгуначнікаў і ў работнікаў міліцыі — колькасць правапарушэнняў тут увесь час зніжаецца (з 23 выпадкаў у 1986 годзе да 9 — у 1987-м). Вучылішча занесена ў Кнігу пашаны ВДНГ СССР, наведвальнікі якой у павільёне прафтэхадукацыі могуць пазнаёміцца з альбомам, прысвечаным арганізацыі вучэбна-метадычнай работы ў мінскім СПТВ-103, аперацыйна-комплекснаму падыходу да навучання, які выпрацаваны і ўкаранёны тут упершыню ў краіне. Пазнаёміцца з гэтым метадам, а таксама з сістэмай самакіравання, якая дзейнічае ў вучылішчы другі год, прыязджаюць у Мінск пасланцы з Томска і Уфы, Фрунзе і Рыгі, Гомеля і Брэста. Ужо сам гэты факт сведчыць аб прызнанні работы гэтага самаадданага і творчага педагагічнага калектыву плённай.

Але дадзім слова самім педагогам.

**П. С. Гершанаў, намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце:**

— Вось вы звярнулі ўвагу на лозунг, які вісіць пры ўваходзе: «Дысцыпліна — наша сумленне і гонар». Рызыкую паказацца старамодным, але лічу, што дысцыпліна — адна з найпершых

Таямніцы прафесіі спасцігаюць будучыя гаспадыні гасцініцы на калёсах.

У гуртку тэхнічнай творчасці, якім кіруе Л. Г. Гаджыбалаеў, ужо сёння ломяць галаву над тым, што б яшчэ ўдасканаліць на чыгунцы.

умоў паспяховага навучання і выхавання ў любой навучальнай установе. А ў нашай прафесіі — гэта галоўнае патрабаванне. Памочнікі машыністаў электравозаў і цеплавозаў, электраманцёры СЦБ, пуцейцы, слесары, рамонтнікі вагонаў, праваднікі, дзяжурныя па станцыі, каго мы рыхтуем, павінны ў поўным аб'ёме валодаць прафесійнымі ведамі і навыкамі, але найперш яны павінны быць дысцыплінаванымі. Чыгунка не даруе расхлябанасці. І мы стараемся выхоўваць гэтую якасць у навучэнцаў з першага дня, як толькі яны пераступілі парог вучылішча. Пазней прывычка да дысцыпліны, унутранай сабранасці дапамагае ім і ў вучобе, і ў далейшым жыцці.

Вядома, дамагчыся гэтага нялёгка. Бо прыходзяць да нас нярэдка выпускнікі 8-гадовай або сярэдняй школы, якім ужо з пятага класа ўбівалі ў галаву, што з іх паводзінамі і паспяховасцю дарога — толькі ў ПТВ. А ПТВ — гэта тое месца, дзе ўсё можна... А мы з першага дня павінны ім даказаць, што ПТВ — гэта тое месца, дзе вучаць рабочаму сумленню і гонару, дзе асвойваюць сапраўдную, патрэбную людзям прафесію, дзе не месца невукам і разгільдзяям.

Пачынаем з таго, што прапануем тым, хто падаў заяву ў вучылішча (магчыма, у парушэнне інструкцыі) папрацаваць з тыдзень на добраўпарадкаванні тэрыторыі, рамонце класаў, майстэрань. За гэты тыдзень прыглядаемся да юнака ці дзяўчыны, чаго яны варты, ці можна залічваць. Маленькае выпрабаванне, а ўсё ж больш гаворыць пра чалавека, чым простая гутарка з ім.

Цяпер шмат пішуць пра загружанасць школы нагляднай агітацыяй. Вядома, «мёртвыя» стэнды і плакаты, якія выцвілі на сонцы за шмат гадоў, мала прыносяць карысці. Але калі гэта «жывыя», актуальныя насценгазеты, «калючкі», «пражэктары»? У нас у вучылішчы шмат стэндаў, светлавых карцін-слайдаў, фотавыставак, якія не толькі дапамагаюць навучэнцам быць у курсе ўсіх спраў, але і дазваляюць прасякнуцца рамантыкай нашай прафесіі. Зазірне першакурснік у наш музей і пазнаёміцца са слаўнай гісторыяй вучылішча, дзе цяпер і ён будзе вучыцца, даведаецца, што сярод яго выпускнікоў Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, удзельнікі Мінскага падполля і партызаны, дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР і будаўнікі БАМа, героі мірнага дня, якія сваімі энергічнымі, кваліфікаванымі дзеяннямі ў крытычнай сітуацыі выратавалі жыццё сотням людзей...

Дарэчы, пра кожную аварыю на чыгунцы Упраўленне паведамляе нам тэлеграмай, і мы на ўроках падрабязна разбіраем яе прычыны, спецыфіку і асаблівасці, вызначаем вінаватых. Такая адкрытасць, на мой погляд, дапамагае выхоўваць у навучэнцаў больш сур'ёзныя адносіны да вучобы і будучай прафесіі, прыводзіць іх да высновы, што галоўнае для чыгуначніка — сумленна выконваць свае абавязкі. На чыгунцы няма маленькіх людзей. Кожны на сваім месцы нясе вялікую адказнасць: рамонтнік, калі дае даведку-гарантыю пра спраўнасць аўтаматычных тармазоў на шляху руху поезда, праваднік, калі сочыць за тэмпературным рэжымам буксаў, дзяжурны па станцыі, калі прымае састаў...

За дысцыпліну мы змагаемся пастаянна, гэта штодзённая і карпатлівая работа. Вялікая нагрузка кладзецца на майстроў (а гэта ў большасці сваёй мужчыны, што таксама дае свае плюсы), якія пастаянна знаходзяцца са сваёй групай. Часта гутарым з бацькамі, арганізоўваем сустрэчы з нарколагамі, прадстаўнікамі следчых і прававых органаў. Ды што казаць, сочым за элементарнымі рэчамі — чатыры разы на тыдзень робім пастраенне груп, з тым каб праверыць выгляд навучэнцаў. Дый самі штодзень павінны паказваць прыклад сваім маладым калегам...

**Г. В. Серкуцьеў, дырэктар СПТВ-103, кандыдат педагагічных навук:**

— У ходзе дыскусіі аб кардынальных зменах у сістэме народнай адукацыі неаднаразова даводзілася чуць, што ўвядзенне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі было заўчасным. Маўляў, мы, педагогі, гэтым самым паставілі сябе ў становішча надакучлівай няньні, якая ў што б там ні стала імкнецца накарміць дзіця, якое не хоча есці. Тут ёсць доля праўды. Але ж не трэба забывацца, што мы жывём у час, калі наша грамадства ажыццяўляе рэвалюцыйны пераход да якасна новага стану і адчувае патрэбнасць, як адзначыў на пленуме М. С. Гарбачоў, «у грамадзяніне адукаваным, перакананым, адданым сацыялізму і разам з тым — актыўным, які шукае, умее жыць і працаваць ва ўмовах дэмакратыі, гаспадарчай самастойнасці калектываў». Так што дарогі назад няма. Вось чаму я рашуча адкідваю прапановы ператварыць ПТВ, якія працуюць на базе 8 класаў, в установу, дзе вучаць толькі прафесіі, не даючы сярэдняй адукацыі. Калі мы ўжо ўзяліся вучыць чалавека, рыхтаваць яго да жыцця, то павінны даць яму цвёрдыя, усебаковыя веды, расшырыць яго кругагляд, каб ён не адчуваў сябе потым у нейкай ступені абдзеленым.

Аднак самыя лепшыя намеры педагогаў могуць так і застацца толькі добрымі задумамі, калі не знойдзена разумная форма арганізацыі вучэбнага працэсу. Яшчэ калі пасля аспірантуры я працаваў загадчыкам аддзела дыдактычных праблем Беларускага філіяла УНДІ ПТВ, шмат думаў над тым, як зрабіць сам працэс вучобы больш цікавым, больш рацыянальным, а якасць засваення матэрыялу больш высокай. Таму і папрасіўся ў дырэктары ПТВ, каб праверыць свае задумы на практыцы.

І нікольні не шкадую, бо аперацыйна-комплексны метад, які мы ўкаранілі ў сістэму навучання нашых выхаванцаў, даў добры вынік: палепшылася якасць ведаў вучняў, павысілася іх зацікаўленасць у вучобе, дый нам, педагогам, працэс перадачы ведаў пачаў прыносіць задавальненне. Сутнасць гэтага метаду, калі гаварыць коратка, у тым, што мы калектыўна выпрацоўваем план урока, складаем яго канспект, адбіраючы галоўнае, на чым павінен засяродзіць увагу майстар або педагог, падбіраем дыдактычны матэрыял. Па гэтаму калектыўна выпрацаванаму плану працуюць усе педагогі. Аперацыйна-комплексны падыход уключае ў сябе і метад паглыбленага вывучэння прадмета. Гэта азначае на практыцы, што асноўныя прадметы — фізіку, хімію, матэматыку — мы вывучаем не ўрокамі, а блокамі — па 4 гадзіны, што дазваляе паглыбіцца ў прадмет, зацікавіць дзяцей, павысіць якасць засваення матэрыялу. Да таго ж гадзіны самападрыхтоўкі, якія раней праводзіліся пасля заняткаў, мы перанеслі на раніцу, з 8 да 10 гадзін. Цяпер нават самыя закаранелыя гультаі замест таго, каб паглядаць на гадзіннік і чакаць моманту, калі нарэшце адпусцяць дахаты, вымушаны рыхтавацца да ўрока, бо ведаюць, што зараз пачнецца блок матэматыкі або хіміі, і ў выкладчыка будзе дастаткова часу, каб папрацаваць з кожным. Метад паглыблення падабаецца і самім дзецям, яны захопліваюцца тэмай, з цікавасцю робяць доследы, рашаюць задачкі.

Мяркую, мы павінны не зніжаць, а павышаць патрабаванні да вучняў, узнімаць вышэй планку іх адукаванасці. Але для гэтага, на мой погляд, і педагогі, і дырэктар не павінны выступаць перад вучнем у ролі прасіцеля. Гэта вучань павінен прасіць настаўніка даць яму веды, старацца заслужыць яго пахвалу, як і было некалі. Мы самі прынізілі аўтарытэт настаўніка, а цяпер не ведаем, як узняць яго. Бываюць выпадкі, калі і мы, педагогі, і інспектар па справах непаўналетніх упрошваем абібока вучыцца, не хуліганіць, зрабіць нам ласку і прыйсці на ўрок. Чатырнаццацігадовы нахабнік сядзіць перад намі, паклаўшы нага на нагу і ўсміхаецца здзекліва, а мы не маем права ўзяць яго за каўнер і выкінуць на вуліцу. Мы павінны яго выхоўваць, у той час як бацькі абсалютна не клапоцяцца пра тое, кім вырасце іх сын, як будзе зарабляць сабе на хлеб. А павінны былі б клапаціцца...

**В. Г. Макарэвіч, майстар:**

— Мяне называюць аўтарам сістэмы самакіравання ў вучылішчы. Але ж гэта не зусім так. Я толькі падхапіў ідэю, якая насілася ў паветры, і надаў ёй форму, прыдатную менавіта для нашага вучылішча. Не буду шмат гаварыць пра тое, якое значэнне мае самакіраванне ў фарміраванні характараў падлеткаў, у стварэнні згуртаванага калектыву. Пра гэта шмат пісалі. Раскажу лепей, як арганізавана ў нас самакіраванне на практыцы.

Структура яго простая: мы арганізавалі на грамадскіх пачатках 5 дэканатаў: вучэбны, ідэйна-палітычнага, мастацкага, ваенна-патрыятычнага выхавання і спартыўна-масавай работы. На чале кожнага дэканата стаіць вопытны педагог, астатнія яго члены — самі навучэнцы. Распрацавалі 25 канкрэтных заданняў, або, як мы іх называем, накіраванняў, і размеркавалі. У выніку атрымалася, што кожны член групы атрымаў накіраванне: адзін адказвае за наведванне заняткаў, другі — за паспяховасць, трэці — за работу секцыі бокса і г. д. Штомесяц на пасяджэннях дэканатаў робяцца справаздачы, абмяркоўваюцца праведзеныя мерапрыемствы, складаецца план работы на наступны месяц. Самі дзеці кіруюць сваёй вучобай, спартыўнай работай, прыдумваюць, чым заняцца ў вольны час, і самі ж ажыццяўляюць намечанае. Яны — гаспадары ўсяго свайго жыцця ў вучылішчы, бо рашэнне дэканата — закон для ўсіх, у тым ліку і педагогаў.

**І. І. Лаўкет, старшы майстар:**

— Сапраўды, расшырэнне самастойнасці навучэнцаў мае неацэннае значэнне ў фарміраванні іх характараў, грамадзянскай сталасці. Элементы самакіравання мы выкарыстоўваем нават на ўроках вытворчай працы. Усю прадукцыю, якую мы вырабляем у майстэрнях для лакаматыўнага дэпо (ланцужкі для агляднальнікаў вагонаў, вентыляцыйныя сеткі і г. д.) разам з майстрам правярае група АТК, выбраная самімі навучэнцамі. Паверце мне, гэта самыя патрабавальныя і строгія суддзі. Іншы раз майстар можа нават даверыць групе АТК прымаць прадукцыю сваіх таварышаў самастойна.

Наогул жа я лічу, што навучанне ў любой школе абавязкова павінна спалучацца з вытворчай працай. Прыгадайце «Палажэнне аб адзінай працоўнай школе», зацверджанае на пасяджэнні ВЦВК 30 верасня 1918 года. У гэтым дакуменце першых гадоў рэвалюцыі было сказана, што «асновай школьнага жыцця павінна служыць вытворчая праца». Школа з малых гадоў павінна вучыць сваіх выхаванцаў працаваць калектыўна, выхоўваць павагу да працы і людзей працы, а для гэтага, як сказаў на пленуме Я. К. Лігачоў, важна, каб «школьная праца была мэтазгоднай, грамадска карыснай». Прыкладам гэтаму можа служыць унікальная сістэма арганічнай сувязі навучання з вытворчай працай у калектыве школы-камуны імя Дзяржынскага, распрацаваная А. С. Макаранкам. Гаспадарчы разлік, самаакупнасць, самафінансаванне — усё тое, чаго мы толькі цяпер дамагаемся ў працоўных калектывах дарослых,— ужо тады жыло і развівалася ў дзіцячым працоўным калектыве. Школа-камуна не атрымлівала датацый, а сама акуплівала ўсе свае выдаткі. Камунары апраналіся, абуваліся, карміліся на свае сродкі. На ашчадную кніжку кожнага штомесяц пералічваліся грошы. І ў дадатак да гэтага яны яшчэ давалі дзяржаве прыбытак. І нядрэнна, без асаблівага прымусу, вучыліся пры гэтым.

Нашы навучэнцы таксама атрымліваюць у час вытворчай практыкі 50 працэнтаў заробку. На мой погляд, гэта добра, бо садзейнічае ўступленню маладога чалавека ў сістэму эканамічных адносін грамадства, папярэджвае фарміраванне ўтрыманскіх настрояў, вучыць цаніць зароблены капейку.

**А. М. Бачыла, начальнік аддзела кадраў Беларускай чыгункі:**

— У нас няма прэтэнзій да выпускнікоў СПТВ-103. Як правіла, яны прыходзяць да нас з высокім узроўнем прафесійнай падрыхтаванасці, акуратныя, падцягнутыя. Шмат падзяк, добрых слоў ад пасажыраў мы чуем у адрас праваднікоў нашых фірменных паяздоў, дзе працуюць выпускнікі мінскага вучылішча чыгуначнікаў. Але, на жаль, так бывае далёка не заўсёды. Учарашнія старанныя, добрасумленныя вучні ператвараюцца ў п'яніц і прагульшчыкаў. Толькі за мінулы год 700 чыгуначнікаў пабывалі ў медвыцвярэзніку, за нядобрасумленныя адносіны да службовых абавязкаў летась мы вымушаны былі звольніць 16 праваднікоў, сёлета — ужо чацвёра.

Чаму так атрымліваецца? Ды таму, што вучоба, фарміраванне рабочага сумлення не заканчваецца ў сценах навучальнай установы. Малады чалавек выходзіць на жыццёвую дарогу з невялікім яшчэ багажом ведаў і пераканання́ў, і нізкі паклон педагогам, калі ў душу яго яны здолелі закласці добрае семя. Астатнюю шліфоўку ведаў, навыкаў, адносін да працы маладога рабочага будзе рабіць працоўны калектыў, куды ён трапіў. Усё жыццё — школа. Вядома, мы кожнага выпускніка ПТВ замацоўваем за вопытным настаўнікам. Але, на жаль, многія выконваюць гэтыя абавязкі фармальна. Таму нам трэба яшчэ шмат працаваць, шмат што мяняць, каб вытворчы калектыў мог выхаваць сапраўднага чалавека, кваліфікаванага і добрасумленнага працаўніка. Вось тады мы зможам сказаць, што зрабілі перабудову ў сваіх адносінах да працы, у сваёй свядомасці.

**Думкі педагогаў запісала**
**Людміла СУХАНАВА.**

**Фота Аляксея СМОЛЬСКАГА.**

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ



# СНЫ ЧЫРВОНАЙ ЮЛІІ

УРЫВАК З П'ЕСЫ

**«Марутка» («Сны чырвонай Юліі») — другая п'еса Святланы Алексіевіч. Першая — «У вайны не жаночае абліччa» — шырока вядома гледачам. Яна пастаўлена на многіх сцэнах краіны і за мяжою. «Марутка» ў нас у рэспубліцы паспяхова ідзе ў тэатры юнага гледача, прэм'еры яе рыхтуюцца на Украіне — у Луцку і Валынску, у польскім горадзе Плоцку. Аб чым жа гэта п'еса пісьменніцы! Аб складаным сённяшнім дні і трагічных падзеях 37-га года, аб непарыўнай сувязі пакаленняў, аб неабходнасці глыбокага, праўдзівага асэнсавання мінулага, дзеля будучага, дзеля таго, каб гэта мінулае не змагло ніколі больш паўтарыцца. «Грамадства абавязкова трэба правесці праз праўду дакумента»,— гаворыць С. Алексіевіч, і тут, у п'есе, яна астаецца вернай свайму прынцыпу. Часопіс «Беларусь» змяшчае ўрывак з п'есы «Марутка». Урывак, бадай, самы востры, кульмінацыйны, у якім сышліся ўсе дзеючыя асобы, у якім сутыкнуліся іх лёсы і погляды, найбольш ярка выявілася сутнасць іх характараў і які прымушае нас яшчэ і яшчэ раз азірнуцца ў сваё мінулае, сустрэцца з яго горкаю праўдаю.**

## АКТ ПЕРШЫ.

**Сцэна чацвёртая.**

Сядзяць Юлія Паўлаўна і Соф'я Андрэеўна, якая прыехала з інтэрната ветэранаў партыі, каб пабыць з сяброўкай, пакуль вернецца радня.

Соф'я Андрэеўна *(чытае ўголас газету)*. «Народы зямлі перажываюць зараз адказны перыяд свайго развіцця. Розум чалавека здзейсніў вялікае адкрыццё — грамадству стаў служыць атам. Але ёсць яшчэ ў свеце сілы, якія б хацелі і гэтае адкрыццё павярнуць супраць чалавека. Злачынцы ў імперыялістычным стане выношваюць планы, якія могуць прывесці да ядзернай катастрофы. Яны хацелі б і касмічную прастору пераўтварыць у арэну «зоркавых войн»...»

Юлія Паўлаўна. Мы хацелі аб'яднаць людзей братэрствам... Ідэяй! А аб'яднаў іх страх... Аб'яднала іх бомба... Калі яны спужаліся, што могуць знікнуць, як чырвоныя зайцы... Мы з табою таксама, як чырвоныя зайцы. Я ведаю, што я старая... Вельмі старая... Я памятаю аб гэтым...

Соф'я Андрэеўна. Нельга нам здаваць пазіцыі. Адкрыеш газеты *(прывычным шэптам)*— Сталіна крытыкуюць... Маладыя, што яны ведаюць... Яны шашкай па нашай гісторыі... Нядаўна ў школе была... Партрэт Ільіча падарылі... Праўда, раней па трыццаць — сорак лекцый у месяц чытала... Цяпер дзесяць... Не, мы не дадзім зрабіць з нашай гісторыі патухлую галавешку. Я не дам. У газету «Праўда» напісала...

Юлія Паўлаўна. Ты ўсё такая. Памятаеш, як нас называлі?

Соф'я Андрэеўна. Чырвоная Юлія і чырвоная Соф'я.

Юлія Паўлаўна. Я пакуль не захварэла, займалася грамадскімі справамі, часу не хапала. А цяпер дзень такі доўгі...

Соф'я Андрэеўна. Я пра тое табе і кажу. Табе ў калектыў трэба.

Юлія Паўлаўна. У мяне ніякай забавы... Ці, як гэта сёння называюць, хобі... Вось мой Акцябр... Выразае, стругае... Яму ў старасці будзе добра... Яшчэ лепш, чым цяпер... Ведала б я музыку, умела б іграць на чым-небудзь... Я не навучылася танцаваць, не ўмею танцаваць. Мне гэта было не патрэбна. Калі я бачыла, як другія жанчыны любяць апранацца, модзіць прычоску, мне здавалася гэта недарэчным. Мне здавалася дзіўным, што людзям гэта прыносіць задавальненне. Радасць... У нас нічога няма, акрамя мінулага. Для старасці гэта трагічна. Толькі зараз зразумела...

Соф'я Андрэеўна. Дарэмна ты так... Я гатавала такую ежу, што есці яе было немагчыма. Варыла такі суп, што нельга было ў рот узяць.

Юлія Паўлаўна. Памятаю... Памятаю... Частавала... Лапша з капустай...

Соф'я Андрэеўна. Мы рабілі рэвалюцыю. Шкада было марнаваць час на штонебудзь іншае.

Юлія Паўлаўна. Ты была прыгожая... Вельмі прыгожая... Доўгія чорныя валасы...

Соф'я Андрэеўна. А я не памятаю... Для мяне гэта не мела ніякага значэння ў момант сусветнай рэвалюцыі. Я цябе не пазнаю... Ты як у царкве... Сёння не той час... *(Глядзіць на гадзіннік.)* Таблеткі пара... *(Ідзе і бярэ таблеткі.)* Зараз прынясу вады... *(Ідзе на кухню па ваду, прыносіць кубак.)*

Юлія Паўлаўна. З чайніка?

Соф'я Андрэеўна. Ой! Забылася... З-пад крана... Зноў забылася...

Юлія Паўлаўна. А таблеткі? Са сваімі не пераблытай.

Соф'я Андрэеўна. Чаго ты баішся? У нас адна з табою хвароба — старасць. *(Падае таблеткі.)* Хутка твае вернуцца...

Юлія Паўлаўна. Хіба нам удваіх дрэнна? Усё-ткі тут дом...

Соф'я Андрэеўна. У інтэрнаце весялей... У нас там партсходы, палітгурткі па бягучаму палітычнаму моманту... Усе даклады вывучаем... Табе б да нас... Акрыяла б... Калі мы разам, усё вяртаецца... Усё наша... У нас свая мова... Як у птушак... Толькі мы адны яе разумеем...

Юлія Паўлаўна. Фёдар Батурын, казала, там?

Соф'я Андрэеўна. У нас... І не толькі ён... *(Але тут жа спужана замоўкла і пачынае пра іншае.)* У яго двое... Адзін — палкоўнік, другі — канструктар на трактарным заводзе... Прыедуць... Плача...

Юлія Паўлаўна. Хіба такія ўмеюць плакаць? У трыццаць сёмым пабегла да яго: «Мішу ноччу забралі... Фёдар, вы разам у Будзённага ваявалі, пазвані». На другі дзень прыходжу, сакратарка: «Таварыш Батурын вас прыняць не можа...». Я не паверыла. Яшчэ раз прыходзіла, калі Мішу адпраўлялі этапам... Бялізну цёплую склала, шкарпэткі... Хацела перадаць... Фёдар выслухаў... І так шчыра... З такімі чыстымі вачыма: «Перадаць цёплыя шкарпэткі ворагу народа?».

Соф'я Андрэеўна. Паглядзела б ты на яго цяпер... Аблезлы дзядок... У парваных хатніх пантофлях паўзе ў сталоўку... Унукаў яго толькі на святы бачу... Калі ў нашым буфеце ікру прадаюць... Што табе расказваць? Хіба твае лепшыя? «Волгай» не адкупілася...

Юлія Паўлаўна. Фёдар жывы... У старых хатніх пантофлях, але жывы... І ўнукі да яго прыязджаюць. Хай сабе і за ікрой... А Мішы даўно няма... Бачу яго ў сне... Івана пахавала... Усяго сем гадоў прайшло... Ні разу ў сне не бачыла... А Мішу бачу... *(Памаўчала.)* У пяцьдзесят шостым далі даведку, што пастанова Тройкі ў адносінах Курылёва Міхаіла Андрэевіча адменена і справа за адсутнасцю саставу злачынства спынена... Ваш муж поўнасцю рэабілітаваны.

У трыццаць восьмым мне вусна адказалі: памёр у турме ад насмарку... Мужчына... Памятаеш: з грамадзянскай прыйшоў... З ордэнам Чырвонага Сцяга... Два метры росту... Ад насмарку... А ты гаворыш: галавешкі патухлыя... Вуглі пякучыя...

Зацямненне.
Галасы мінулага.
Юлія Паўлаўна і следчы.

Следчы. Ваш муж — вораг народа.

Юлія Паўлаўна. Мой муж — чэсны чалавек. Суд разбярэцца, калі суд справядлівы.

Следчы. Хіба савецкі суд можа быць не справядлівы? Вы ганьбіце савецкі суд! За паклёп адкажаце! А ці ведаеце вы, што ваш муж вам здраджваў?

Юлія Паўлаўна. Я ў гэта не веру! У нас з ім быў угавор: калі хто-небудзь пакахае другога, то скажа. І скажы ён мне, што ў яго другая жанчына, я яго адпусціла б. Ён гэта ведаў... Першага мая...

Следчы. Што Першага мая?

Юлія Паўлаўна. Гэта не мае ніякіх адносін да следства... Хай ён мне мог здрадзіць, але Савецкай уладзе ён ніколі не здраджваў. І не здрадзіць! Ён з беднай сялянскай сям'і... Партыя дала яму ўсё...





Следчы. Ён сам прызнаўся, што працаваў на японскую разведку... *(Падсоўвае паперыну.)* Чытайце...

Юлія Паўлаўна. А чаму менавіта на японскую?

Следчы. На гэтае пытанне вы павінны мне адказаць! Хто да вас заходзіў?..

Юлія Паўлаўна. Ніводнага японца ў сваім доме я не бачыла...

Следчы. Вы, напэўна, не ведаеце, што пагражае вам за страту пільнасці?

Юлія Паўлаўна. Якой пільнасці?

Следчы. Жыла з ворагам народа...

Юлія Паўлаўна. Я жыла з чалавекам, якога кахала і якому верыла.

Следчы. Вы — член нашай партыі... Няўжо вы не разумееце, што мы акружаны. Усюды — вораг! Хітра замаскіраваны вораг!.. Ён можа быць нават героем грамадзянскай вайны... Мужам... Але гэта вораг!..

Юлія Паўлаўна. Мой муж чэсны чалавек... Калі ён вораг, то і я — вораг. Забірайце і мяне... Я ўзяла з сабой усё неабходнае... *(Падымае з падлогі і ставіць сабе на калені партфель.)*

Следчы. Не парыце гарачку... Мы вам давяраем... На вас атрымалі выдатную характарыстыку... *(Крыху памаўчаўшы.)* А што гэта вы былі ўспомнілі Першае мая?

Юлія Паўлаўна. Я ўжо гаварыла, што да следства гэта не мае ніякага дачынення.

Следчы. Будзеце ўпарціцца, пашкодзіце свайму мужу... Вы павінны дапамагчы следству...

Юлія Паўлаўна. Гэта маё, асабістае...

Следчы. Хіба ў такі цяжкі час у камуніста можа быць што-небудзь асабістае? Што ён можа хаваць ад партыі?

Юлія Паўлаўна *(няўпэўнена)*. Першага мая мы не пайшлі на дэманстрацыю...

Следчы *(з цікавасцю)*. Та-а-ак...

Юлія Паўлаўна. Два дні мы былі разам... Мой муж мяне вельмі любіць...

Следчы. Ён вам часта гэта гаварыў?

Юлія Паўлаўна. Так. *(Засаромеўшыся і ўспыхнуўшы чырванню ад чужога недаверу.)* Ён нават сказаў, што ў спальні побач з партрэтам Сталіна трэба павесіць мой партрэт... Раніцай узяў маю картачку, каб павялічыць... Але ён не вярнуўся дамоў...

Следчы. Так-так... Гэтая картачка ў нас... Мы далучылі яе да справы... Так і сказаў: павесіць ваш партрэт побач з партрэтам... *(Не асмельваецца паўтарыць імя Сталіна ўголас.)*

Юлія Паўлаўна *(спужана)*. У спальні... У гасцінай у нас вісіць яшчэ адзін партрэт Сталіна... Ва ўвесь рост...

Следчы. Падпішыце паказанні...

Юлія Паўлаўна *(чытае ўголас)*. Кампраметацыя партыйнага кіраўніцтва ў асобе вялікага, геніяльнага правадыра ўсіх часоў і народаў... *(Гнеўна.)* Я такога не казала... Я гэта не падпішу...

Следчы. Гэта патрэбна для партыі... Вы павінны дапамагчы... Нам вас рэкамендавалі як надзейнага таварыша, які разумее сітуацыю... Нават калі вы не падпішаце... Вы ўсё сказалі...

Следчы збірае свае паперы. Ідзе.

Следчы. За справу Міхаіла Курылёва мне далі ордэн.

Фёдар Батурын. Пасля ўзнагароджання... Дні праз два... Яго арыштавалі... Прынеслі ў райком партбілет... Вораг народа...

Соф'я Андрэеўна. Ты падпісала?

Юлія Паўлаўна. Я так напалохалася. *(Доўга маўчыць.)* Ледзь даплялася да скверыка... Крокаў дваццаць... Села на лаўку... Дастала з партфеля абаранак і пачала есці. Абаранак пах адэкалонам... Партфель пах адэкалонам... Рукі мае пахлі адэкалонам... Гэты пах не пакідаў мяне некалькі дзён... Памятаю толькі пах адэкалону... Твару не помню... *(Доўга маўчыць.)* Усяго толькі і было ў мяне... Гэтае Першае мая... І Мішавы словы: «Я так цябе кахаю, што мы ніколі не разлучымся, толькі, калі гэта будзе патрэбна партыі...».

Соф'я Андрэеўна *(рашуча)*. Ты... Ты, Юля, не пужайся толькі... Тваё сэрца... Ты не пужайся... Я даўно хачу табе сказаць... Тут... Тут такое ясненькае дзела...

Юлія Паўлаўна. Што?

Соф'я Андрэеўна. Жывы твой Міша... У нашым інтэрнаце... Прыехаў... Два месяцы назад... У сталоўцы сядзіць за адным сталом з Фёдарам Батурыным... *(З палёгкай апускаецца ў крэсла.)*

Юлія Паўлаўна *(ад нечаканасці спрабуе нават устаць)*. Міша жывы... Міша!!! *(У яе голасе — і радасць, і страх.)* Не можа быць! Гэтага не можа быць! Ніколі! За што мне такія пакуты? Навошта я так доўга жыву? Навошта?! Я ведала...

**Канец першага акта.**

## АКТ ДРУГІ.

### Сцэна пятая.

Уся сям'я зноў у зборы. Бацькі вярнуліся з Чэхаславакіі, Антон з Геленджыка. У бабулі — ашаламляльная навіна...

Акцябр Іванавіч *(накідвае на плечы маці шалік)*. Падабаецца? У Празе купілі...

Ірына Канстанцінаўна. Шыкоўная рэч!

Юлія Паўлаўна. Дзякую. Але навошта мне новыя рэчы? І тыя, што ёсць, мяне пераżывуць...

Ірына Канстанцінаўна. Наша мама — сакрэтніца...

Акцябр Іванавіч. Нават я нічога не ведаў...

Ірына Канстанцінаўна. Мама нам дэталёва раскажа...

Антон. Адуван, слухаем...

Юлія Паўлаўна *(папраўляючы шалік)*. Міша мяне не пазнае...

Акцябр Іванавіч. Пасівела трохі... А так нічога сабе, малайцом... Урач сказаў, што трэба пачынаць патроху хадзіць... Першы дзень — дзесяць крокаў... Другі — дваццаць... *(Асцярожна дапамагае Юліі Паўлаўне падняцца з каляскі.)* Давай паспрабуем... *(Яна абапіраецца на яго плячо, робіць няўмела некалькі крокаў.)*

Антон *(падыходзіць да бабулі)*. Адуван, трымайся за мяне. *(Праходзяць адзін раз па пакоі, спыняюцца ля акна)*.

Юлія Паўлаўна. Замарылася.

Акцябр Іванавіч. Для першага разу хопіць.

Антон. Адуван, ці ёсць у цябе яго фотка?.. Маладога?

Юлія Паўлаўна. У сорак першым наш дом згарэў... Я ўжо жыла ў Мінску... Прамое пападанне... Горад гарэў, як свечка... Бачыла, як на адным падаконніку гарэлі кактусы...

Ірына Канстанцінаўна. Усё ўладкавалася...

Акцябр Іванавіч. Што?

Ірына Канстанцінаўна. Там жа... У інтэрнаце... Калі сям'я — муж і жонка,— даюць асобны блок... Гэта два пакоі, усе выгоды... Усё асобна... Ну, звычайная двухпакаёвая кватэра...

Акцябр Іванавіч *(разгублена)*. Аб ветэранах у нас клапоцяцца...

Юлія Паўлаўна занятая сваімі думкамі і не чуе іх.

Антон. Адуван, а дзе ён быў, Міхаіл Андрэевіч? Дзе ён быў пяцьдзесят гадоў?

Акцябр Іванавіч. З Будзённым разам ваяваў... Герой грамадзянскай вайны...

Антон. Ніколі цябе не шукаў?

Юлія Паўлаўна *(варушыць у памяці сваёй)*. Было Першае мая... Мне нешта ўзбрыло ў галаву: давай, кажу, Міша, не пойдзем на дэманстрацыю, нікуды не пойдзем — ні на дэманстрацыю, ні ў госці і званіць нікому не будзем... Толькі ўдваіх! Ён: «Як гэта не пойдзем на першамайскую дэманстрацыю?!» Сапраўды, такога ж ніколі не было. Мы нават так падумаць не адважваліся. А тут рашылі: пабудзем удваіх... Два дні — разам... Раней яго тыднямі не бачыла, толькі начаваць прыходзіў... Ён працаваў сакратаром райкома партыі... Вечарам вяртаўся, твар чорны... Расказваў, што зноў таварыш з НКВД прынёс дваццаць пяць білетаў... Ворагі народа... А гэта ўсё — чэсныя людзі... Я, казаў, іх ведаю. Я павінен пайсці і сказаць: што гэта мы робім? Тады ўсе адзін аднаго зналі. Гарадская партыйная арганізацыя была невялікая... Я яго супакойвала: «Нас жа не бяруць. Вось калі нас возьмуць, тады мы скажам, што гэта нейкае злачынства...».

Антон *(уважліва слухаючы бабулю)*. Адуван, ты ніколі мне пра гэта не гаварыла.



Юлія Паўлаўна. Трэцяга мая прыходжу з работы дамоў, суседка, жонка інструктара райкома партыі, сустрэла мяне на лесвіцы і кажа: «Забярыце свой паркаль... Жонцы ворага народа блузку шыць не буду...».

Антон. А далей?

Юлія Паўлаўна. Далей... Знаёмы хто ўбачыць... Пераходзіць на другі бок, каб не прывітацца...

Акцябр Іванавіч. Мама, сэрца пабераж...

Антон. Адуван, ты кахала яго?

Ірына Канстанцінаўна. Самі гаворыце... Любоў... Усё ўладкоўваецца выдатна... Антон, нам з табою па торт бегчы... Адна не данясу... Вялікі святочны торт... Па спецзаказу...

Ірына Канстанцінаўна і Антон пайшлі. На сцэне Юлія Паўлаўна і Акцябр Іванавіч.

Юлія Паўлаўна *(гладзіць сына па галаве, як некалі ў дзяцінстве, у яе святлее твар, як святлее ён у чалавека, які ўспамінае сябе маладым)*. Акцябр, ты памятаеш?.. Памятаеш, як мы сустрэліся ў сорак пятым...

Акцябр Іванавіч *(расчулена)*. Вярнуўся са школы... На бабуліным ложку спіць незнаёмая жанчына... На стале — раскрыты планшэты... Ляжаць дакументы... Нешта як таўханула мяне... Не цікаўнасць... Другое... Прадчуванне... Прачытаў дакументы... І зразумеў — гэта мама... Гэта ты... Ты спала, а я сядзеў, пакуль ты не прачнулася... У мяне ўвесь час дрыжэлі калені...

Юлія Паўлаўна. Ты месяц нікуды мяне ад сябе не адпускаў. Нават на работу. Я брала цябе з сабой. Табе было мала бачыць мяне, што я побач... Табе трэба было трымаць мяне за руку... Вось мы сядзем палуднаваць... Ты адной рукой трымаешся за мяне, у другой лыжка.

Акцябр Іванавіч. Мама, табе ў інтэрнаце будзе лепш... Іра... У яе доктарская...

Юлія Паўлаўна. Ты яе баішся...

Акцябр Іванавіч. Баюся... Сама ведаеш, які ў яе характар... Калі яна што-небудзь вырашыла...

Юлія Паўлаўна. Страх... Адкуль у цябе гэты страх? Адкуль у вас усіх гэты страх? Што вам пагражае? Пагражае дробязь... Няласка жонкі... Няласка начальства... *(Разгневаўшыся, нават спрабуе ўстаць.)* А што калі вось гэта?.. Цябе прывязваюць за рукі, за ногі, табе затыкаюць рот. Гавaрыць ты не можаш, табе паказваюць, што, калі згодзішся гаварыць, кіўні пальцам. І стаіць машынка — там воцат, бензін, мача... Табе ўстаўляюць два шлангі ў нос і пачынаюць пампаваць. А ты ж ведаеш, што такое, калі нават крошка пападзе ў дыхаўку... Толькі-толькі пачалі пампаваць... Памерці ці кіўнуць пальцам? І гора таму, хто кіўне, лепш памерці. Але табе не даюць памерці. Стаіць побач урач, у яго напагатове шпрыц... Гэта так важна зламаць ці падламаць чалавека... Самая маленькая шчылінка ў свядомасці з цягам часу можа даць цэлы разрыў...

Акцябр Іванавіч. Другі час... Вашыя меркі нам не падыходзяць... Мы — другія, дзеці нашы другія. Такіх, як вы, больш ніколі не будзе.

Юлія Паўлаўна. Калі я насіла цябе пад грудзьмі, я баялася. Я баялася за Мішу... Баялася за цябе... Гэты страх перайшоў да цябе...

Акцябр Іванавіч. Мама, мы будзем любіць Міхаіла Андрэевіча. Ён не чужы нам цяпер чалавек...

Юлія Паўлаўна *(адважыўшыся на апошні аргумент)*. Ён... Ён сапраўды не чужы табе чалавек... Гэта — твой бацька...

Акцябр Іванавіч *(моцна ўражаны)*. А Іван Аляксеевіч?..

Юлія Паўлаўна. Іван Аляксеевіч — рэдкай душы чалавек, сапраўдны бальшавік. Ён быў табе як бацька. Сапраўдны ж твой бацька жывы...

Акцябр Іванавіч. Бацька жывы?..

Юлія Паўлаўна. У цябе ёсць бацька, у Антона — дзед... Мы можам жыць разам...

Акцябр Іванавіч. Чаму ты маўчала? Хлусіла столькі гадоў?

Юлія Паўлаўна. Дзеля цябе... Сын ворага народа... Ты нічога не ведаеш пра тую страшную пару... Суседскі хлопчык... Ён вучыўся ў пятым класе... Яму далі несці партрэт Сталіна... А бацька яго ўжо сядзеў... Пачалася дэманстрацыя... Дырэктар школы пабачыў, хто нясе партрэт Сталіна... Падбег да класнай кіраўніцы: «Вы з глузду з'ехалі? Сын ворага народа нясе партрэт правадыра...». Забраў партрэт... У дзіцяці істэрыка...

Спачатку цябе бараніла. А потым Івана Аляксеевіча шкадавала... Ты ж называў яго татам. Ён і памёр з тым...

Акцябр Іванавіч *(азіраючыся)*. Цішэй... Цішэй... Нічога пакуль не кажы Ірыне... Не кажы... Я сам... А то яна зусім ашалее...

**Сцэна шостая.**

Антон ляжыць на канапе ў сваім пакоі. З гасцінай даносіцца святочная сумятня. Антон размаўляе па тэлефоне.

Антон. Кацька, трымайся на нагах, не падай... Наша бабуля — нявеста. Нявеста! — кажу. Уяўляеш?.. Першы муж знайшоўся. Расказаць — не паверыш... Дэтэктыў... Ведаеш што-небудзь пра трыццаць сёмы год? Чула?.. Вось і ў бабулі... Мужа забралі... Потым сказалі, што ён памёр... А яму, што яна ад яго адраклася... «Жди меня и я вернусь, только очень жди...» Я і кажу табе: ён сказалі, што ён памёр... У маёй бабулі нармальная псіхіка, яна — не экстрасенс... Натура-а-альна... Яна выйшла замуж... За майго дзядулю... Што пра гэта думаю? А я не хачу думаць. Мне гэта шкодзіць. Не разумееш... Кацька... Кацька... Прыязджай да мяне, га? Прыедзеш і надаеш па шыі? За што якое? А, за ўсё харошае... Згодзен. І па шыі атрымаць згодзен, толькі прыязджай сёння...

У гасцінай накрываюць святочны стол.

Ірына Канстанцінаўна *(нясе торт са свечкамі)*. Акцябр, ты лічыў свечкі?

Акцябр Іванавіч. Восемдзесят пяць...

Ірына Канстанцінаўна *(лічыць)*. Адна, дзве, тры... Мне здаецца, менш. Усё трэба правяраць... Усё трэба самой...

Акцябр Іванавіч. Правярай... Ты гэта любіш...

Юлія Паўлаўна *(заклапочана)*. Як мая новая блузка?

Акцябр Іванавіч *(аглядаючы маці)*. Цудоўна! Ты ніколі гэтым не захаплялася... Наколькі я памятаю, цябе можна было прымусіць пашыць новую сукенку толькі на партыйную канферэнцыю ці на з'езд.

Юлія Паўлаўна. Дай мне... Ой! На хвіліначку забылася...

Акцябр Іванавіч. Памаду?..

Юлія Паўлаўна. Так-так... Памаду... Гэты колер шпалер мяне забівае... Ён мне ніколі не падабаўся...

Акцябр Іванавіч. Блазнуеш, мамачка? Не хвалюйся. У цябе ж вяселле, а не дзень нараджэння.

Ірына Канстанцінаўна. Шэсцьдзесят пяць... Шэсцьдзесят шэсць... Шэсцьдзесят сем...

Юлія Паўлаўна. І ўсё-ткі гэтыя шпалеры не да майго твару... Бляклыя нейкія...

Акцябр Іванавіч. Што за капрызы?.. Ты сёння цудоўна выглядаеш. Выдатна!

Ірына Канстанцінаўна. Семдзесят чатыры... Семдзесят пяць...

Званок у дзверы. Выбягае Антон са свайго пакоя, адчыняе дзверы. Уваходзіць Кацsmall з кветкамі.

Каця *(да Юліі Паўлаўны)*. Гэта вам...

Юлія Паўлаўна. Дзякую... Дзетка, дзякую...

Каця *(аглядаючы пакой)*. Як у вас святочна!

Антон. Свята яшчэ наперадзе... Не спяшайся... *(Цягне Кацю за руку ў свой пакой.)*

У пакоі Антона.

Антон. Добра, што ты прыйшла... У бабулі сёння дзень нараджэння...

Каця. Няўжо? Як гэта ёй пашэнціла нарадзіцца ў такі дзень? Усюды сцягі, ілюмінацыя.

Антон. Яна нарадзілася 26 кастрычніка. Па старому стылю... Але 7 лістапада ёй цяпер больш падабаецца...

Каця. Што ты ёй падарыў?

Антон. Вось і бяда, што нічога не прыдумаю.

Каця. Ну, што б яе абрадавала?

Антон. Рада, калі з ёй пасядзіш, пагаворыш. Але «У нашы гады... У нашы гады...» Во дзе сядзіць... *(Рукой па горле.)* Прыдумаў!.. Будзе сюрпрыз!

Каця. Мне?

Антон. Не, бабулі... У яе ж дзень нараджэння... Едзем са мной!..

Размова ў гасцінай.

Юлія Паўлаўна. Калачуся ўся... Толькі падумаць: Сонечка з Мішам прыйдуць...

Акцябр Іванавіч *(шэптам і баязліва паглядаючы на жонку)*. Хіба Соф'я Андрэеўна званіла? А я яшчэ Іры не паспеў сказаць...





Антон і Каця выбягаюць з пакоя Антона.

Ірына Канстанцінаўна. Куды вы? Восемдзесят чатыры... Восемдзесят пяць... Добра... Хутка будзем за стол садзіцца.

Антон. Мама, мы хутка.

Толькі яны пайшлі, званок у дзверы.

Юлія Паўлаўна *(усхвалявана)*. Яны?! Сонечка з Мішам! Акцябр, дапамажы мне... Я хачу ўстаць... Я не хачу сядзець у гэтай брыдкай калясцы...

Акцябр Іванавіч *(разгублена і ўзбуджана)*. Добра, мама... Але ты так не хвалюйся, мама... Помні, што ў цябе быў інфаркт, мама...

Ірына Канстанцінаўна ідзе адчыняць дзверы. Уваходзяць піянеры — дзяўчынка і хлопчык. Салютуюць. Потым хлопчык не чытае, а завучана дэкламуе тэлеграму:

— Дарагая Юлія Паўлаўна! Чырвоныя следапыты клуба «Салют» віншуюць вас, ветэрана партыі з 1919 года, са слаўным юбілеем — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жадаем вам моцнага здароўя, творчых поспехаў і шчасця ў асабістым жыцці.

Акцябр Іванавіч *(бярэ ў хлопчыка тэлеграму)*. Дзякуем. Мы вельмі рады.

Юлія Паўлаўна. Дзякую, дзеці. Вы — наша змена... Наша будучае... Акцябр, раздай дзецям цукеркі...

Акцябр Іванавіч раздае цукеркі. Адсалютаваўшы, піянеры пайшлі.

Юлія Паўлаўна. Божа мой! Дайце я сяду. Так напужаць!

Праз некалькі хвілін новы званок. Юлія Паўлаўна і Акцябр Іванавіч зноў застылі з напружанымі тварамі. Уваходзіць суседка з тортам.

Суседка. Юлія Паўлаўна... Дарагая... Заступніца наша... Мы ўсе вас любім... Цэнім... Гэта вашымі намаганнямі... Вашым аўтарытэтам... Пясочніцу дзецям зрабілі... Дзверы ў пад'ездзе зашклілі... Гэта ўсё вы, дарагая. Бясцэнная наша... Прыміце... Сваімі рукамі... А Ягорыча знялі... У нас другі дворнік... Цяпер парадак...

Акцябр Іванавіч *(бярэ торт)*. Дзякуем... Расчулілі вы нас.

Суседка. Усё-ткі якое шчасце!

Юлія Паўлаўна. Аб чым вы, Ксеня Сяргееўна?

Суседка. Якое шчасце, так доўга жыць.

Юлія Паўлаўна. Лічыце, што шчасце? Не ведаю, дарагая... Не ўпэўнена...

Суседка пацалавала Юлію Паўлаўну і пайшла. Толькі ўсе супакоіліся ад чарговага візіту — яшчэ адзін званок у дзверы. Убягаюць, задыхаўшыся, Антон і Каця.

Антон *(ні на кога не гледзячы, адразу ступае да бабулі)*. Ён не прыйдзе.

Акцябр Іванавіч. Хто?..

Антон. Міхаіл Андрэевіч...

Юлія Паўлаўна. Адкуль ты ведаеш?..

Антон. Мы толькі ад яго...

Юлія Паўлаўна. Што здарылася?

Ірына Канстанцінаўна. Ты што-небудзь скажаш нам нарэшце? Ці, можа, так і будзеш стаяць у позе Напалеона?

Антон. Скажу... Пачакайце крыху... Скажу... Скажу, што вы ўсё жыццё хлусілі мне. *(Да Юліі Паўлаўны)*. І ты таксама. А я табе верыў!

Акцябр Іванавіч. Спыні істэрыку. У чым справа?

Антон *(да Юліі Паўлаўны)*. Ён цябе не памятае... Цябе не было... І вашага Першага мая, аб якім ты са слязамі расказвала, не было. Нічога не было... Ён памятае толькі сваё дзяцінства... Калі ён быў маленькім... І зялёную траву.

Юлія Паўлаўна. Як нічога не было?

Антон. Ты ж пяцьдзесят гадоў жыла так, быццам яго на свеце не было.

Юлія Паўлаўна. Мне сказалі, што ён памёр...

Антон. Жанчына, якая яго кахала, знайшла яго там. Ёй таксама сказалі, што ён памёр... Але яна не паверыла! Паехала паглядзець на магілу, а сустрэла яго...

Юлія Паўлаўна. Клаўдзя?.. Яна яго знайшла?..

Антон. Так, у Магаданскай вобласці...

Юлія Паўлаўна. Так, так... У годзе сорак сёмым яна паехала... Неспадзявана паехала... Нікому нічога не сказаўшы... Калі ад'язджала, табе, Акцябр, было гадоў дзесяць... Яна прыйшла да нас развітвацца... Ты памятаеш, Акцябр?.. Яна доўга цябе цалавала...

Акцябр Іванавіч. Не памятаю...

Юлія Паўлаўна. Дык яна жывая?.. Яна з ім... Чаму ж мне Сонечка нічога не сказала?

Каця *(спачуваючы)*. Клаўдзя Сяргееўна памерла...

Юлія Паўлаўна. Памерла?

Антон. Каля яго. А вы? Як вы ўсе маглі жыць, ведаючы, што ён там. Што ён ні ў чым не вінаваты... І ты, і твая Сонечка... Лекцыі чыталі па гісторыі партыі?

Юлія Паўлаўна. Памёр... Ад насмарку?

Ірына Канстанцінаўна. Растлумачце мне нарэшце, што з Міхаілам Андрэевічам? Ён хворы? Тады мы заўтра да яго наведаемся.

Юлія Паўлаўна. Ён прыедзе... Ён захоча ўбачыць сына...

Ірына Канстанцінаўна. Якога сына?

Юлія Паўлаўна. Так, я маўчала! Падманвала! Усё дзеля сына! Я хацела, каб ён вучыўся ў лепшай школе... Потым я хацела, каб ён паступіў у інстытут... Потым... *(Памаўчаўшы)*. Ты — унук. Ты размаўляў з дзедам!

Антон *(узрушаны)*. Я — унук?! Я размаўляў з дзедам?!

Юлія Паўлаўна. Сонечка павінна была яму сказаць... Я пісала яму пра сына... Я прасіла прабачэння...

Ірына Канстанцінаўна. Ну і сямейка! Сага аб Фарсайтах... *(Да мужа)*. Трэба нешта прыдумаць... У яго амнезія? Яе лечаць?

Акцябр Іванавіч. Ты... Ты плакаць умееш?

Ірына Канстанцінаўна. Ты — сын, ты і плач. Можа, мне разжаліцца і яшчэ аднаго старога ў кватэру ўзяць?

Акцябр Іванавіч. Ты разумееш ці не — жывы мой бацька?! Іншы раз мне здаецца, што цябе зрабілі з тытану... Жывы мой бацька!

Ірына Канстанцінаўна. Наколькі я разумею, позна ты спахапіўся.

Акцябр Іванавіч. Як ты можаш?!

Юлія Паўлаўна. А Сонечка чаму не прыйшла?

Антон *(дастае з кішэні пісьмо)*. Соф'я Андрэеўна перадала...

Юлія Паўлаўна *(бярэ пісьмо)*. Пісьмо... Ад Сонечкі пісьмо... Чаму пісьмо? Чаму яна сама не прыехала? Божа мой! Які жахлівы дзень!

Ірына Канстанцінаўна. Шалёны дом. Шалёны дзень. Што там у пісьме? Прачытайце... Ці, можа, зноў ад мяне сакрэты?

Юлія Паўлаўна *(павольна раскрывае пісьмо, чытае ўголас)*:

«Дарагая Юлечка, я злегла і не магу быць на тваім дні нараджэння. Баляць ногі... Мае ногі не хочуць мяне слухаць...

Учора дала Мішу твой тэлефон, ён увесь закалаціўся. Нешта шаптаў, я толькі зразумела: Першае мая і нейкі партрэт у спальні... Сёння, калі ён, не сустрэўшыся ў сталоўцы, прыйшоў мяне праведаць, я спытала: ці званіў табе, ці не забыўся, што сёння твой дзень нараджэння? Ён нечакана сказаў: «Якая Юля? Я не ведаю ніякай Юлі... А Клаўдзя памерла...». Далей не магу... *(Бездапаможна апускае рукі.)*.

Ірына Канстанцінаўна. Давайце я... Я... Да... Тут? *(Чытае.)*

«...А ўчора ж мы доўга аб усім гаварылі. Ён усё памятае, мы ўспаміналі нашых агульных знаёмых, якіх сустракалі пяцьдзесят гадоў назад. Ён называў тых, на каго нават я ўжо забылася. Хачу напісаць табе пра тое, што ад яго пачула...

...У турме ён вельмі хацеў убачыць цябе ў сне. Так і расказваў: «Заплюшчваю вочы і хачу ўбачыць Юлю, сон быў адзіным месцам, дзе мы маглі б яшчэ сустрэцца». Але снілася яму зялёная трава... Маёвая зялёная трава, апошняе, што ён паспеў убачыць, калі яго везлі ў вясёлай блакітнай машыне «Хлеб-булкі». Чамусьці яго везлі ў гэтай машыне...

У камеры цэлы год ніхто не верыў у тое, што з імі здарылася... Чакалі, думалі, што адбыўся пераварот. Першага мая пачулі, як шуміць дэманстрацыя, праз сцены праніклі словы «Інтэрнацыянала». У той дзень ён рашыў: павядуць на допыты, паднімецца на чацвёрты паверх і кінецца ўніз галавой у лесвічны пралёт. На допыт выклікалі, але ўсе лесвічныя пралёты былі зацягнуты жалезнай сеткай. Значыцца, яму не першаму прыйшла ў галаву такая думка.

Прымушалі назваць саўдзельнікаў. Пяць дзён не давалі прысесці. Стаяць! Стаяць! На шосты дзень папрасіў: «Дайце крэсла». Сеў: «Пішыце: Марат, Рабесп'ер, Галілей...» Следчы ўзрадаваўся — усе прозвішчы замежныя. За-

гадаў прынесці шклянку салодкага чаю і коржык... Вярнуўся ў камеру, не паспеў легчы, як выклікалі зноў. Следчы стаяў каля самых дзвярэй, у руках — згорнутая газеціна, падышоў бліжэй... Унутры газеты — гумовая палка... Апрытомнеў у камеры ўвесь у крыві... Плакаў...

Саслалі ў Магаданскую вобласць... Рабіў на залатых прыісках. Убачыў у мяне залаты гадзіннік, папрасіў: «Здымі». Я зняла, ён накрыў яго газетай. Да гэтага часу не можа бачыць золата. Во да чаго давялі чалавека! Якога чалавека! Самага лепшага сярод нас. Я ж яго добра памятаю...

Аднойчы вечарам яму перадалі: «Прыехала жонка. На апошні цягнік не паспела, засталася начаваць да раніцы на станцыі». Бег трыццаць вёрст... Усю ноч... За некалькі кіламетраў да станцыі напаткаў дваіх: начальніка лагера і правяраючага з Масквы. Яны на санях, было гэта зімой, а ён у падвязаных галошах. Пагналі перад сабой... «Назад! Мы цябе за Палярны круг сашлём!..»

Раніцай прыехала Клаўдзя. Ён ляжаў у непрытомнасці, крычаў: «Юля!!!».

Памагла яму выжыць вера ў Савецкую уладу, ворагам якой яго аб'явілі...».

Юлія Паўлаўна бы нежывая. Усе доўга маўчаць.

**Каця** *(кідаецца да Антона)*. Дазнаюцца ў інстытуце... Такая гісторыя...

**Антон** *(да Юліі Паўлаўны)*. Ты чуеш? *(Да ўсіх.)* Вы чулі? Адкуль у ёй гэты страх? Ці ён, можа, перадаецца генетычна? Але ты... *(Трасе Кацю за плечы.)* Ты ж нічога не ведаеш пра сваіх бацькоў... Ты іх не памятаеш... Ты — дзетдомаўка... Адкуль і ў табе гэты страх. *(Сціскае галаву абедзвюма рукамі.)* Я і сам... Я ж хацеў пасля інстытута займацца ядзернай фізікай... Там усё сакрэтна... Правяраюць да сёмага калена... Усю радню...

**Юлія Паўлаўна** *(раптам прыўстала — у такім гневе)*. Не калаціся... Ты свабодны чалавек у свабоднай краіне. *(Пасля паўзы.)* Сын мой... Трыццаць восьмага года нараджэння... Мой унук... Сямідзесятага года нараджэння... Яны ўжо не могуць жыць без страху... Мой страх страляе ў іх да гэтага часу... Няпраўда забівае вас неўпрыкмет... Кожны дзень... Як радыяцыя... Мы паміраем ад сваёй ілжы, а называем другія хваробы...

**Антон** *(хапае тэлефон)*. Я пазваню...

**Ірына Канстанцінаўна**. Да каго?

**Антон** *(гартае даведнік, набірае нумар)*. Рэспубліканскі інтэрнат персанальных пенсіянераў? Пазавіце, калі ласка, з трыста шостага пакоя Міхаіла Андрэевіча... Я вас вельмі прашу... Ён пяцьдзесят гадоў чакаў гэтага званка... Я яго ўнук! Я знайшоў дзеда!.. *(Чакае.)* Дзед, чуеш мяне? Я — твой унук... Я зараз да цябе прыеду... Як гэта ў цябе не было ўнука? І сына не было? Мы ў цябе ёсць... Я табе ўсё раскажу, калі прыеду... Не, я не з ніякай ні школы... Не, і не з райкома камсамола. Я — твой унук... Дзед! Ты чуеш мяне?.. Чуеш?! Я зараз прыеду... *(У трубцы гудкі.)* Нас перарвалі... *(Зноў набірае нумар.)* Даражэнькая, нас перапынілі... Як гэта ён паклаў трубку? Не захацеў гаварыць... І сказаў, каб яго не клікалі... Пайшоў...

Мензурка з валяр'янкай падае з рук Юліі Паўлаўны. Усе ўздрыгнулі.

**Акцябр Іванавіч** *(спахапіўшыся)*. Парад... Мама, мы забыліся... Зноў будуць паказваць парад... *(Уключае тэлевізар.)*

Ідзе парад на Краснай плошчы.
Гучыць парадная музыка.

**Ірына Канстанцінаўна**. Сядзем... Чаго мы стаім? *(Запальвае свечкі.)*

**Акцябр Іванавіч** *(налівае шампанскае ў бакалы)*. Паднімем! *(Да Юліі Паўлаўны.)* Мама, парад... Ты любіш глядзець парад...

Юлія Паўлаўна страпянулася, падабралася па-салдацку. Слухае парадную музыку.

Паўза.

Ірына Канстанцінаўна падымае свой бакал, за ёй Акцябр Іванавіч, Антон і Каця падымаюць свае.

А Юлія Паўлаўна, раптам цяжка асеўшы ў сваёй калясцы, пачынае гасіць свечкі: адну, другую, трэцюю... Гучыць парадная музыка.

Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# ПОЗНІ

Алена ВАСІЛЕВІЧ

**ПОЗНІ ВЯЧЭРНІ ЗВАНОК** той — дзіўна, але гэтак мне і сёння здаецца — прызначаўся, відаць, некаму іншаму... Вельмі блізкаму, патрэбнаму, хто мог чакаць яго, мог на яго спадзявацца, нарэшце, меў сяброўскае права пачуць гэты званок.

Але ён у той слотны, безнадзейна panылы вечар працяў цішыню адзіноты менавіта маіх сцен.

— Алена Сымонаўна. Гэта Караткевіч.

(Ён зваў мяне так: Сымонаўна).

Гэта было не надта подаўгу пасля таго ўжо, калі ён пахаваў Валянціну Браніславаўну. Калі застаўся ў сваіх сценах адзін. Калі ў такія панылыя безнадзейныя вечары...

— Даруйце мне, што я гэтак позна... Што, напэўна, патурбаваў... Можа, нават пабудзіў. Але — прашу — зразумейце мяне: такі настрой і ўсё такое навокал, што хочацца выць. Даруйце мне!

Што было даваць? Як быццам самой мне было незразумелае, невядомае гэта самае «хочацца выць»...

Нешта ж я гаварыла яму. Нейкія ж словы здольная была вымавіць, хоць, напэўна, яны былі мо і не зусім тыя, якія былі патрэбныя яму, чалавеку са скразной ранай у сэрцы.

...Памятаю, як тады расказвала яму пра сваю гэтаксама па тэлефоне гутарку з Валянцінай Браніславаўнай, калі яна, вярнуўшы яго з таго свету ў Сімферопалі, на некалькі дзён па тэрміновай справе вярталася ў Мінск. Якой шчаслівай адчувалася яна, калі расказвала, як была ў той занядбанай паўднёвай бальніцы — у палаце на пяцёх, «гэтак, як Валодзя», прыкутых да ложкаў мужчын — была ім і за няньку, і за сястру, і за маці. Як карміла і паіла іх з лыжкі, як хадзіла за імі...

— Гаварыце! Гаварыце яшчэ... Вы ж не ведаеце, якая яна была.

Я не ведала. Хоць і **ведала**: цэлую гадзіну здольная была яна расказваць пра **яго**: пра яго незвычайнасць, пра безагляднасць і неабсяжнасць яго натуры, пра яго дзівацтвы (гэтак здавалася іншым, збоку...). Пра яго, пра яго, пра яго...

Але я званіла ёй па справе. Рэдакцыя павінна была падрыхтаваць адпаведныя рэкамендацыйныя паперы для перакладу Караткевічавай «Зямлі пад белымі крыламі» ў Літве і Славакіі. Яна выходзіла ў нашай рэдакцыі літаратуры для юнацтва ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Выходзіла — зазначу — адразу не «бесканфліктна». Не гладка. Былі спрэчкі. Была ўзаемная — рэдакцыі і аўтара — нязгода. Быў часам добра сапсаваны настрой...

З характэрным яго пяру раблезіянскім размахам, Караткевіч — у самай першай рэдакцыі «Зямлі пад белымі крыламі» — маляваў побыт беларусаў такімі нясцерпна буйнымі фарбамі, што, збоку зірнуўшы на такое піраванне жыцця (а ўпершыню «Зямля пад белымі крыламі» пабачыла свет на Украіне, у нас яна ішла ўжо як бы аўтарскім самаперакладам з украінскае мовы), кожны сказаў бы: «А, чорт іх не браў гэтых беларусаў: як цары жылі, елі сала з салам і спалі на саломе...». На самай жа справе, хто з нас, людзей яшчэ старэйшага пакалення, не ведае, не памятае, як раскашаваў «пан сахі і касы». Хлеба з мякінай да новага ўраджаю не заўсёды хапала, не тое, каб выстаўляць на святочныя сталы па якіх трыццаць абавязкова-традыцыйных беларускіх страў... Каб гойсаць па палявannях ды фарсова прывабліваць блішчучымі чаравікамі ды хромавымі — у гармонік—ботамі «Лявоніху»... Была, была, вядома, і людская здатнасць, і непадробная весялосць, і бясклапотны гумар... Але быў, быў і пэўны «перакос» у маючай быць кнізе... І перш за ўсё ад паўнаты пачуццяў, што перапаўнялі аўтара, ад нястрымнай натхнёнай сілы ў руцэ, якая вадзіла маляўнічым пэндзлем... Патрабавалася, было неабходна «ўраўнаважыць» кнігу рэалістычнай (і гістарычнай!) аўтарскай развагай. І аказалася гэта — напачатку — вельмі няпроста...

— Хто гэта будзе мяне тут вучыць?.. Мяне — чытаюць!

Патрабаваўся «трацейскі суд». І аўтара «вучыў» лепшы яго друг, сябра... (І наш — рэдакцыі — вельмі паважаны аўтар і дарадца). Яны ўпоравень — абое — стаялі і па сваіх энцыклапедычных ведах і па сваёй літаратурнай вазе... Бескампрамісную, аднолькава патрабавальную і добразычлівую, рэцэнзію для рэдакцыі друг Караткевіча напісаў, здаецца, на трынаццаці старонках... Я запрасіла па тэлефоне Уладзіміра Сямёнавіча прыйсці пазнаёміцца з рэцэнзіяй. Ён прыйшоў вельмі хутка. Стрымана павітаўся. Распрануўся, павесіў паліто і сеў у самым зацішным нашым закутачку («Мастацкая літаратура» ціснулася тады ў двухпавярховым асабняку побач з «фабрыкай-кухняй»). У нашым пакоі — у ім месцілася адразу тры рэдакцыі — запанавала пагрозлівая цішыня, як перад вялікай бурай... Караткевіч чытаў засяроджана, доўга, сціснуўшы вусны і сурова звёўшы бровы... А калі скончыў, узняўся і неяк як бы пазяхнуў:

— Рэцэнзент — дурань!..— згарнуў рэцэнзію, паклаў у кішэню і, цырымонна пакланіўшыся агульным пакланам усім, хто сядзеў у пакоі, выйшаў.

...Раней як праз тыдзень прынёс ён у рэдакцыю рукапіс «Зямлі пад белымі крыламі». Чысты. Нанова перадрукаваны. Пасля дапрацоўкі — па рэцэнзіі Друга. Ніводную нязгоду не толькі па змесце, а нават па стылю, па сінтаксісу, ніводнай «косачкі» не пакінуў ён без увагі. І павагі — да ўвагі Друга...

І Кніга — на гонар аўтару і рэдакцыі, а, можа, найгалоўней, на гонар нашай беларускай зямлі і літаратуры таксама — высока і шырока ўзмахнула сваімі белымі крыламі! Далёка і за межамі Беларусі таксама.

І вось я трымаю яе ў руках. Перагортваю яе... «Мілай Алене Сямёнаўне Васілевіч, з якой разам пакутавалі над гэтай кнігай. Ул. Караткевіч. 22.XI.77».

■ ■ ■

...Мне ўяўляецца, як ён пісаў, Уладзімір Караткевіч.

Фантасмагорыя самых неверагодных праяў і вобразаў сядлала яго ўяўленне, і яно, як дзікае паляванне караля Стаха, неслася, неслася, імчала наперад, не прыпыняючыся і не азіраючыся, не звяртаючы ўвагі ні на што на сваёй дарозе... Таму, напэўна, не выпадкова, што пры ўсёй сваёй такой красамоўнай выразнасці, мастацкае палатно Караткевічавай прозы часам не, не дый спыніць зрок на моўнай хібе, здзівіць недакладнасцю, а часам і вельмі прыблізнай псіхалагічнай характарыстыкай. І ўражанне пакіне такое (магчыма, гэта суб'ектыўнае ўражанне-ўспрыманне), што ён не заўсёды паспяваў перачытваць, на слых «спрабаваць» усяго таго, што нараджалася з-пад яго імклівага пяра, «асядланага» неверагодным уяўленнем.

Аднак ён не даваў чытачу часу, ні настрою не ствараў у яго, каб вось узяць і настырна і нудна вышукваць і аловачкам падкрэсліваць, адзначаць, выпісваць... («Дзед... выцер жалейку аб прыпол сарочкі»... «За пісьмовым сталом, за якім яны спяшаюцца запісаць апошнія палаючыя думкі, дыхаючы кавалкамі лёгкіх»... «Апошнія адбіткі промняў падалі на яе твар, які ляжаў у мяне пад пахай»... «Карціць і мая душа на гэта дзіва паглядзець»...)

Дзе там! Вы імчалі за ім далей. Вы былі ўжо ў зусім іншым, але ўсё роўна, зноў, у тым жа Караткевічавым «вымярэнні».

«— Гэй, каторы з голай спіной! Хадзем пад яблыню, казку раскажу.

Яна была такая чарнявая, такая ладная, што другім разам я насмяшыў бы свет: узяў бы і застаўся. Мы ляжалі б пад яблыняй і гаварылі і

смяяліся б, тым больш, што, скажу вам па сакрэту, я таксама не благі ўжо казачнік».

Ён умеў быць такім абаяльным, што жанчыны, стрэўшыся з ім і адпіўшы з келіха яго чараў, няхай сабе толькі маленькі глыток, непрыкметна самі рабіліся чараўніцамі. І, думаю, гублялі галаву таксама не так ужо і рэдка («Яка чудова, яка чарівна людина!..» — чуецца мне здалёку даўні ўсплёск жаночага захаплення, пра якое сам Караткевіч, напэўна, і не ведаў...).

З мужчынамі ж, часам нават і з вельмі блізкім сябрам, калі той не надта далікатна наступаў на любы яго мазоль і закранаў яго самалюбства, ён рабіўся раптам ганарысты і пагардлівы, як польскі пан ці старадаўні шляхціц («Гэта вы хочаце павучаць мяне добраму тону?..» — і абавязкова з блізкага сяброўскага «ты» пераходзіў на пагардлівае «вы»).

Я бачыла, як стаяў ён і пачціва падтрымліваў (у трамваі) сваю высакародную, у цёмным адзенні, маці, калі праводзіў яе на вакзал у дарогу. «Гэта мая мама»,— наколькі дазваляла трамвайная таўкатнеча, з гонарам пазнаёміў ён мяне з тою, якая ўзводзіла яго па ўласнай радаслоўнай лініі ці не да беларускіх «інсургентаў» — продак яго па гэтай лініі быў «камандзірам», як сам ён адзначае ў сваёй аўтабіяграфіі, беларускіх паўстанцаў. Дарэчы, гэта «лінія» таксама адна з улюбёных у творчасці Караткевіча: непакора і высакародная годнасць!

...Нагадваецца прэм'ера оперы Дз. Смольскага «Сівая легенда» па лібрэта Уладзіміра Караткевіча. Запрошаны на спектакль пісьменнікі, мастакі, архітэктары, вучоныя... Усе і ўся, хто мае дачыненне да беларускай культуры і яе даўніны. У тэатральным фае звычны гоман, смех, вітанні... І ў гэтым бляску вельмі стрымана, сціпла, з непрыкметна падкрэсленай годнасцю, прымае папярэдніх віншаванні адзін з віноўнікаў маючай адбыцца хвалюючай (для яго асаблівай!) падзеі — Караткевіч. У строгім цёмна-сінім гарнітуры, гэтакі ж строгі гальштук... Яны таксама нібыта падвышаюць яго і так у яго добрым росце, надаюць адпаведнай значнасці.

І побач — жонка. Сяброўка, разумны друг і адданніца. І ў свяце бясхмарным, як зараз, і ў пакуце, якая чакае яшчэ наперадзе... Валянціна Браніславаўна Караткевіч — вядомы, вельмі паважаны і аўтарытэтны вучоны-гісторык. У сям'і сваю «вагу», і веды, і сваё месца яна, аднак, умее вызначыць так незаўважна, што пры ўсім, на чым трымаюцца спакой, працаздольнасць, натхнёная апантанасць за пісьмовым сталом, мужавы «ўсяночныя» дома з сябрамі і гэтакія ж «усяночныя» нярэдка і невядома дзе ў сяброў, і сотні, тысячы самых разнастайных адценняў жыцця і настрою таленавітага творчага чалавека (а калі яшчэ т а к о г а, як Караткевіч!) — пры ўсім гэтым сама яна ўмее не меней таленавіта заставацца як быццам усяго толькі жонкай. Побач з мужам. (Як быццам усяго гэтага мала... Як быццам гэта — не подзвіг.)

...Мы не сябравалі з Уладзімірам Караткевічам. Не былі блізкія «дамамі»... Пры самым першым знаёмстве выбухова зблізіў нас успеты Караткевічам у яго рамане Рагачоў. І зусім «парадніла» старая хвоя-ліра на рагачоўскіх могілках над Дняпром. І ён і я — у розныя часы — сядзелі на гэтай хвоі-ліры ў святлейшыя дні свайго жыцця!

А перад гэтым, у красавіку 1966 года па дарозе аўтобусам у Гісарскую даліну, калі мы ехалі на сустрэчу з чытачамі (удзячны лёс занёс мяне на з'езд пісьменнікаў Таджыкістана), цудоўны чалавек і таленавіты крытык-літаратуразнаўца Аляксандр Макараў казаў мне:

— Алёна, вы обязательно должны близко познакомиться с Володей Короткевичем! Это такой необыкновенный мальчик! Белорусская литература будет гордиться им! Володя был самым любимым моим учеником!

(Уладзімір Караткевіч вучыўся ў А. М. Макарава ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах.)

Вось пасля стрэчы з Макаравым, пасля таго, як перадала я палкія вітанні настаўніка яго вучню, і вучань таксама ўспамінаў і гаварыў пра свайго настаўніка з непадробнай любоўю і абагаўленнем (Дарэчы — супадзенне? — абодва яны пражылі амаль аднолькавы век. Вучань пражыў нават на год меней за настаўніка...), пасля ўсяго гэтага і «знайшоўся» Рагачоў — наша агульная адданасць і захапленне, і славутая хвоя-ліра, і доўгая, прыязная, натхнёная гаворка. «О Шиллере, о музах, о любви»...



Розны ён быў, ох, які розны, Уладзімір Караткевіч! І зусім няма патрэбы сёння далучаць яго да «ліку святых»... Яго самога гэта смяшыла б і абурала. Ён быў у жыцці і ў сваіх кнігах святы грэшнік. Таму і застаўся ў нашай памяці і ў нашым эмацыянальным свеце як непаўторная з'ява.

...Не скажу, каб вельмі трымалася я свят ці памятала хоць адну малітву (за выключэннем, вядома, «Ойча наш»!), якім вучыла мяне ў раннім маленстве мая набожная пакутніца-маці. А, памятаю, як было нечакана радасна, калі аднойчы на вялікдзень дастала я з паштовай скрынкі дзіўную прыгожую паштоўку з намаляваным велікодным яйкам-«пісанкай». «З вялікаднем!» — і больш ні слова — толькі адваротны адрас на вуліцу Карла Маркса — Караткевічаў адрас... І так павеяла тады добрым светлым святам у маёй хаце.

З усмешкай — сёння такой бясхмарнай — успамінаецца, як у нашых незабыўных Каралішчавічах аднойчы пасля адпаведнай нагоды ў позе нявіннага дзіцяці заснуў у ніжнім вестыбюлі ў крэсле малады яшчэ Валодзя Караткевіч. І як зусім бяскрыўдна і быццам няўзнак, таксама яшчэ па-маладому ўзбягаючы па лесвіцы на другі паверх, кіўнуў з гумарам на «заснуўшага Вакха» Янка Брыль:

— Караткевіч, як Вальтэр у крэсле!

Ах, Вальтэр...

«Ля дзвярэй стаяў на падлозе вялікі бюст Вальтэра, вельмі падобны на гаспадыню, і какетліва на мяне пазіраў з-пад анучы, якая замест лаўраў вянчала яго галаву... А ў наступным пакоі быў такі гармідар, быццам тут змяшчаўся чатырыста год таму філіял Грунвальдскай бітвы...»

Калі б вам з суседняга пакоя, не паказваючы кнігі ў вочы, хто-небудзь прачытаў усяго толькі два гэтыя пасажы, не сумняваюся, вы беспамылкова, захоплена ўсклікнулі б: «Госпадзі, ды гэта ж Караткевіч!»

Вобразная палітра Караткевіча настолькі свая, настолькі ні на чыю іншую не падобная, што памыліцца немагчыма!



— Пазваніце мне! Мне гэта вельмі патрэбна!..— прасіў ён у той непраглядны, даўні ўжо вечар.

Чаму я не пазваніла яму?!

**Фота Вячаслава ДУБІНКІ.**

# ЗВАНОК

**Язэп ПУШЧА**

## *Асеннія песні*

I

Сам ня знаю, што сягоння я сыграю,—
толькі струны ліры узнімаюць гранне.
Параходы ў ходзе, падаюць сыгналы;
хвалі размываюць цёс гранітных граняў.

Хвалі узнімаюць на Няве трывогу,
бы ў душы паэты гнеўныя усплёсы.
Як ня ўспомніць тут мне чорную дарогу
і свайго юнацтва дзень светлавалосы.

Зябка мне і сэрцу ў палітоне штацкім,—
ўзняўся вецер золкі на заліве Фінскім.
Я стаю ля сценаў Акадэміі мастацкай,
прад вачмі маімі вяліканы-сфінксы.

Ці ўзвіецца дух мой творча-сакаліны,
і ці ўдасца толькі мне іх разгадаці?
Пралажылі людзі рэйсы-каляіны,
пралажылі ўсюды: праз паветра й гаці.

Я ж тулюся ў суме да самотных статуй,
і сляза спадае на граніт і мармур.
Беларусь краіна,— найміцай астатняй,—
ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.

Ой, Зямля-Плянэта і браты-народы!
Я спраўляю штодзень страшнае маленне:
распяваю псальмы аб краіне роднай,
распяваю ўвечар, стаўшы на калені.

Сашчамляю рукі і ўзнімаю ўгору,—
хоць ня містык духам, не манах пакорны.
Бачу на панэлях бяспрытульны горад,—
не магу ўхапіцца аніяк за корні.

Пэўна вечна жыць мне з песняй бяспрытульнай;
вырадкам праслыць, знаць, суджана ад роду.
Выйду на дарогу, на сустрэч Матулі;
можа прыйме сына, не знайшоў што броду?

Я злажу вітанне не у чэрствых словах;
мо прыгорне цела і душу усцешыць?
Пазрываюць ветры з стрэх старых салому,
і мне з ёй усцелюць пуцявіны, сцежкі.

Будзе дзень святочны, дзень другога прыйсця:
прыдзе Маці з Сынам, на услоне сядуць...
Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця,—
будзе святкаванне песеннае ў садзе.

Прыдуць з песняй тыя, што сабе ня лгалі,
што слязу ранялі на сырым кургане...
Параходы ў ходзе, падаюць сыгналы,
хвалі размываюць цёс гранітных граняў.

II

Трасецца асенні заплаканы вечар;
цвятлівыя далі азглелі, ссінелі.
Стаяць замарозкі ў душы чалавечай,—
ніяк не сагрэцца пад шэрай шынэляй.



**Язэп Пушча (Іосіф Паўлавіч Плашчынскі; 1902—1964) — паэт, імя якога стаіць ля вытокаў беларускай савецкай паэзіі, адзін з заснавальнікаў літаратурных арганізацый «Маладняк» і «Узвышша». У рэчышчы маладнякоўскай паэзіі адметным і своеасаблівым быў паэтычны голас Я. Пушчы. Яго вылучала высокая культура творчасці, увага да мастацкага боку вершаў. Іменна жаданне пісаць высокамастацкія рэчы кіравала групай паэтаў, якія выйшлі з «Маладняку» і ўтварылі новае літаратурнае аб'яднанне «Узвышша». Сярод актыву групы быў і Язэп Пушча. Паэт скончыў Ленінградскі універсітэт (1929). У 1927 годзе, жывучы ў горадзе на Няве, прасякнуты настальгіяй па бацькаўшчыне, ён стварыў паэтычныя цыклы «Асеннія песні» і «Лісты да сабакі». Апублікаваныя творы з'явіліся адной з падстаў для палітычнага абвінавачвання Я. Пушчы ў нацыянал-дэмакратызме. У 1930 годзе ён быў арыштаваны і высланы на Урал, правёў у ссылцы амаль трыццаць гадоў. Вярнуўшыся ў 1958 годзе ў Мінск, працягваў літаратурную дзейнасць. Прызнаваўся, што паэтычны цыкл «Асеннія песні» быў напісаны пад уражаннем вершаў Э. Верхарна. Пры ўсім пры тым гэта рэч, як можа пераканацца чытач, цалкам самастойная.**

**Ірына БАГДАНОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

Азяблае цела ў трагічным уздыме;
зямлі нагату акрывае лістота.
Хто з крыжа краіну распятую здыме?
Ўзываю, малюся у грэшнай істоце.

Я грэшнік сягоння,— о грэшнік вялікі:
глумлюся ў душы над дарамі святымі;
страчаю, мінаю і юдавы блікі;
ня гнуся каленьмі ў бажніцы, святыні.

Раскаяннем сэрца ніяк не расчулю;
ад болю ня рвецца,— сціскаецца ў камень.
Услаўлю народ свой я песняю чулай,
хоць целам павісну на вострым паркане.

Хоць зоры, часамі, і месяц бялявы
іскрыстасцю сыплюць на строфы-прыгоршні;
услаўлю ўсё ж тое, што вартае славы,
прад ім і схілюся у дзень свой апошні.

III

Даліны адвеялі шумам аўсяным,
адвеялі хвалі аўсоў залацістых.
Збірайцеся, песні, у вырай з гусямі,—
прастор асыпае настрояў кваяцістасць.

Ў дуброве трывожны шчапаецца пошчак;
трасецца пад клёнам ільняная восень.
Ажоўклыя косы ёй дождж апалошча,
а сівер асушыць сухім сугалоссем.

На беразе возера ў вечар асмуглы
начлежнікі полымя больш не распаляць.
Вяршаліны шалыя неба абугляць
і далі лістамі крывавымі сплямяць.

Прайдуся па шораху лёгкай хадою,—
хай цела ашорхне і сэрца марозам.
Азябнуць хачу, прытуліўшыся долу;
ад песень, мэлёдый хачу ацьвярозець.

IV

Словы мае, словы — песні агнявыя,
ў полі на кургане вецер дзіка вые!

Крыльлямі лапочуць чорных птушак зграі;
віхар на кургане танец смерці грае.

Да яго прысела з жоўтым тварам восень,
і музыку ў танец, танец смерці просіць.

Кінуў ён на вотлех самаграі гуслі.
Струны забрынчэлі; смех разьятрыў вусны.

Цела у экстазе, у шалёным спрыце,—
сёння восень — дама, сёння віхар — рыцар.

На кургане танец здання — ценяў чалавечых,—
косы расплятаіся на худыя плечы.

Восень бліжай к сэрцу персі прытуляе,—
аніяк ёй не сагрэцца... Роспач... Лямант.

Віхар завіхрыўся, ўскінуў плашч таемны,—
ў цемені, сузмроку згаслі зор імгненні.

Жоўтымі лістамі зашуршалі далі,
гэта псальм жалобны ветры ў полі ўзнялі.

Віхар, рыцар смерці, апусціў калені,
галавой схіліўся перад целам акалелым.

1927.

# МУРАВАНКА

Каменныя сцены храмаў, з якіх асыпаюцца дзівосныя фрэскі старажытных майстроў,— іншы раз адзінае, што дайшло да нас, матэрыяльнае сведчанне мастацкай культуры мінулага. Таму і сцены гэтыя сапраўды святыя. Святыя не той «святасцю», якая абмяжоўваецца догмамі рэлігійна-філасофскіх дактрын, а святасцю чалавечага духу, які пераўтварыў свет. Гэтыя святыя сцены не царпяць самазадаволенасці і пыхлівасці, уласцівых іх колішнім гаспадарам, яны адкрытыя для ўсіх людзей як каменнае пасланне з мінулага ўсім наступным пакаленням.

Датыкаючыся да старажытных муроў, мы пераносімся праз стагоддзі ў тыя далёкія і незапамятныя часы, калі ў Еўропе нараджаліся і гінулі дзяржавы, калі ў перапляценні розных каранёў фарміравалася еўрапейская культура.

Разважаючы аб цудах, створаных рукамі чалавека, мы звычайна бачым іх ва ўяўленні недзе на краі зямлі. У той жа час у сваім, блізкім не заўсёды здольны ўбачыць незвычайнае. І раптам аказваецца, што гэты цуд побач, вось за тым паваротам, за гэтым пагоркам, на ўскрайку вёскі...

Так і Маламажэйкаўская царква, што літаральна «вырастае» перад тымі, хто едзе з Ліды ў Гродна, адразу за рэчкай Лебядой, як звыклая частка пейзажу Гродзеншчыны,— таксама звычайны рукатворны цуд, помнік архітэктуры, які вырас у буйным полымі XVI стагоддзя, якое так добра ахарактарызаваў у сваёй «Одзе ерасі» Уладзімір Караткевіч:

**Ветрык свабоды далёкай пяро на берэце ўзвівае,**
**Вогнішчаў полымя злое ў вачах маіх дзёрзкіх гарыць,**
**І паўстаюць папяроджаннем, якім да канца пагарджаюць,**
**Шыбеніц чорных «пакоі» на фоне далёкай зары.**

Ёсць шэдэўры-каноны, якія маюць сусветнае, агульначалавечае значэнне, але ёсць шэдэўры, якія належаць канкрэтнаму народу, данай культуры, якія найбольш дакладна і поўна адлюстроўваюць яе асаблівасці, каларыт, нацыянальны дух і характар. Менавіта ў гэтым і заключаецца для нас каштоўнасць Маламажэйкаўскай царквы, і менавіта праз гэту сваю вартасць яна з'яўляецца часткай сусветнай культуры.

У помніку сумясціліся і храмавае і крапаснoe дойлідства, адлюстроўваючы тую адвечную барацьбу за фізічнае і духоўнае існаванне, якая не спынялася на землях Белай Русі на працягу многіх стагоддзяў. Дух Сярэдневякоўя і дух Рэфармацыі спалучыліся ў гэтым храме, увасабляючы пачатак абуджэння ад сярэдневяковага сну да святла спазнання эпохі Адраджэння.

Час пабудовы Маламажэйкаўскай царквы вызначаецца сёння даволі пэўна — гэта першая палова XVI стагоддзя, а дакладней, да 1542 года, калі яна ўпершыню ўпамінаецца ў пісьмовай крыніцы — фундушным запісе віленскага падканюшага.

...XVI стагоддзе нельга было назваць мірным і спакойным. Беларускія землі ўваходзілі тады ў склад Вялікага княства Літоўскага. Засталася за спіною доўгая і крывавая вайна з крыжакамі, якая скончылася перамогай. Дзяржава ўстрапянулася, уздыхнула вальней. У гарадах пачалі развівацца гандаль, рамёствы, культура... Але неўзабаве мірнае жыццё зноў перапыніла вайна. На гэты раз — з Маскоўскай дзяржавай, якая толькі нядаўна цэнтралізавалася пасля цяжкіх часоў раздробленасці і іншаземнага прыгнёту. Больш за ўсё пакутавалі ад гэтай вайны простыя рамеснікі і сяляне, якія хоць і знаходзіліся па розныя бакі ваенных рубяжоў, але былі блізкія адзін аднаму па духу і нацыянальнасці. Прынамсі, гэта было не дзіўна на тыя часы, калі феадальныя разлады нярэдка ўспыхвалі не толькі паміж суседнімі дзяржавамі, але і паміж братамі ў межах адной дзяржавы або нават аднаго народа.

Пастаянная варожая атмасфера ў сярэдневяковай Еўропе не магла не зрабіць уплыў і на архітэктуру. Менавіта зыходзячы з задач ваеннай абароны, ужо ў XII—XIV стагоддзях сфарміраваўся жанр крапаснога дойлідства. Прыкметы абарончых збудаванняў мелі ў тыя часы і замкі, і асобныя дамы, і нават храмы. Еўрапейская сярэдневяковая традыцыя храмавай абароны прыйшла і на землі польскія, беларускія і літоўскія, дзе таксама хапала месца міжусобіцам і рэлігійнай варожасці. Нездарма польскае слова «касцёл» паходзіць ад лацінскага «castellum», што азначае ваеннае ўмацаванне, а працэс умацавання храмаў называўся інкастэляцыяй.

Заснавальнікам або фундатарам храма ў Малым Мажэйкаве лічыцца Шымка Мацкевіч — мясцовы феадал, які да таго ж меў і дзяржаўнае званне — віленскі падканюшы, а пазней — гараднічы. Невыпадковым было месца будаўніцтва храма — паміж важнымі гарадамі Гродна і Лідай і непадалёк ад сталіцы княства Вільні. Для храма была выбрана і зручная, адкрытая пляцоўка, што сведчыць аб тым, што яго заснавальнікі добра ўсведамлялі абарончае і сімвалічнае значэнне пабудовы.

У плане царква набліжаецца да традыцыйнага тыпу ўсходне-хрысціянскага храма — чатырохслуповая, аднаапсідная, амаль квадратная пабудова памерам 15×13,5 м. Аднак лаканічны, блізкі да канона план пераходзіць у даволі арыгінальны асноўны аб'ём кубічнай формы з высокім двухсхільным дахам і чатырма цыліндрычнымі вежамі па кутках.

Менавіта гэтыя вежы надаюць своеасаблівы характар усёй пабудове. Будаваліся яны найперш з абарончай мэтай, як і любыя іншыя крапасныя вежы або вежы-данжоны. Аднак невядомы дойлід надаў ім максімальную стройнасць, дакладнасць прапорцый у суадносінах з асноўным аб'ёмам будынка, з якога яны нібыта вырастаюць.

Суровы гатычны характар храма значна змякчае паўцыркульнае завяршэнне аконных праёмаў і дэкаратыўных ніш, размешчаных па ўсім фасадзе. На бакавых фасадах нішы спараны і злучаюцца пасярэдзіне гіркай, характэрным элементам рускага дойлідства.

Непаўторны выгляд надае пабудове і дэкор — упрыгажэнне сцен з чырвонай цэглы плоскімі атынкаванымі і пабеленымі нішамі. Гэты прыём прыйшоў у беларускае дойлідства са скандынаўскай і прускай архітэктуры, але тут атрымаў святочную, чыста славянскую трактоўку. Шчодры дэкор, які нагадвае вышыты ўзор вясковых тканін, незвычайна ўпрыгожвае храм. Невядомы мастак, магчыма, нават не ўсведамляючы да канца глыбокі філасофска-маральны, сімвалічны сэнс такога язычніцкага «аздаблення» храма, выкарыстаў народны дэкор, прыкметны сяпод узораў керамічных плітак на сценах Каложскай царквы ў Гродне і ў белых на чырвоным фоне нішах Мірскага замка.

Моц крапаснога дойлідства больш за ўсё выявілася ў апсідзе — усходняй свяшчэннай частцы храма, якая цэласнай паўцыркульнай масай замыкае асноўны аб'ём. Аб ваенным характары пабудовы сведчаць і тыя нямногія байніцы, якія захаваліся (астатнія замураваны). Гэтыя байніцы адчыняліся з бакавых галерэй, размешчаных пад самым дахам. Менавіта з гэтых галерэй вялі агонь асаджаныя. У тыя часы ў ваенную практыку ўжо ўвайшла лёгкая агнястрэльная зброя, хоць асноўным відам узбраення па-ранейшаму заставаліся арбалеты. Менавіта ад лёгкай зброі маглі абараніць сцены царквы-крэпасці. Сур'ёзнай аблогі з выкарыстаннем гармат яна, вядома, не вытрымала б.

Дойлід і майстры, якія будавалі храм, добра валодалі гатычнымі прыёмамі муравання, пра што сведчаць, напрыклад, скляпенні асноўнага нефа ў выглядзе зоркі з ярка выяўленымі нервюрамі. «Беларускай готыкай» назваў гэты дзівосны сплаў стыляў вядомы мастацтвазнаўца М. Шчакаціхін, заўважыўшы пры гэтым, што «... стылістычная нявытрыманасць зусім не шкодзіць агульнаму ўражанню...»

На наш пагляд, не шкодзяць мастацкім вартасцям помніка і некаторыя змены, якія ён перажыў за чатыры стагоддзі існавання. У час найбольш значнай перабудовы ў 1871—72 гадах былі надбудаваны вежы заходняга фасада, а перад уваходам пабудаваны цвінтар з невялікімі зграбнымі вежамі па вуглах.

Час і людзі, вядома ж, наносілі і істотны ўрон помніку. Так, у XVII стагоддзі ён быў разгромлены казакамі цара Аляксея Міхайлавіча, а на пачатку XVIII стагоддзя абстраляны войскамі шведскага караля Карла XII. Ды, відаць, і мы, няўдзячныя нашчадкі, правініліся перад помнікам сваім прамаруджваннем з кансервацыямі ды рэстаўрацыямі.

Расказваючы пра Маламажэйкаўскую царкву, нельга не ўспомніць пра яе блізкіх архітэктурных сваякоў — цэрквы ў Сынкавічах і Супраслі, касцёлы ў Ішкалдзі і Камаях, замак у Міры. Кожны з гэтых выдатных помнікаў пакінуў свой след у беларускай культуры, у кожным адлюстраваліся тыя ці іншыя рысы мастацкага генію народа. Даўно і даволі суха апісаныя ў спецыяльнай літаратуры, гэтыя помнікі пакуль недастаткова даступныя шырокаму колу людзей. Іх даступнасць і разуменне, уключэнне ў мастацкую свядомасць народа павінны быць падмацаваны і матэрыяльнымі і маральнымі дзеяннямі. Да матэрыяльных трэба аднесці не толькі кансервацыю і рэстаўрацыю, але і стварэнне спецыяльных турысцкіх маршрутаў і зон з усім неабходным для вандроўнікаў.

Помнікі дойлідства Беларусі разнастайныя і цікавыя. Маламажэйкаўская царква вызначаецца сярод іх і сваім непаўторным выглядам, і тым грамадзянскім, светлым настроем, які мы адчуваем у гравюрах і літаратуры Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, Л. Зізанія. Гэта той рэнесансны гуманістычны дух, які выходзіць з народных глыбінь і накіраваны ў будучыню, да святла спазнання. У Маламажэйкаўскай царкве амаль не адчуваецца тая канструкцыйная манументальнасць, якая вызначае Сынкавіцкі храм або Мірскі замак. Яе архітэктура больш дэмакратычная і вытанчаная адначасова.

Нездарма народ прысвоіў ёй яшчэ адно імя — Мураванка, а так ласкава людзі могуць назваць толькі нешта вельмі блізкае і роднае.

**Армен САРДАРАЎ,**
**кандыдат архітэктуры.**

**Маламажэйкаўская абарончая царква. XVI стагоддзе.**

**Фота Уладзіміра ЖАРКО.**

**Анатоль КАЗЛОВІЧ**

# чалавек

**Кірыла Пракопавіч Арлоўскі — чалавек легендарны. Пад яго кіраўніцтвам калгас «Рассвет» дасягнуў такой вышыні, якая і праз дваццаць гадоў, да сённяшняга дня, недасягальная для пераважнай большасці гаспадарак рэспублікі. Цяжка ў гэта паверыць, але гэта — факт. Сумны факт. Невытлумачальны. Ёсць нямала людзей, якія спрабуюць вытлумачыць «недасяжнасць» «Рассвету» вельмі арыгінальным спосабам. Маўляў, Арлоўскаму, чалавеку легендарнаму, двойчы Герою, дажджом сыпалася ўсё: трактары, угнаенні, будматэрыялы. Яму, маўляў, усё давалі — і калгас рос як на дражджах. Такая думка існуе ў асяроддзі вясковых гаспадарнікаў, творчай інтэлігенцыі. Гэта значыць, па сутнасці, адмаўляецца роля і значэнне самога Арлоўскага. Гэта несправядлівасць, гэты паклёп шмат гадоў крадуцца ценем побач з легендарным імем. І пры жыцці яго, і пасля смерці. Нядаўна ў мае рукі трапіла службовая перапіска К. П. Арлоўскага. 1966 год. Росквіт яго старшынёўскага таленту. У наступным, 1967, годзе ён шмат будзе хварэць, і марозная зімой 1968-га яго не стане. Пачытаем, які клопат займаў старога старшыню ў зеніце славы і ў зеніце падазрэнняў з боку зайздроснікаў і паклёпнікаў.**



Такім чынам, выходныя пісьмы за 1966 год. Стукае, як кулямёт, пішучая машынка Арлоўскага:

«4.01. «Белпраект». Тав. Цернікаву В. К.

Праўленне калгаса «Рассвет» вырашыла будаваць крухмальны завод сваімі сіламі. Зрабіць гэтак нас вымусіла тое, што Вы не ў стане зрабіць нам праект крухмальнага завода да чэрвеня 1966 года. Значыць, у гэтым годзе мы не зможам перапрацаваць бульбу на крухмал, што нашаму калгасу не выгадна.

Праўленне калгаса «Рассвет» просіць Вас і ўсю Вашу арганізацыю не рабіць нам праект на будаўніцтва крухмальнага завода. Арлоўскі.

17.01. Дырэктару Бабруйскага млынкамбіната № 17 Гуніну.

Згодна з Вашым графікам дзень атрымання камбікорму з камбіната калгасамі Кіраўскага раёна — гэта аўторак.

Сёння яшчэ не аўторак, але наш калгас «Рассвет» вязе ў Бабруйск свіней на мясакамбінат. А таму найвялікшая да Вас просьба адпусціць нашаму калгасу 10 тон камбікорму сёння замест заўтрашняга дня з тым, каб нашы машыны не вярталіся зваротным рэйсам парожнімі. Арлоўскі.

18.01. Сакратару ЦК КПБ тав. Сурганаву Ф. А.

Заява.

Праўленне калгаса «Рассвет» дакладвае Вам, што на першы квартал 1966 года нашаму калгасу запланавана толькі 60 тон аміячнай салетры, у той жа час, калі побач з намі калгас «Камуніст» мае ў 3 разы менш сельгасугоддзяў, а яму таксама запланавана 60 тон аміячнай салетры.

Акрамя таго побач з намі саўгас імя Кірава — яму запланавана на першы квартал 120 тон.

Мы просім Вас, Фёдар Анісімавіч, адмяніць такое размеркаванне і па магчымасці дадаць нашаму калгасу ў першым квартале яшчэ 60 тон аміячнай салетры. Арлоўскі.

24.01. «Саюзсельгастэхніка».

Тав. Башкірцаву.

Праўленне калгаса «Рассвет» просіць Вас аказаць садзейнічанне — прадаць адзін аўтамалакавоз на шасі ЗІЛ-130 у другім квартале 1966 года, таму што «даў бог цяля, ды не даў хлява». Вялікае малако, прыкладна 50 тысяч літраў у дзень, мы вымушаны перавозіць у малочных біклагах.

Звяртаемся да Вас ужо трэці раз. Арлоўскі.

29.01. Старшыні Белкаапсаюза тав. Якавенку В. К.

Калгас «Рассвет» у лютым робіць канчатковы разлік калгаснікаў за 1965 год. Агульная сума выдаць на працадні складзе 350—400 тысяч рублёў. Ад калгаснікаў паступіла шмат заявак на набыццё тэлевізараў, таму што нядаўна ўступіў у строй Магілёўскі тэлецэнтр. Прашу выдзеліць нам тэлевізары: «Нёман» — 100 штук, «Тэмп» — 50, «Рубін» — 30, «Рэкорд» — 20 штук. Арлоўскі.

1.02. Начальніку Бабруйскага БМУ.

1. Колькі выдзяляецца грашовых сродкаў Бабруйскаму БМУ меліярацыі ў 1966 годзе?

2. На якіх аб'ектах вышэйпамянёнае БМУ будзе працаваць у 1966 годзе?

3. На колькі гадоў плануецца Бабруйскім БМУ асваенне абалоны ракі Ола на тэрыторыі калгаса «Рассвет»?

4. Колькі гектараў плануецца асвоіць закрытым дрэнажом у 1966 годзе, колькі ў 1967-м?

5. У якім годзе Бабруйскае БМУ пачне вымаць грунт на месцы рыбнай сажалкі ў в. Мышкавічы?

Вышэйпамянёныя пытанні вельмі цікавяць праўленне калгаса «Рассвет», таму што ад вышэйпамянёнай работы залежыць развіццё і ўмацаванне эканомікі нашай гаспадаркі. Арлоўскі.

6.02. Старшыні «Белсельгастэхнікі» тав. Хітруну Л. І.

Праўленне калгаса «Рассвет» паўторна звяртаецца да Вас, Леанід Іванавіч, з просьбай прадаць 10 шлангаў да экскаватараў.

Адначасова дакладваем Вам, што апошнія два гады (1964—1965) з гэтым пытаннем мы 3 разы звярталіся да Вас, 6 разоў звярталіся ў магілёўскую «Аблсельгастэхніку» да тав. Перальмана, кожны тыдзень мы звярталіся ў кіраўскую «Райсельгастэхніку» да тав. Мішчанкова, але нашы просьбы застаюцца незадаволенымі, і нашы 5 экскаватараў не працуюць. Арлоўскі.

7.02. Сакратару ЦК КПБ тав. Сурганаву Ф. А.

Дарагі Фёдар Анісімавіч!

Прашу прабачэння, што ў трэці раз пішу Вам па аднаму і таму ж пытанню. Сутнасць справы ў тым, што ёсць яшчэ людзі, камуністы, якія займаюць высокія службовыя пасады і не маюць камуністычнага сумлення.

Начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі Купчэня М. В. на Ваш тэлефонны званок — разабрацца з маёй скаргай — уводзіць у зман кіраўніцтва вобласці, сваімі выкрутасамі як чыноўнік імкнецца даказаць сваю праўду, у той час як ён не мае рацыі ў пытанні размеркавання азоцістых угнаенняў.

Калгас «Рассвет» недаатрымаў 60 тон аміячнай салетры з-за чыноўніка Купчэні М. В. Арлоўскі.

7.03. Начальніку Кіраўскага вузла сувязі.

Праўленне калгаса «Рассвет» даводзіць да Вашага ведама, што ў нашым калгасе ёсць толькі адна радыёкропка,— гэта ў будынку калгаснага санаторыя. А ў вашай бухгалтэрыі штомесяц налічваецца нам за радыёслуханне 10 руб. 40 кап., гэта значыць, за 6 радыёкропак.

Паўторна просім зняць з нас радыёкропкі, якіх няма ў нас. Арлоўскі.

15.03. Першаму сакратару ЦК КПБ тав. Машэраву П. М.

За апошнія 3 месяцы я тры разы пісаў сакратару ЦК КПБ тав. Сурганаву па аднаму і таму ж пытанню — аб няправільным размеркаванні мінеральных угнаенняў паміж калгасамі і саўгасамі, але ні на

# веруючы

адно з трох маіх пісьмаў я адказу не атрымаў, таму вымушаны пісаць Вам, Пётр Міронавіч.

На першы квартал 1966 года Кіраўскі РК КПБ выдзеліў аміячнай салетры: калгасу «Камуніст» — 60 тон, саўгасу імя Кірава — 120, а калгасу «Рассвет» толькі 10 тон, у той час як у калгасе «Камуніст» у тры разы менш сельгасугоддзяў, чым у нас, а ў саўгасе імя Кірава — менш на 20 працэнтаў.

Сакратар Кіраўскага РК КПБ тав. Несцерава Е. П. распарадзілася прадаваць аміячную салетру не па сельгасугоддзях, а па прынцыпу ганебнай ураўнілаўкі. Таму праўленне калгаса «Рассвет» адмовілася атрымліваць выдзеленыя тав. Несцеравай Е. П. 1,2 кілаграма аміячнай салетры на кожны гектар, пры гэтым заявіўшы: «Калі рассветаўская зямля не наелася, гэтым адным кілаграмам яна не наліжацца».

Дзве тысячы гектараў азімага жыта ў нас застаюцца не падкормленымі ўгнаеннямі. Арлоўскі.

10.04. Архітэктару Г. У. Заборскаму.

Даводжу да Вашага ведама, што мы з міністрам будаўніцтва БССР тав. Жыжалем сустракаліся на 23 з'ездзе КПСС. Тав. Жыжаль запэўніў, што ў бліжэйшыя 18 месяцаў будзе пабудаваны Палац культуры калгаса «Рассвет» сіламі лепшага трэста.

Мая просьба да Вас, Георгій Уладзіміравіч, як да аўтара праекта: зайдзіце да тав. Жыжаля і пагаварыце, каб у бліжэйшыя 10 дзён пачалі будаўніцтва падмурка.

12.04. У народны кантроль Кіраўскага раёна.

Даводжу да вашага ведама, што работнікі Бабруйскай міжраённай базы «Сельгастэхніка» нахабна крадуць мінеральныя ўгнаенні, якія яны адпускаюць гаспадаркам.

11 красавіка калгас «Рассвет» атрымаў грануляваны суперфасфат, і на кожнай аўтамашыне недаатрымана ад 350 да 500 кілаграмаў. Арлоўскі.

16.04. У Камітэт народнага кантролю БССР.

12 красавіка калгас «Рассвет» атрымліваў па нараду мінеральныя ўгнаенні на Бабруйскай міжрайбазе. На дзвюх нашых машынах было ўкрадзена 1990 кілаграмаў грануляванага суперфасфату.

Крадзяжы тут працвітаюць даўно. Я, Арлоўскі К. П., лічу, што такія крадзяжы праводзяцца не без ведама дырэктара базы, які на мае заявы не рэагуе. Арлоўскі.

3.05. Міністру будаўніцтва БССР тав. Жыжалю І. М.

Праўленне калгаса «Рассвет» занепакоена тым, што будаўніцтва Палаца культуры ў нашай гаспадарцы Вамі яшчэ не пачата. Мы хацелі б пабудаваць яго да 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Засталося паўтара года, трэба спяшацца. Просім Вашага садзейнічання і Вашага ўказання, Іван Мацвеевіч, пачаць будаўніцтва ў бліжэйшыя дні мая 1966 года. Арлоўскі.

**(Палаца культуры Кірыла Пракопавіч так і не ўбачыць. Ён будзе пабудаваны праз дзесяць гадоў, ужо пры Старавойтаве.— А. К.)**

10.05. Дырэктару Кіраўскага маслазавода тав. Літвінку П. Я.

Праўленне калгаса «Рассвет» паведамляе Вам, што наш Мышкавіцкі малочна-сепаратарны пункт, які знаходзіцца ў Вашым падпарадкаванні, перапрацоўвае за дзень каля 20 тон малака. Але завезенае Вамі абсталяванне не ўстаноўлена, ляжыць, валяецца, ніякога рамонту будынка не вядзецца, унутры ўсё чорна і брудна, не адпавядае ніякім санітарным патрабаванням.

Просім Вас, Пётр Якаўлевіч, прыехаць, паглядзець, пабяліць сепаратарны пункт. Арлоўскі.

16.05. Камітэт народнага кантролю БССР.

Праўленне калгаса «Рассвет» паўторна звяртаецца да вас наконт крадзяжоў мінеральных угнаенняў работнікамі Бабруйскай міжрайбазы.

Вы праяўляеце ў важнай справе пасіўнасць. Арлоўскі.

27.06. Начальніку ГУШАСДОРА пры СМ БССР тав. Грыгор'еву І. І.

Дарагі Іван Іосіфавіч!

Пры ўсёй павазе да Вас я павінен сказаць Вам, што Вы ў гэтым годзе не закончыце будаўніцтва новай дарогі з цвёрдым пакрыццём на тэрыторыі нашага калгаса.

Мінуў залаты час, залаты сезон для будаўніцтва дарогі — гэта май — чэрвень. Ліпень канчаецца. За апошнія два месяцы на дарозе зусім нічога не зроблена вашымі арганізацыямі. Калгас вымушан рабіць дарогу сваёй тэхнікай і сваёй рабочай сілай, хоць, як Вам вядома, мы павінны вырошчваць хлеб. Арлоўскі.

30.05. Масква, Крэмль.

Генеральнаму сакратару ЦК КПСС тав. Брэжневу Л. І.

Дарагі Леанід Ільіч!

Ведаючы, што Вы вельмі заняты работай, прашу прабачыць мне, што Вам пішу гэта пісьмо.

Дазвольце далажыць, што працаўнікі калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці горача адабраюць рашэнні Пленума ЦК КПСС, што нядаўна закончыў сваю работу. У гэтых рашэннях нашы калгаснікі бачаць вялізны клопат партыі і ўрада аб нашай сельскай гаспадарцы, аб росце дабрабыту ўсяго народа. Нашы калгаснікі імкнуцца справай адказаць на рашэнні Пленума, зрабіць ураджайным кожны гектар зямлі.

Мы штогод сеем 1120 гектараў бульбы і атрымліваем высокі ўраджай: 225 цэнтнераў з гектара. Ва ўмовах нашага Кіраўскага раёна бульба з'яўляецца культурай-гарантыяй. За апошнія 21 год гэта культура нас не падвяла і добра апраўдала працу чалавека. Бульбай мы кормім жывёлу, атрымліваем высокія надоі малака. Занялі першае ў Беларускай ССР месца па надоях, а таксама па высокай аплаце працы калгаснікаў.

Дарагі Леанід Ільіч! Працаўнікі нашага калгаса адчуваюць вялікія цяжкасці ў час уборкі бульбы таму, што бульбаўборачных камбайны — іх у нас 17 штук — не маюць запасных частак, і мы нідзе не можам іх дастаць. Нам вельмі неабходны запчасткі да камбайнаў маркі КГП-2 і ОК-3 наступныя:

1. Падшыпнікі № 121 — 70 штук.
2. Эксцэнтрыкі — 70 штук.
3. Корпус эксцэнтрыка — 25 штук.
4. Транспарцёр пярэдні — 17 штук.
5. Зорачка камякадавільніка — 70 штук.
6. Вал вытрэсвальніка — 20 штук.

Калі б у нас былі запасныя часткі да бульбаўборачных камбайнаў, то мы б штогод сеялі бульбы не 1120 гектараў, а на 500 больш. Гэтым самым яшчэ больш умацоўвалі б кармавую базу, павялічвалі б прадуктыўнасць жывёлагадоўлі, яшчэ лепш выконвалі б рашэнні нашай партыі па павелічэнню прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Вось гэта пытанне і прымусіла мяне напісаць Вам гэта пісьмо і прасіць Вашага садзейнічання.

К. Арлоўскі, старшыня калгаса «Рассвет», дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы.

14.07. Начальніку Бабруйскага ДБР тав. Кандрацьеву А. П.

Праўленне калгаса «Рассвет» дакладвае Вам, што няшчаснае Міністэрства меліярацыі БССР і тройчы няшчаснае Бабруйскае БМУ за апошнія 3 гады не знайшлі ні матэрыялу, ні вольнага часу, каб пабудаваць на каналах два невялікія масткі-пераезды. І вось наш калгас 3 гады мучыцца, аб'язджаючы каналы, робіць лішнія 10 кіламетраў.

Просім прадаць нам жалезабетонных кольцаў дыяметрам 1 метр у колькасці 14 штук. Арлоўскі.

15.07. Начальніку Магілёўскага ДУ-708 тав. Есіповічу.

Вы пісалі старшыні Кіраўскага райвыканкома (копія — мне) з тым, што наш калгас самавольна скасіў сена, прызначанае работнікам аўтамабільнай дарогі, і патрабавалі вярнуць.

Прачытаў я Ваша «грознае» пісьмо і глыбока задумаўся над тым, што калгаснік, які корміць усіх, усю дзяржаву, мае ў асабістым карыстанні прысядзібны ўчастак 0,30 га, а дарожнаму работніку, як Вы пішаце, належыць 0,25 га ворнай зямлі ды яшчэ 1 га сенакосу. Гэта ж яўная недарэчнасць, якая не вытрымлівае ніякай крытыкі, таму што вы, служачыя і дарожныя работнікі, можаце памерці з голаду без калгаснікаў.

У 1965 годзе наш калгас «Рассвет» у прыдарожнай паласе, каля цэнтра гаспадаркі, узараў і пасеяў шматгадовыя травы на плошчы 0,65 га і законна ўбраў гэтыя травы ў чэрвені 1966 года. Вашы ж работнікі на тэрыторыі нашага раёна маюць па 2 га ворнай зямлі і сенакосу.

Падумайце самі: дзе тут справядлівасць, а дзе няма справядлівасці.

5.08. Дырэктару Сормаўскага харчгандлю (г. Горкі) В. Малянаву.

Атрымаўшы Ваша пісьмо, спяшаюся адказаць, што ў нашым калгасе сёлета вельмі добрыя, чыстыя, буйныя яблыкі сорту антонаўка-каменічка.

Калі мы з Вамі дамовімся аб цане, то ў кастрычніку мы можам прадаць тон 350 яблыкаў першага гатунку.

Скрыні-тара, упакоўка, пагрузка ў вагоны і аплата за вагоны будуць нашы. Вам ніякіх турбот — толькі прыняць нашы яблыкі на чыгуначнай станцыі Беразіна. Высылайце вашага прадстаўніка заключыць дагавор. Арлоўскі.

8.08. Дырэктару Мінскага плодагароднінагандлю Дудзінскаму С. К.

Праўленне калгаса «Рассвет» звяртаецца да Вас з просьбай накіроўваць у наш калгас на нашых машынах, якія дастаўляюць Вам агуркі, скрыні-тару для яблыкаў. Арлоўскі.

25.08. Старшыні СМ СССР Касыгіну А. М.

Праўленне калгаса «Рассвет» вымушана Вам далажыць, што ў гаспадарцы ёсць 340 гектараў пладовага саду і такая ж колькасць садоў на прысядзібных участках.

У 1966 годзе нашы сады далі нам 1650 тон антонаўкі, залатога ранету, цітаўкі. Прадаваць яблыкі нават па самай нізкай цане мы не маем магчымасці, таму што мясцовыя нарыхтоўчыя арганізацыі не прымаюць, а па заключаных намі дагаворах з прадзабеспячэннем пры Уральскім алюмініевым заводзе і з Волжскім аб'яднаным рачным параходствам адпраўляць яблыкі па чыгунцы не можам, таму што начальнік аддзялення перавозак грузаў Беларускай чыгункі тав. Горхаў забараніў даваць калгасу вагоны.

Дарагі Аляксей Мікалаевіч! Гаспадарчы разлік прымушае праўленне калгаса падумаць: ці варта займацца садаводствам, ці не лепш выкарчаваць пладовыя дрэвы?

Скормліваць жывёле добрыя яблыкі мы лічым неразумным, таму што нашы савецкія людзі хочуць есці гэтыя добрыя яблыкі самі. Арлоўскі.

9.09. Савет Міністраў БССР, Дзяржплан БССР.

Праўленне калгаса «Рассвет» рада далажыць, што будаўніцтва Палаца культуры на 950 месц пачата.

Магілёўскі будтрэст № 12 узяў абавязацельства асвоіць у 1966 годзе 200 тысяч рублёў, хоць праўленне нашага калгаса ў гэтым сумняваецца.

Пры гэтым прыкладаецца гадавы падрадны дагавор паміж калгасам «Рассвет» (заказчык) і трэстам (падрадчык), які я, Арлоўскі, адмовіўся падпісаць, таму што гэты дагавор абавязвае калгас дастаўляць усе будаўнічыя матэрыялы, а іменна: метал, цэмент, лес, цэглу, друз, каменне, вапну. Як вам вядома, у калгасе «Рассвет» гэтых матэрыялаў не было і няма.

Прашу растлумачыць вышэйсказанаму трэсту, што наш калгас з'яўляецца калектывам, які вырабляе прадукты сельскай гаспадаркі, а не будматэрыялы. Арлоўскі.

12.09. Мінск, «Белсельгастэхніка».

Праўленне калгаса «Рассвет» дакладвае вам, што з наяўных у нашай гаспадарцы 24 бульбаўборачных камбайнаў у цяперашні час 6 штук не працуе з-за адсутнасці наступных запасных частак, якія мы просім прадаць нам у бліжэйшыя дні:

камбайн маркі К-3:

1. Зорачка — 27 штук.
2. Эксцэнтрык — 36.
3. Сальнік — 276.
4. Вал эксцэнтрыка — 9.
5. Вал вытрэсвальніка — 18.
6. Ролік вытрэсвальніка — 60.
7. Лямеш левы — 9.

**(Заканчэнне на 32-й стар.)**



# КАВА, КАВА... І ЗНОЎ КАВА?!

Ці памятаеце, як мы дзесятак гадоў таму смяяліся, слухаючы Генадзя Хазанава, смяяліся і спачувалі са слязамі на вачах яго сцэнічнаму герою, студэнту «калінарнага тэхнікума», недацёпу і нядавучку, зусім забыўшыся, што гэта наш будучы «карміцель», смяяліся, даруючы напераджд яму піражкі, якімі можна забіваць сваі, і шэры, мутны суп, катлеты, што не кожнаму па зубах, у сталоўках грамадскага харчавання.

І вось прайшло крыху часу. Наш герой падрос, узмужнеў, «набіў руку» ў грамадскай сталоўцы, навучыўся «хімічыць» і смела, без ніякаватасці пазіраць у вочы патрабавальным кліентам і адказваць з годнасцю: маўляў, не даспадобы — не еш. Разгневаны, галодны кліент пагражаў: «Я цябе выведу на чыстую ваду, гэта табе не асабістая лавачка». На гэтым усё і канчалася, напоўнены чым папала страўнік пераставаў бунтаваць, гнеў змяняўся на міласць у аднаго, і туманіўся мройліва пагляд у другога, які сапраўды цішком марыў аб гэтай маленькай асабістай лавачцы. Трэба сказаць, што хлопец гэты ўдачлівы.

З мая 1987 года ўступіў у сілу закон «Аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці», і сціплы работнік грамадскага харчавання актывізаваўся, адкрыў кааператыў. Мяне зацікавіў гэты ўвішны хлопец, і я парашыў наведаць яго маленькае прадпрыемства.

Душны, напаўцёмны пакойчык (хоць назва прадпрыемства «Сняжок» зусім не адпавядала такой абстаноўцы) сустрэў мяне густым духам кавы. Знайшлося, хоць прыйшлося крышку пачакаць, і вольнае месца, за адным з чатырох столікаў, што былі тут. Хлопец-афіцыянт пабрынкаў нечым жалезным у кішэні і пацікавіўся, што падаць. Меню не аказалася. Але я звярнуў увагу, што ўсе п'юць каву, і таксама заказаў кубачак. Разлічыць мяне парашылі адразу, як толькі прынеслі каву. Кожны, нават той, хто ў школе меў «трояка» па арыфметыцы, падлічыць, што, калі кубачак кавы каштуе 57 капеек, а кліент дае тры рублі, яму належыць 2 рублі 43 капейкі рэшты. Аднак ці афіцыянт не засвоіў найпрасцейшыя дзеянні арыфметыкі — складанне і адыманне, або забыў іх, але на мой стол леглі дзве жаўтаватыя паперкі. Гэта потым я ўспомніў пра правілы школьнай арыфметыкі, а спачатку падумаў: відаць, няма дробязі і, хлёбаючы каву, разглядаў інтэр'ер маленькага цяпер прадпрыемства. За стойкаю, каля буфета са стракатымі пустымі баначкамі, якія выконваюць, відаць, ролю былых слонікаў, што выстаўляліся на шчасце, варожыць гаспадар, пасоўваючы ў распаленым пясочку медзяную бляшаначку, варыць цуд-напітак — каву, які акрамя молатага парашку кавы, вады і цукру мае яшчэ таямнічы дарагі кампанент, цаною ў 43 капейкі (57—14=43). 14 капеек каштуе кубачак кавы, заварапы ў звычайных булачных і спецыяльных секцыях магазінаў. Дарэчы, чамусьці ў апошні час перасталі варыць каву ў большасці магазінаў. Можна назваць хаця б магазін кулінарыі на рагу Ленінскага праспекта і вуліцы імя Казлова, у хлебным магазіне па вуліцы Бялінскага і многіх іншых. Спасылаючыся на тое, што няма парашку кавы. Спадзяюся, чытачы дапоўняць спіс гэтых адрасоў.

Але вернемся да нашага кафэ, дзе паміж столікамі ўвіхаецца ўсё той хлопец-афіцыянт, спраўна ставячы галачкі ці палачкі ў блакноціку, каб не пераблытаць каму каву, а каму... каву. За столікамі заўсёднікі, якія, дарэчы, абслугоўваліся ў першую чаргу, мірна абмяркоўвалі праблемы асабістых аўтамабіляў і лепшых цыгарэт.

Я, падаючыся да выхаду, папытаў у афіцыянта: ці не выпіў я толькі што двайную каву. Атрымаў няясны адказ нешта накшталт дрэннай памяці. Пакінуў кафэ, глынуўшы напаследак густога тытунёвага дыму: за дзвярамі курылі дзяўчаты. Ураджанне ад кафэ склалася. Але пакіну яго пры сабе, не буду раіць хадзіць ці не хадзіць у такія кафэ — гэта справа асабістая для кожнага. Хочацца сказаць пра другое.

Канечне, гэткія кааператывы — справа новая. А ў новай справе заўжды бываюць розныя непрадбачаныя з'явы, якія, здараецца, носяць негатыўны характар. Назіраюцца дзіўныя метамарфозы. Нядаўна яшчэ была грамадская сталоўка або кафэ, а глядзіш, ператварылася ў кааператыўнае кафэ. Такая метамарфоза, напрыклад, адбылася з «Бутэрброднай» на скрыжаванні вуліц Свярдлова і Ульянаўскай. Хаця, можа, і добра, што былая забягалаўка на вуліцы Казлова, што прасмуродзілася півам і рыбаю, стала кааператыўным безалкагольным кафэ. Хаця ператварыць яе ў прыстойнае месца, дзе можна паесці, маглі б і работнікі гандлю Заводскага раёна. Трэба сказаць, што метамарфозы, калі дзяржаўныя ўстановы харчавання становяцца кааператыўнымі, вельмі частыя. Яны не толькі ў Мінску, але і ў другіх вялікіх і малых гарадах рэспублікі. Не выпадкова, што амаль 75 працэнтаў дзеючых кааператываў у галіне грамадскага харчавання арганізавана за кошт закрыцця дзяржаўных прадпрыемстваў харчавання.

Ці не з'яўляецца гэта дыскрэдытацыяй самога прынцыпу кааператываў як падмогі для расшырэння сферы харчавання і паслуг насельніцтву? Ідэя кааператываў узнікла не дзеля таго, каб даць магчымасць нажыцца якому-небудзь лаўкачу, які мае талент хутка здабываць грошы, як, дарэчы, многія зразумелі, а ўлічваючы патрабаванні людзей паўней забяспечыць і абслужыць іх.

Хтосьці прыдумаў, што нас, моладзь, трэба забаўляць, дапамагчы бавіць свой час. Хаця, калі разабрацца, большасць маладых людзей, студэнтаў, маладых рабочых, якія працуюць і вучацца, такога, як называюць, вольнага часу не маюць. Ды і не варта марнаваць яго на бяздумнае сядзенне ў кавярнях, лепш заняцца самаадукацыяй ці спортам. Канечне, ёсць яшчэ частка моладзі, якая любіць «пабалдзець». Раней яна збіралася ў розных барах, цяпер за кубкамі кавы. Можа, яно і добра, ціха сабе сядзяць, размаўляюць. Але, калі разабрацца, гэта, як і алкаголь, не на карысць здароўю. Ужываць каву і курыць становіцца звычкай. Звычкай, якая не ўпрыгожвае. За прыкладамі далёка не пайду: некаторыя мае аднакурсніцы — жывая антырэклама.

Угледзьцеся ў твары маладых людзей у студэнцкай аўдыторыі, у вучэбным класе прафтэхвучылішча. Яны шэрыя, пракураныя, з прыпухласцямі пад вачамі. Гэта сведчыць аб розных захворваннях: печані, сэрца, страўніка. А ім настойліва прапаноўваюць каву. Чаму каву? Чаму б не прапанаваць маладым людзям шклянку зялёнага чаю або чаю з адварамі розных зёлак, лекавых траў? Куды падзеліся сокі, фруктовыя асарці? А яшчэ мара студэнтаў: талерка пахкага беларускага супу, што дыміцца, які можна з'есці хутка, можа, нават у перапынку між лекцыямі і бібліятэкай. Такая мара не толькі ў студэнтаў або тых, каго застаў абедзенны час на вуліцы малога ці вялікага горада, а і ў вадзіцеляў на дарогах, рабочых невялікіх прадпрыемстваў у вялікіх і малых гарадах, дзе няма добрых сталовак. А прадпрыемстваў, асабліва ў мясцовай прамысловасці, вельмі многа. Думаю, у такіх калектывах не павінны чакаць, пакуль аб'явіцца нейкі лаўкач, адчуўшы спажыву, і наладзіць абслугоўванне гарачым абедам, а самім у сваім калектыве абавязаць некага рабіць гэта.

Цяпер, калі грамадства стала дэмакратычным, такую праблему, як талерка супу на абед, можна вырашыць вельмі лёгка. Скажаце, такое прадпрыемства можа быць нявыгадным. Магчыма. Але выгадна калектыву. Такія фактары, як здароўе і настрой чалавека, не апошнія, а можа, і галоўныя ў павышэнні працаздольнасці людзей, а, урэшце,— і іх настрою, прадукцыйнасці працы. Дык вось, не трэба чакаць дзядзька. Ён, канечне, можа аб'явіцца, але са сваёю нязменнаю каваю. Бо сок асабліва не разбавіш і ў цане вышэй галавы не скочыш, чай — які ад яго прыбытак? Затое колькі нябачных рэзерваў у кавы. Нават у самой яе варцы: па-турэцку, па-ўсходняму, па-французску, па-бразільску, па-сінгапурску...

Што тычыцца цэн у кааператыўных кафэ, то яны хутчэй за ўсё ўзятыя са столі — у большасці завышаны неапраўдана. І тая ж кава і мяккае марожанае з разнастайнымі сіропамі і варэннямі. Паспрабуйце, скажам, знайсці розніцу ў смаку марожанага ў кааператыўных кафэ і звычайных магазінах. А вось розніца ў цане істотная — каля пяцідзесяці капеек. А хто адрозніць, прыгатавана катлета з базарнага мяса ці магазіннага? Думаю, ніхто. Дакументы? Такія дакументы лёгка «дастаюцца» за пляшку.

Тым не меней, кааператыўныя кафэ не пустуюць. Пакуль гэтыя ўстановы ў навіну, многія прыходзяць сюды з-за цікавасці. Ва ўмовах жа паўтарамільённага горада, як наша сталіца, ды пры цікавасці жыхароў акаляючых гарадкоў і вёсак, наведвальнікаў хопіць надоўга. Мусіць, на гэта і разлічваюць кааператыўшчыкі. Яшчэ адзін штрых: калі знікаюць прадпрыемствы грамадскага харчавання, то міжволі пойдзеш у кааператыўныя. Некаторыя кааператыўныя кафэ выбралі хітрую тактыку: хто не захоча паспрабаваць экзатычнай ежы накшталт ласіных катлет, бабровых каўбасак, шурпы і інш.? Канечне, гэта будзе карыстацца попытам, можа, нават у большасці з цікавасці. Побач з дэфіцытам любая цана будзе існаваць.

Шмат якія дзяржаўныя харчовыя ўстановы ў Мінску, сталоўкі ў Віцебску, у Гомелі зачынены як нерэнтабельныя і перададзены ў асабістыя рукі, часцей усяго ў рукі людзей, якія там жа і працавалі, але працавалі абыякава, не змаглі перабудавацца, а займеўшы «сваю справу», так заўзята ўзяліся, што ўраз зрабілі прадпрыемства прыбытковым. Неўзабаве прыбытковым стала і кафэ «Чабурэчная» ў Гомелі. Пахвальна. Але чаму гэта не адбылося тады, калі цяперашні старшыня кааператыва займаў кіраўнічую пасаду ў трэсце сталовак і рэстаранаў. Ці ў яго мала было ўлады?

Думаю, што работнікам райвыканкомаў у першую чаргу трэба навесці на прадпрыемствах харчавання належны парадак: працаваць на сябе яны могуць, няхай перабудоўваюцца і працуюць на грамадства, выназходзяць магчымасці нерэнтабельныя прадпрыемствы зрабіць прыбытковымі. Ды і стварэнне кааператываў на базе гатовых, ужо некім выробленых, выгадаваных, выкармленых, прыгатаваных прадуктаў, няхай сабе нават купленых на рынку, харчовай праблемы не вырашае. Іншая справа, калі самі члены кааператыва будуць вырошчваць жыўнасць, тых жа авечак, каб пускаць іх на шашлыкі — такую кааператыўную шашлычную можна толькі вітаць, але пакуль пра іх не чутно.

Кааператывы самі па сабе — задума вельмі цікавая і карысная. За яе б зараз ухапіцца мясцовым Саветам. Асабліва сельскім. Не сакрэт жа, што бытавое абслугоўванне насельніцтва ў вёсках усё яшчэ кепскае. Сяк-так яно наладжана ў заможных гаспадарках, і то на цэнтральных сядзібах, а ў сотнях, тысячах аддаленых вёсак пра такое і не чулі, а калі і чулі, то паслугамі бытавікоў не карысталіся. Гавару гэта не галаслоўна, кожны год мы, студэнты, бываем у вёсках на ўборцы ўраджаю студэнты-журналісты — на летняй практыцы ў раённых газетах, дый, наогул, сярод нас многа вясковых. Летась нашы студэнты дапамагалі краснапольскім хлебаробам. У вёсцы, дзе мы жылі, абсалютна ніякіх паслуг, а людзі жывуць у асноўным старыя і ім, больш чым каму, патрэбна дапамога: і соткі пасеяць, і дровы парэзаць, і вокны на зіму ўцяпліць, і памыць бялізну, і паклапаціцца пра тую ж талерку супу для старых людзей. А можа, і самі пенсіянеры захапіць пасільнай работай. Гэта павінна стаць клопатам сельскіх Саветаў.

Мы многа гаворым пра кнігі, што залежваюцца на паліцах.

Дарэчы будзе прыгадаць словы У. І. Леніна: «Кніга павінна быць лятучай». Але ж, на жаль, у кніг няма крылаў, і не паляціць яна ў вёскі, дзе людзі жывуць практычна без кніг, бо нават у вялікіх гаспадарках, дзе ёсць універмагі і гандлёвыя цэнтры, кніжных аддзелаў няма. Хто ж зробіць кнігу лятучай? Хто прывязе яе ў далёкія вёскі? Калі не кнігалюбы, то, адно спадзяванне — кааператывы, можа, нават букіністы. Хто прывязе ў дальнія вёскі запалкі і мыла? Пра гэта таксама трэба паклапаціцца мясцовым Саветам — не чакаць, пакуль аб'явяцца ахвотнікі, а знайсці іх.

...Іду па праспекце. Якія толькі назваў няма: «Сюрпрыз», «Вкусно, быстро», «Кубрык»... Казыча нос пах кавы. А тут... стукаюць малаткі: абсталёўваецца новая кааператыўная ўстанова. Вось і шыльда: «Радасць». Што за радасць? Няўжо зноў кава? Не, кааператыў бытавых паслуг, абслугоўвае вяселлі, сямейныя святы. Добрых дзён табе, «Радасць»!

**Андрэй МАЕЎСКІ,**
**студэнт БДУ імя У. І. Леніна.**



# «ЗАЛАТАЯ ЖЫЛА» ЦІ КАРЫСЦЬ ДЛЯ ЎСІХ?



Колькі можна спрачацца! Амаль год ужо, як дзейнічае Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці, а некаторыя да гэтага часу не могуць зразумець: дабро гэта ці зло? Маўляў, высокія заробкі, адраджэнне псіхалогіі ўласніка, парушэнне прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці...

— А вы пачытайце водгукі кліентаў на работу нашых майстроў,— прапанаваў бухгалтар мінскага кааператыва «Пульс» Мікалай Юльянавіч Жалняркевіч,— многае зразумееце.

Сапраўды, у заяўках, дзе кліент абавязкова павінен зрабіць водгук, адны толькі падзякі. За хутка і якасна выкананую работу. І галоўнае, што зроблена яна ў яго дома, нікуды не трэба было ісці, штосьці несці, стаяць у чарзе. Прыйшлі, адрамантавалі, далі гарантыю. І, дарэчы, не дарага ўзялі — ва ўсякім выпадку, цана па дамоўленасці абодвух бакоў. А нават просты пералік работ, што выконвае кааператыў, заняў бы шмат месца. Як кажуць, рамантуюць усё, што ёсць у кватэры: ад імпартнай стэрэаапаратуры да унітаза.

Заробкі? Жалняркевіч дастаў з шуфляды ведамасць: некаторыя маюць за пяцьдзесят рублёў у месяц, некаторыя — і пяцьсот. У залежнасці ад таго, хто як стараецца, заўсёды — за канкрэтна выкананую работу.

Вельмі і вельмі патрэбен сёння такі кааператыў. Нават можна ўжо і здзіўляцца, як гэта раней без яго абыходзіліся? Скажам, калі імпартны мікракалькулятар не прымалі (і не прымаюць па сённяшні дзень) у майстэрню. Калі днямі даводзілася чакаць славутага сантэхніка «дзядзю Васю», якога ж абавязкова трэба было і «аддзячыць»! Амаль сто чалавек працуе сёння ў кааператыве, і кожны забяспечаны работай на столькі заказаў, колькі ён здолее выканаць. Карацей кажучы, кааператыў становіцца добрым канкурэнтам для сферы бытавога абслугоўвання, іншых арганізацый. Значыць, і тыя павінны больш варушыцца, праяўляць ініцыятыву, каб выконваць свае планы ва ўмовах гаспадарчага разліку.

Ёсць попыт, значыць трэба яго і забяспечыць. У кааператыва ўжо тры філіялы «Пульс-2», які абслугоўвае мікрараёны Серабранка, Паўднёвы Захад, Кунцаўшчына і Захад у Мінску. «Пульс-3» — у раённым цэнтры Вілейка. І «Пульс-4» — секцыя камп'ютэрных гульняў пры танцавальнай зале «Вільнюс». Дарэчы, гэта адзінае месца ў горадзе, дзе можна памерацца сіламі з камп'ютэрам у хуткасці рэакцыі, уменні прадбачыць змяненні абстаноўкі на экранах дысплеяў і правільна адрэагаваць. Зірніце на здымак: так ажыўлена амаль заўсёды ля камп'ютэраў. Не прастойваюць ігральныя аўтаматы, якія спецыяльна зроблены па заказу кааператыва.

— Кожны месяц мы выконваем звыш тысячы заказаў,— расказвае бухгалтар Жалняркевіч.— Аб'ём платных паслуг складае каля 15 тысяч рублёў. Гэта вельмі мала, таму што, па разліках, каб задаволіць патрэбы насельніцтва, мы павінны выконваць паслуг больш чым на паўмільёна рублёў у год. У перспектыве маем намер адкрыць цэх па выпуску і рамонту радыётэхнічных тавараў, фірменны магазін па іх продажу. Справа за «дробяззю» — патрэбны памяшканні.

Усё, чым валодае сёння кааператыў,— на адным са здымкаў. Каб зрабіць яго, давялося фатаграфаваць звышшырокавугольным аб'ектывам, бо плошча памяшкання кааператыва (на сто чалавек!)... шэсць квадратных метраў! Тут і дыспетчарская, і бухгалтэрыя, і склад запчастак, і кабінет старшыні кааператыва, дзе захоўваецца дакументацыя... Амаль год ужо як дзейнічае «Пульс», але ўсе намаганні за гэты час «выбіць» лепшае памяшканне пакуль што не далі вынікаў. Дзейнічае кааператыў ад завода імя Вавілава, але адміністрацыя прадпрыемства, на жаль, пакуль што мала ў чым садзейнічае майстрам. А даход, дарэчы, ідзе ў залік заводу як план па паслугах насельніцтву. У райвыканкоме таксама толькі абяцаюць. Каб здзейсніць намеры і задаволіць патрэбы насельніцтва, кааператыву неабходна сёння памяшканне ў 150—300 квадратных метраў. Калі гэтая «блакітная мара» стане рэальнасцю, залежыць ад рэальнай дапамогі і прадпрыемства, і выканкома.

Большасць членаў кааператыва — пераўнаўча маладыя яшчэ, энергічныя людзі. У многіх вышэйшая адукацыя. Яны выдатныя спецыялісты, гатовы з ахвотай у вольны час ад асноўнай работы прымяніць свае веды і майстэрства на карысць другім. Многае могуць, вось толькі бюракратычныя перашкоды — ці па сілах?

І яшчэ адно кааператарам пакуль што вельмі шкодзіць. Гэта — адсталыя «ўяўленні» некаторых. Дарэчы, нечакана ўзнікла праблема, калі спатрэбілася сфатаграфаваць кагонебудзь з майстроў за работай. Адмаўляліся ўсе. Прычына адна: могуць быць непрыемнасці на асноўнай рабоце. Знойдуцца зайздроснікі, якія абавязкова «ўпікнуць» пры выпадку. Што тут сказаць? Новае, як вядома, заўсёды прабівае сабе дарогу ў барацьбе са старымі ўяўленнямі. Перабудова — гэта барацьба, і ідзе яна ў тым ліку і ва ўяўленнях людзей.

Здымак аднаго з майстроў за работай я ўсё-такі зрабіў. Праўда, і інжынер з Белгалоўэнерга Уладзімір Пятровіч Мінчанкааднекваўся спачатку. Але зразумеў, што ў карэспандэнта свая работа. Здымак зроблен у кватэры М. Э. Семірэнкі, адкуль паступіў чарговы выклік. Што ж, будзем лічыць, што гэта першая паслуга кааператыва «Пульс», і з удзячнасцю прынята. А для тых, хто жадае запрасіць майстроў да сябе ў дом адрамантаваць усё, што сапсавалася, нагадваем тэлефоны: 66-57-97, 51-83-32 (філіял).

Званіце, вам рады будуць дапамагчы!

**Дзмітрый ЛУПАЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**
**Фота аўтара.**

# Куды ўпадзе страла?

Мікась ТЫЧЫНА

## ПОГЛЯД НА ГІСТАРЫЧНУЮ ПРОЗУ

**ЯК ХУТКА РАСЦЕ** за намі прастора мінулага! Усё тое, што зусім нядаўна было жывой, трапяткой надзённасцю, і радаснае, і сумнае, на нашых вачах становіцца неад'емнай прыналежнасцю Гісторыі. Імклівая хада падзей здольна збянтэжыць слабых душой, аслабіць у іх волю да жыцця, але людзей моцнага гарту яна, наадварот, напаўняе адвагай і жаданнем выйсці на раздолле Вялікага Часу.

Аднак чалавечая памяць кароткая. «Мае продкі радаводнай далей дзеда не вялі»,— канстатуе гэты сумны факт лірычны герой паэмы Аляксандра Твардоўскага «За даллю даль». Што датычыцца продкаў, то кругагляд патрыярхальнага селяніна сапраўды звычайна не выходзіў за межы штодзённага клопату пра гаспадарку. Народны каляндар зафіксаваў гэту з'яву вельмі дакладна і ўсебакова. А вось нашчадкі, якія ўжо ўвайшлі сваёй шматмільённай масай у свята гістарычнага дня, схільны лічыць дзіваком чалавека, які, паводле слоў Барыса Пастарнака, аднойчы высунуўся з акна сваёй хаціны і спытаў у прахожых: «Якое тысячагоддзе на дварэ?»

Нашчадкі ўжо ведаюць, што, акрамя індывідуальнай, вельмі ненадзейнай памяці, ёсць яшчэ памяць гістарычная і што змесціва нашай душы не абмяжоўваецца рамкамі асабістай біяграфіі, а ўбірае ў сябе вопыт нашых бацькоў і дзядоў. Акрамя анкетнага ўзросту, ёсць яшчэ гістарычны ўзрост нацыі, да якой мы належым. «З дзядоў да ўнукаў, з бацькоў на дзяцей ланцугом пляцецца, што было даўней»,— так у свой час выявіў гэта адчуванне Янка Купала.

Дык колькі ўсё ж нам гадоў? Які час паказвае сёння гадзіннік гісторыі? Аркадзь Куляшоў на гэта пытанне адказваў наступным чынам: «Жыву, і пачуццё ў мяне такое, што мне не пяць дзесяткаў год, а пяць стагоддзяў самае малое». Для эпохі «застою» гэта было актам мужным, бо словы пра тое, што ў нас ёсць свая вялікая гісторыя, тады насцярожана ўспрымаліся раўніўцамі чысціні анкеты цэлай нацыі. Аб тым, што гэта іменна так, сведчыць цяжкі лёс гістарычных твораў нашага беларускага Генрыха Сянкевіча — Уладзіміра Караткевіча, які першым усвядоміў, што гістарычная няпамяць ператварае чалавека ў спажыўца, у істоту без роду і племя. «У падзеях мінулага,— горача пераконваў ён і сваіх апанентаў, і тых, хто сумняваўся,— нашы карані. А дрэва без карэння не можа ні існаваць, ні тым больш прыносіць плады». Яго вельмі засмучаў і вельмі непакоіў той факт, што «пра гісторыю ў нас амаль ніхто не піша», што «дзеці дрэнна ведаюць гісторыю». Толькі-толькі ўваходзячы ў літаратуру, ён марыў, каб «людзі раптам адкрылі мора паэзіі ў беларускай гісторыі». Гістарычны ўзрост беларусаў Караткевіч таксама, як і Куляшоў, ацэньваў лічбай «пяць стагоддзяў самае малое»: «Гэта не сівая старажытнасць, калі нацыя яшчэ не склалася, і не Грунвальд, калі славянства перамагло».

Ну, а колькі стагоддзяў — «самае вялікае»? Можа лічыць годам нараджэння 862 год, які згадваюць летапісы? Год нараджэння горада Полацка, Полацкай Русі. Такім чынам гісторыя беларускай нацыі, якая ўзнікла ва ўлонні агульнарускай дзяржаўнасці, бярэ свае вытокі ў той самай сівой старажытнасці, калі пра нацыянальны характар яшчэ не даводзіцца гаварыць. Аднак чым далей сягае наш погляд, тым больш мы бачым і вакол сябе, тым вастрэй наш зрок. Адступленне ў глыбокі тыл мінуўшчыны знаходзіцца ў прамой прапарцыянальнай сувязі з наступленнем, якое мы вядзём сёння на з'явы «застою» ў нашым жыцці і ў нашым мысленні. Чым мацней нацягнута цеціва, тым далей ляціць страла. Стрэлы, пушчаныя нашымі далёкімі продкамі, далятаюць і да нас. Кім яны пушчаны, з якой мэтай, чым гэта нам пагражае, на каго і на што нам спадзявацца? У кожным выпадку гэта наша з вамі гісторыя, і ўсё, што адбылося некалі на нашай зямлі, належыць нам. У. Караткевіч гэта добра разумеў і не адмаўляўся, дзеля таго, каб выглядаць у вачах іншых лепш, ад мінулага, якім бы яно ні было: «Адбылося гэта ўсё са мною... Ведаю, што я званіў у шчыт, я граміў татар пад Крутагор'ем, я крышыў крыжацкія мячы». Нашы продкі блаславілялі або праклінялі да сёмага калена многае з таго, што і мы сёння блаславіляем або праклінаем. Ад колішніх іх учынкаў да сённяшняга дня ідуць кругі маральнага ўздзеяння, і мы толькі ўзмацняем або паслабляем сілу гэтага ўздзеяння.

Спытаюць, навошта заходзіць так далёка, калі мы і больш блізкую па часе гісторыю сваёй Айчыны дрэнна ведаем, калі смыляць болем раны, атрыманыя ў гады сталінскага дэспатызму і беззаконня, калі не сціхае крывавая памяць аб шматлікіх ахвярах вайны з фашызмам. Але калі ўжо мы хочам ведаць пра саміх сябе ўсё, што толькі магчыма сёння ведаць, то мы проста абавязаны ісці ў глыб стагоддзяў. Забыць, што было, а тым больш выхопліваць з былога толькі тое, што адпавядае палітычнай кан'юнктуры,— гэта значыць спрасціць ход гістарычнага развіцця, які менш за ўсё падобны на прамую лінію «ўсё вышэй і вышэй».

Скажам, сёння, напярэдадні 1000-годдзя хрышчэння Русі, немагчыма рабіць выгляд, быццам гэта даўняя падзея ніяк не ўплывала на нашу гісторыю, на наш нацыянальны характар, на нашу мараль. Гэта быў драматычны перыяд ломкі старажытных поглядаў на свет, калі цэлы народ зрабіў спробу вырвацца з палону дагістарычнага існавання і пры дапамозе праваслаўя далучыцца да так званых гістарычных народаў Еўропы. Увядзенне хрысціянства ў Кіеўскай Русі было падзеяй не столькі рэлігійнай, колькі сацыяльна-палітычнай, ідэалагічныя вынікі якой вучоныя нездарма параўноўваюць з вынікамі смелай дзяржаўнай рэформы Пятра І. Як бы там ні было, але хрысціянства прынесла новую сістэму духоўных каштоўнасцей і маральных арыентацый, якая, хоць і ў вядомых межах, пашырала вектар індывідуальнай свабоды чалавека.

У наш час, калі ажываюць настроі богашукальніцтва і богабудаўніцтва, калі ў гісторыі царквы шукаюць узоры для пераймання, зварот да тысячагадовай даўніны не здаецца дзівацтвам. Праблемай якраз з'яўляецца здольнасць у поўнай меры ацаніць складанасць і супярэчлівасць гэтай падзеі. На жаль, ні ў беларускай, ні ў рускай гістарычнай літаратуры мы не знаходзім вартых увагі твораў пра дзейнасць Уладзіміра, якога народ назваў Чырвоным Сонейкам, і Яраслава Мудрага. Варта адзначыць, што асобныя спробы падысці да мастацкага асэнсавання той эпохі былі ў аповесці В. Іпатавай «Прадыслава» і ў паэме Т. Бондар «Доля», дзе паказваецца жыццё і дзейнасць Ефрасінні Полацкай, асветніцы і адной з самых адукаваных жанчын тагачаснай Еўропы. Прынамсі, у гэтых творах адкідваецца як непатрэбшчына погляд ілжэгісторыкаў, якія бачылі ў яе дзейнасці толькі «ценявыя бакі».

Гісторыя сёння — гэта арэна бітвы з сіламі сацыяльнага застою і рэгрэсу. Страсці распальваюцца вакол кожнай гістарычнай падзеі, вакол кожнай рэальнай гістарычнай асобы. Не мінулае само па сабе цікавіць і захапляе нас. У ім і за ім нам бачыцца нешта большае, тое, што яднае нас, ператварае ў народ.

Ці заўсёды можна адшукаць у літаратуры адказы на многія пытанні? Ці ёсць у нас творы, якія маглі б служыць своеасаблівай візітнай карткай беларусаў? Дарэчы, над гэтым задумваўся яшчэ Уладзімір Караткевіч, і яго развагі дасюль успрымаюцца як звышзадача: «Ну вось, скажам, французы маюць свой літаратурны тып, які з найбольшай паўнатой змалёўвае ўсю нацыю, немцы і іспанцы — таксама. Можна сказаць «Зямля Уленшпігеля», можна сказаць «Зямля Гаяваты» або «Зямля апранутага ў шкуру віцязя»... Калі прачытаеш такое — асноўнае ў пазнаванні нацыі ты зрабіў: зразумееш душу народа, які робіць гісторыю гэтай краіны і якую ён паложыць як цагліну ў будучае безнацыянальнае грамадства, у яго будынак... А вось у нас гэтага няма. Назавіце мне тып, які ўсебакова адбіваў бы рысы лепшага нашага чалавека, яго талент, яго характар, яго барацьбу, які, так бы мовіць, нават часткова адбіваў бы гісторыю народа».

Сам Караткевіч упарта шукаў такі тыпаж у беларускай гісторыі. У яго юнацкіх пісьмах называецца імя героя народнага эпасу Люцыяна Таполі, а першы апублікаваны верш быў прысвечаны легендарнаму Машэку. Творчы пошук пісьменніка пашыраўся з часам, і яго ўвагу прыцягвалі постаці Гаркушы, Міхала Крычаўскага, Паўлюка Багрыма, Кастуся Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага, Максіма Багдановіча, у якіх ён знаходзіў выявы нацыянальнага характару. «Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе, хто забыў сваю мову — усё згубіў». Як ніхто іншы, Караткевіч жыва адгукаўся на надзённыя патрэбы духоўнага жыцця беларусаў, балюча рэагаваў на негатыўныя з'явы ў сферы культурнага будаўніцтва, на звужэнне арэала ўжывання роднай мовы. Ён паклаў усе сілы на тое, каб не даць згаснуць агню беларускай гісторыі, і сам згарэў у гэтым непасільным для аднаго змаганні. Уздзеянне яго твораў на нацыянальную самасвядомасць можна параўноўваць хіба толькі з тым укладам у аздараўленне грамадскай атмасферы, які мы законна бачым у творчасці Васіля Быкава. Вось чаму творы Караткевіча на гістарычную тэму выклікалі такое супраціўленне сярод тых, хто тады меў магчымасць уплываць на літаратурны працэс: скажам, яго першы раман «Нельга забыць» апублікаваны цалкам толькі праз дваццаць гадоў пасля напісання.

«Жывыя звенні, якіх вякі не перарвалі на гістарычным перавале», калі выкарыстаць тут выраз Якуба Коласа, імкнуцца аднавіць М. Арочка ў паэме «Крэва», Р. Баравікова ў вершаваным цыкле «Саламея», Л. Дайнека ў рамане «Меч князя Вячкі», В. Зуёнак у паэме «Лукам'е», В. Коўтун у рамане «Суд Алаізы», І. Ласкоў у паэме «Кульга», Я. Сіпакоў у «Вечы славянскіх балад». Галерэя партрэтаў гістарычных дзеячаў створана ў раманах, аповесцях, апавяданнях, п'есах Л. Арабей, У. Арлова, А. Асіпенкі, А. Асташонка, С. Букчына, С. Зайцава, Г. Кісялёва, А. Мальдзіса, К. Тарасава, Б. Сачанкі, Э. Скобелева, В. Хомчанкі, Э. Ялугіна, У. Ягоўдзіка. Цэлая арцель паэтаў і празаікаў, вучоных і драматургаў працуе на дзялянцы, ускарчаванай і дагледжанай руплівым папярэднікам, стараючыся агульнымі намаганнямі запоўніць прагал, які ўтварыўся ў гістарычнай прозе пасля Уладзіміра Караткевіча. Ён не паспеў завяршыць узвядзенне «храма нашага агульнага і светлага», але храмы ў старажытныя часы будавалі, здаралася, некалькі пакаленняў. Тым

больш што застаўся агульны план развіцця гістарычнага жанру, які паспеў накідаць Караткевіч. Прынамсі, пасля зробленага ім нікому ўжо не трэба баяцца папрокаў у тым, што аддае перавагу камінку перад спадарожнікам, што адцягвае ўвагу чытача ад надзённых праблем. Баяцца трэба іншага: уяўнай лёгкасці пісання твораў на гістарычную тэму, якая падсцерагае кожнага, хто стаў на пракладзеную вялікім папярэднікам сцяжыну. Што таіцца, такая небяспека існуе.

«Збіраць пачнём зярно к зярняці, Былое ў думках ускрашаць...» — такую задачу ставіў перад беларускімі пісьменнікамі Янка Купала, які адзін з першых у нашай літаратуры зразумеў, што, каб выказаць «цяперішчыну», трэба ўзнавіць у мастацкіх вобразах «мінуўшчыну». Працэс гэтага збірання так хутка пашыраўся, што ўжо ў пачатку 30-х гадоў амаль адначасова ў Максіма Гарэцкага і Кузьмы Чорнага ўзнікла задума напісаць мастацкую гісторыю беларускага народа. На жаль, гэты працэс быў гвалтоўна перапынены: кожная спроба адысці ў мінулае ў 30-я гады ацэньвалася як даніна буржуазнаму нацыяналізму. Задуманае Гарэцкім і Чорным дэфармавалася так, што ў творах іх эпігонаў звялося да простай ілюстрацыі «Кароткага курса гісторыі УКП (б)». Калі ж паказвалася больш далёкая гісторыя, то яна або павярхоўна фальклярызавалася, як у «Несцерцы» В. Вольскага, або спрашчалася да вульгарнай схемы, як у «Георгію Скарыне» і «Кастусю Каліноўскім» М. Клімковіча. Па сутнасці, Караткевічу давялося пачынаць усё занава і здабываць гістарычную ісціну сапраўды «зярно к зярняці». У гэтым ён мог абапірацца толькі на нешматлікія спробы Купалы, Багдановіча, Бядулі ў гістарычныя жанры ды на росшукі і адкрыцці аднадумцаў-вучоных, з якімі ішоў або паралельна, або часта апераджаючы іх у сваіх прагніклівых здагадках.

Няма сумнення ў гістарычнай эрудыцыі і кампетэнтнасці тых, хто сёння працуе ў гістарычным жанры. Тым не менш зробленае імі і Караткевічам часта не вытрымлівае параўнання. І справа не толькі ў тым, што талент пісьменніка і гісторыка рэдка спалучаюцца ў адной асобе. Справа хутчэй за ўсё ў поглядзе на мінулае. Грамадская сітуацыя, калі ўзнікае патрэба ў гістарычных узорах гераічных паводзін, часцей за ўсё выключэнне, чым заканамернасць. Так было ў гады вайны з фашызмам, калі ў адну шарэнгу з савецкімі людзьмі сталі і героі нацыянальнай гісторыі, у вобразах якіх увасаблялася ўсё лепшае ў беларускім характары. Заканамернасцю з'яўляецца патрэба ў мастацкай праўдзе пра мінулае свайго народа, у паказе шматколернасці і шматзначнасці гістарычных падзей. Нішто не наносіць такую шкоду маральнай атмасферы грамадства, як паўпраўда, творчыя пралікі, замоўчванне тых ці іншых з'яў нацыянальнага бытавання ў часе. Слабасць канкрэтна-гістарычнага аналізу і проста адсутнасць таленту можа прывесці да такіх вульгарных характарыстык беларусаў, якія сустракаюцца не толькі ў творах 40-х гадоў, але і ў некаторых сучасных раманах і аповесцях.

Адзіна правільны і творча плённы канкрэтны паказ таго, як паводзяць сябе героі ў пэўных гістарычных умовах. «Універсальныя» беззмястоўныя абагульненні, накшталт тых, што бытуюць у штодзённым ужытку, а часам трапляюць і на старонкі літаратурных твораў, «усе беларусы — сціплыя, працавітыя, лагодныя», «беларускі мужык, як лаза, гнецца, але не ламаецца», не толькі недакладныя, але і несумленныя. І тут зноў мае рацыю Караткевіч: «...Што гэта за чалавек беларус? Што гэта за народ?.. Як і паўсюль, ёсць сярод беларусаў мяшчане і падзвіжнікі, лайдакі і працаўнікі, «малюскі» і героі... дурні і мудрацы... Так што не трэба абагульненняў».

Уладзімір Караткевіч не ўмеў любіць сваю радзіму з заплюшчанымі вачамі, са схіленай галавой, з завязанымі вуснамі, калі казаць пра гэта словамі вялікага рускага патрыёта П. Чаадаева. Ён ведаў пэўна, таму што быў не толькі рамантыкам, але і цвярозым рэалістам: «залатога веку» не было, «духоўная Элада» не ў мінулым, а ў будучым. Самааддана закаханы ў гераічнае мінулае беларусаў, у незвычайных людзей, якіх пісьменнік знаходзіў сярод тых, каго называюць «соллю зямлі», «дзівакамі», «блазнамі» і без каго жыццё страціла б сваю прывабнасць і водар, ён тым не менш не таіў сваёй прыхільнасці да экзатычнага, выключнага і нават фантастычнага: так хацелася яму бачыць сярод сучаснікаў тытанаў духу, якія б парушылі цішу балотнага застою!

Справа не ў экзотыцы і не ў бурнай фантазіі Караткевіча, а ў мастакоўскай здольнасці чула размяжоўваць жывую і мёртвую ваду ў плыні гісторыі. «Я,— горача сцвярджаў ён,— далёкі да думкі аддаваць перавагу каўтуну над чыста вымытай галавой і кувадзе над радзільным домам. Экзотыка без хлеба, заводаў і электрычнасці няхай жыве ў музеях, і тым людзям, якія яе абараняюць, трэба быць паслядоўнымі і, напрыклад, хадзіць на лекцыі ва універсітэт у пастолах, з намаленай галавою і дошчачкай для вошай на поясе, як гэта калісь было модна ў мазураў, насіць замест партфеля лубок і мецъ у ім скрутак пергаменту, гусінае пяро і дзесятак пражаных у попеле яек».

Што таіцца, існуе сёння мода на вонкавыя прыкметы нацыянальнай прыналежнасці, прычым амаль у апісаным Караткевічам варыянце. Калі гэта датычыцца, скажам, толькі інтэр'ера, то такое аматарства можа ўспрымацца як мілае дзівацтва дарослых людзей. Іншая справа — літаратура з маштабамі яе ўплыву на грамадскую свядомасць. Тут ужо трэба пэўна арыентавацца не на моду, а на народную мудрасць, на «сапраўды завяванае народам, ім выпакутаванае», на тое, што трэба «аберагаць, песціць, любіць». Інакш чаго варта літаратура? Думаючы пра свой народ, якім ён быў, ёсць і будзе, Караткевіч дбаў пра яго духоўнае і маральнае здароўе. Вось чаму ён быў самым суровым рэалістам, калі бачыў з'явы, якія маглі дэфармаваць маральную атмасферу грамадства. Цвярозы погляд на мінулае дазволіў яму «даць добрага стусана рэлігіі, прыгнёту, фанатызму і мілітарызму, пустацвету і забабонам, ханжаству,— усім аматарам крычаць пра залаты век, гальванізаваць труп мінулага, прырабляць новыя ручкі да скіній, шукаць каўчэгі з новымі мошчамі».

Сучасныя гістарычныя пісьменнікі бачаць свой маральны абавязак у тым, каб данесці ў нескажоным выглядзе ўсё самае каштоўнае, што дасталося нам у спадчыну ад ранейшых пакаленняў. Большасць з іх — гэта ўлюбёныя ў сваю справу таленавітыя рэстаўратары карцін мінулага. Адны з іх, як, напрыклад, Ф. Янкоўскі, шукаюць сляды гісторыі ў глыбінях роднай мовы, у самых старажытных яе пластах і адкрываюць такія скарбы, якія не захавалі і пісаныя крыніцы. Другія, як, напрыклад, У. Ягоўдзік, углядаюцца пільна ў твары людзей старшага пакалення, шукаючы ў іх лёсе адлюстраванне перажытага, бо сувязь часоў — гэта сувязь бацькоў і дзяцей, продкаў і нашчадкаў. Трэція, як, напрыклад, А. Асіпенка ў рамане «Святыя грэшнікі», робяць героямі сваіх твораў такіх энтузіястаў і аматараў старадаўнасці, як мясцовы краязнаўца і гісторык Рафаіл Доля, які ў сваім дзённіку выказвае надзвычай арыгінальныя думкі наконт сувязі сучаснасці з мінулым: «Ёсць нешта большае і важнейшае за звычайны набытак. Чалавек набывае, чалавек — спажывае. Грубая сіла і тая памірае разам з чалавекам. Але ж ёсць каштоўнасці, якія перажываюць чалавека,— песні, малюнкі, прыгожа аздобленыя рэчы. Яны ўвасабляюць вечнасць. Яны ўзвышаюць чалавека над прозай жыцця, як птушку над зямлёй».

Тыя ж з пісьменнікаў, хто звяртаецца непасрэдна да паказу гісторыі, засяроджваюцца на пераломных момантах нацыянальнай мінуўшчыны. Ажно ў IV-е стагоддзе, калі адбывалася вялікае перасяленне народаў, ці як пра гэты перыяд сказана ў «Слове аб палку Ігаравым», «время Бусово», сягае дапытлівы позірк С. Зайцава, аўтара раманабыліны «Перамагаючы — азірнися». Пра старажытных русаў, племя, якое так шмат значыла ў лёсе іншых усходнеславянскіх плямён, пра трагічныя падзеі рэлігійнай вайны, у выніку якой быў знішчаны цэлы пласт народнай культуры, распавядае ў рамане-думе «Міраслаў, князь Драгавіцкі» Э. Скобелеў. Пра славянства, якое перамагло ў бітве пад Грунвальдам, і пра чынны ўдзел беларусаў у гэтай драматычнай сутычцы з крыжакамі жывапісуе К. Тарасаў, аўтар аповесці «Пагоня на Грунвальд». Рэальныя гістарычныя асобы дзейнічаюць і ў рамане-дыялогу А. Мальдзіса «Вясна сярод восені», у аповесці В. Хомчанкі «Пры апазнанні затрымаць», у апавяданнях У. Арлова, А. Асташонка, В. Іпатавай, Л. Арабей. Гістарычны раман «Ваўкалак» напісаў рабочы В. Чаропка — урывак з гэтага твора друкаваўся ў «Чырвонай змене».

Сёння можна гаварыць нават пра своеасаблівы «гістарычны бум» сярод чытачоў. Такі феномен поспеху твораў Караткевіча і такія яго вынікі, якія выявіліся ў росце цікавасці да мінулага, у імкненні дабрацца самім да «разгадкі нашых крыўд і бед, што леглі цёмнымі лясамі на нашай долі з даўных лет», як пра гэта пісаў Янка Купала. Тут на поўны рост устае праблема ўзаемадзеяння гістарычных дакументаў і творчай фантазіі. Вядома, можна разважаць і скардзіцца, што інфармацыя пра многія перыяды гісторыі беларусаў надзвычай бедная, а часта і проста адсутнічае. Сапраўды час мала спрыяў таму, каб захаваць гістарычную памяць народа, які знаходзіўся на скрыжаванні вялікіх шляхоў. Але там, дзе канчаецца дакумент, паводле выказвання Ю. Тынянава, павінен пачынацца пісьменнік, творчы вымысел якога дазваляе яму вырвацца за межы сучаснасці і выйсці да шырокіх абагульненняў. Ёсць нейкі баланс паміж гістарычнымі звесткамі і мастацкай мадэллю мінулага, якую прапануе пісьменнік. Талент, інтуітыўнае адчуванне ісціны, якое апярэджвае часта вывады вучоных гісторыкаў, а нярэдка і абвяргае іх, і дапамагаюць знайсці гэты баланс.

Іменна мастацкая інтуіцыя прывяла амаль адначасова двух розных аўтараў, У. Арлова і Л. Дайнеку, да вывучэння аднаго і таго ж перыяду ў гісторыі Полацкай Русі, калі яна стала на шляху заваёўнікаў-крыжакоў. У цэнтры рамана Дайнекі «Меч князя Вячкі» і аповесці Арлова «Дзень, калі ўпала страла» знаходзіцца вялікае супрацьстаянне адрозных сацыяльных, рэлігійных і нацыянальных стыхій, якое самым непасрэдным чынам адбіваецца на лёсе многіх герояў, «знатнага роду» і прасталюдзінаў. Здаецца, увесь жах існавання на памежжы Захаду і Усходу выявіўся ў лёсе хлопчыка Мірошкі, «сына Рацібора з Гарэлай Весі», пра якога расказвае Дайнека і які вымушае нас успомніць многіх «дзяцей апошняй вайны»: так шмат у іх агульнага. Гэты прыклад яшчэ раз пераконвае, якім плённым з'яўляецца рэалістычны паказ рэчаіснасці і якая вялікая ў яго перавага над спосабам рамантызацыі і ідэалізацыі, да чаго часам прыбягае аўтар, асабліва калі малюе знаёмыя ўжо літаратурныя тыпы мудрага князя, адданага ваяводы, волата-дружынніка, хцівага ворага.

Момант рамантызацыі, які, з аднаго боку, узбуйняе вобразы гістарычных дзеячаў, а, з другога — пазбаўляе іх псіхалагічнай пераканаўчасці, прысутнічае і ў названай аповесці У. Арлова. Тут мы сустракаем мудрага князя Уладзіміра, што мог лёгка разгадаць стратэгію крыжакоў і не заўважыў звычайнай змовы, а таксама адданага ваяводу Віславуса, пяшчотную красуню Звеніславу, лоўкага князева наследніка Барыску, таго самага, пра якога напісана на знакамітым Барысавым камені.

Змяншаць ролю асобы ў гісторыі, мабыць, не варта: усё мінулае нашай Айчыны, асабліва паслякастрычніцкае, сведчыць, што «рокавое» злучэнне абставін мае не меншае значэнне, чым аб'ектыўнае развіццё падзей.

Увагай да рэальных гістарычных дзеячаў, дакладнасцю псіхалагічнага аналізу іх учынкаў, строгім рэалізмам у паказе мінулага У. Арлоў прыкметна вылучаецца з асяроддзя шматлікага атрада тых, хто сёння працуе ў гістарычным жанры. Тое, пра што глыбока разважаюць у «минуты роковые» Аляксандр Незабытоўскі (апавяданне «Пакуль не згасла свечка»), Казімір Лышчынскі («Візіт папскага нунцыя»), героі апавяданняў «Пяць мужчын у леснічоўцы», «Першы дзень вясны», пра лёс радзімы і народа, пра ўласны ўклад у барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, блізка душы сучаснага чытача. Высокі лад душы герояў, сканцэнтраванасць іх думак на галоўным, на тым, што надае сэнс жыццю, вялікая духоўная энергія, улацівая гэтым незвычайным людзям, нязменна выклікаюць чулы водгук у сучасніка, абуджаюць у ім пачуццё ўласнай годнасці. Вось тут і змыкаюцца задачы, якія ставіць перад намі жыццё, і задумы, якія ўзнікаюць у творчай свядомасці пісьменніка. Так пачынаецца выхаванне гісторыяй. Так стрэлы, пушчаныя нашымі далёкімі продкамі, трапляюць нам у сэрца, абуджаюць працу душы і пачуццё адказнасці перад судом гісторыі.




# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ «ГІСТОРЫІ...»

**ПЕРАДА МНОЙ** — трохтомная «Гісторыя беларускага тэатра», выдадзеная супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР пад кіраўніцтвам доктара мастацтвазнаўства Уладзіміра Іванавіча Няфёда. З хваляваннем гартаю старонкі кніг, і сэрца поўніцца ўдзячнасцю да беларускіх вучоных-тэатразнаўцаў за іх шматгадовую, нялёгкую і такую карысную працу.

Чытаю першы том «Гісторыі...», які ахоплівае дарэвалюцыйны перыяд развіцця нашага тэатра і драматургіі, і даведваюся шмат новага, раней невядомага. Якія россыпы народнага таленту, самабытнасці хавае ў сабе традыцыйная культура нашых продкаў. Тэатралізаваныя гульні, карагоды, абрады, непаўторнае мастацтва скамарохаў, народная драма і батлейка — гэта ўсё вытокі сучаснага драматычнага тэатра, яго карэнне, сапраўдная крыніца натхнення. Не выпадкова, напэўна, і мой родны тэатр імя Я. Коласа пачаў свой творчы шлях у 1926 годзе народнай драмай «Цар Максімілян». А як шырока выкарыстоўваў багацце беларускага фальклору цудоўны рэжысёр Е. Міровіч у сваіх спектаклях «На Купалле» М. Чарота, «Вяселле» В. Гарбацэвіча, «Кастусь Каліноўскі» і «Машэка». Фальклорная народная творчасць пастаянна жывіла і іншых выдатных дзеячаў беларускай сцэны — В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Буйніцкага, Ф. Ждановіча, У. Галубка.

Калі пільна ўгледзецца ў гісторыю беларускага тэатра, то нельга не заўважыць заўсёдны ўплыў народных традыцый на сцэнічнае мастацтва Беларусі, які доўжыцца і сёння. Ці ж не гэтая ўзаемасувязь абумовіла поспех такіх спектакляў, як «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Салавей» З. Бядулі, «Паўлінка» Я. Купалы, «Людзі на балоце» паводле І. Мележа на купалаўскай сцэне, «Вайна — вайне», «У пушчах Палесся», «Сымон-музыка» Я. Коласа, «Несцерка» В. Вольскага ў нашым тэатры.

Уражваюць раздзелы пра школьны, прыгонны і прыватны гарадскі тэатр на тэрыторыі Беларусі, пра дзейнасць В. Дуніна-Марцінкевіча, трупы І. Буйніцкага, Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Кожная з'ява — гэта цэлая эпоха ў гісторыі нацыянальнага тэатральнага мастацтва, і асветлена яна ў кнізе поўна і пераканаўча. Гэта ўяўляецца мне вельмі важным, калі прыгадаць (няма чаго граху таіць!), як мала сучасная моладзь ведае сёння пра духоўную культурную спадчыну свайго народа.

З сумам прачытала неяк на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», як дзяўчына-студэнтка сказала, што першая беларуская кніга выйшла ў друку пасля 1917 года. Такое дрэннае веданне роднай гісторыі, а часам і абыякавае стаўленне да яе — недаравальнае. Знаёмства з выданнем беларускіх вучоных яшчэ раз прымусіла мяне задумацца над гэтым пытаннем. Мяркую, што з'яўленне такога даследавання мае вялікую карысць не толькі для эстэтычна-культурнага, але і грамадскага выхавання нашых людзей, асабліва моладзі. У гэтым важная заслуга аўтараў М. Каладзінскага, А. Мальдзіса, І. Ягоравай, Я. Усікава, Г. Барышава, Ю. Пашкіна, А. Сабалеўскага, У. Няфёда, С. Пятровіча.

У наступных тамах «Гісторыі...» (трэці складаецца з дзвюх кніг) разгледжаны шляхі развіцця тэатраў Беларусі, пачынаючы з 1917-га па сярэдзіну 1984 года. Гэтыя матэрыялы мне ўжо больш знаёмыя, шмат што вядома з асабістай практыкі. Я прыйшла ў тэатр імя Я. Коласа (тады ён называўся Другі беларускі дзяржаўны тэатр) зусім юнай дзяўчынай і з 1934 года бесперапынна працую на яго сцэне. Мне пашчасціла вучыцца і працаваць побач з такімі выдатнымі акцёрамі і рэжысёрамі, як У. Сяргейчык, М. Міцкевіч, П. Малчанаў, А. Ільінскі, Я. Глебаўская, А. Радзялоўская, М. Звездачотаў і многімі іншымі буйнымі майстрамі-коласаўцамі. Акрамя таго я і мае калегі заўсёды цікавіліся тым, што адбываецца ў другіх творчых калектывах, асабліва ў тэатры імя Я. Купалы. Мы пільна сачылі за дасягненнямі першага тэатра рэспублікі, за дзейнасцю яго карыфеяў, што склалі славу і гонар нацыянальнай сцэны,— Г. Грыгоніса, У. Уладамірскага, Б. Платонава, Г. Глебава, Л. Ржэцкай, В. Галіны, В. Пола і інш. Менавіта коласаўскі тэатр «падараваў» купалаўцам такія адметныя творчыя індывідуальнасці, як К. Саннікаў, П. Малчанаў, Р. Кашэльнікава, пазней — М. Яроменка, Г. Арлова, М. Федароўскі, Г. Гарбук, А. Мілаванаў, Г. Бальчэўская. Але мы па-ранейшаму лічылі іх "сваімі, коласаўцамі, і заўсёды шчыра цікавіліся іх працай. Таму, як жывы сведка падзей, я, напэўна, маю права засведчыць, што асноўныя этапы развіцця вядучых акадэмічных тэатраў рэспублікі асветлены аўтарамі «Гісторыі...» У. Няфёдам, А. Бутаковым, Э. Герасімовіч, Т. Гаробчанка грунтоўна, навукова дакладна, аб'ектыўна. Пераканаўча раскрыта С. Пятровічам і унікальнасць такой непаўторнай, самабытнай з'явы беларускай тэатральнай культуры, як дзейнасць тэатра У. Галубка. Належнае месца ў «Гісторыі...» нададзена таксама разгляду дзейнасці Тэатра юнага гледача, тэатрам лялек (аўтары Д. Стэльмах, В. Ракіцкі, М. Каладзінскі).

Да таго ж варта адзначыць, што, магчыма з-за адсутнасці ў рэспубліцы выдавецтва «Мастацтва», у нас наогул вельмі рэдка з'яўляюцца асобныя манаграфіі, прысвечаныя дзеячам сцэны. «Гісторыя...» у пэўнай меры кампенсуе гэты прагал, і сённяшні яе чытач можа шырока азнаёміцца з творчасцю не толькі асобных тэатраў, але і рэжысёраў, акцёраў, драматургаў, тэатральных мастакоў.

Вядома ж, кожны творчы калектыў на сваім шляху меў не толькі дасягненні, перамогі, здараліся і няўдачы, былі выдаткі. Я лічу правільным, што аўтары «Гісторыі...» разглядаюць праблемы беларускага тэатра ў агульным кантэксце грамадскіх і культурных праблем ва ўсесаюзным маштабе. Вельмі важна і тое, што яны не імкнуцца стварыць нейкую ідылічную карціну мінулага і сучаснага стану тэатральнага мастацтва ў Беларусі, а раскрываюць яго пастулальны рух наперад ва ўсёй складанасці і супярэчнасці. Добра і тое, што даследчыкі не абмяжоўваюцца толькі дзейнасцю беларускіх тэатраў, а скіроўваюць сваю ўвагу на творчасць Рускага тэатра БССР імя М. Горкага, калгасна-саўгасных і абласных драматычных калектываў, польскага, яўрэйскага тэатраў. Раздзелы, напісаныя Р. Смольскім, К. Кузняцовай, М. Каладзінскім, значна пашыраюць агульную карціну тэатральнага жыцця Беларусі, вызначаюць шматграннасць і разнастайнасць яго сцэнічнай культуры.

Я ўпэўнена, што праца вучоных будзе з вялікай прыхільнасцю сустрэта не толькі студэнтамі спецыяльных ВНУ, але і ўсімі, хто цікавіцца беларускім тэатральным мастацтвам, яго слаўным мінулым і сённяшнім днём.

**Зінаіда КАНАПЕЛЬКА,**
**народная артыстка БССР**

З далёкіх і блізкіх дарог





Беларускіх артыстаў цёпла вітае прэзідэнт Ісландыі Вігдзіс Фінбагадацір (у цэнтры).



# У КРАІНЕ ГЕЙЗЕРАЎ І... ПАЭТАЎ

**ПАМІЖ ІСЛАНДЫЯЙ І БЕЛАРУССЮ** распасціраюцца агромністыя тысячамільныя прасторы. Але не заўсёды геаграфічныя каардынаты вызначаюць узаемную блізкасць ці аддаленасць людзей і народаў.

Гэтая ісціна стала асабліва відавочнай для нас, прадстаўнікоў Беларускай рэспублікі, у лістападзе мінулага года, калі ў Ісландыі ўпершыню ў гісторыі быў праведзены Тыдзень Беларусі. Ісландыя вабіла сваёй непазнанасцю, а Рэйк'явік, сталіца краіны,— яшчэ і незвычайнай папулярнасцю пасля сустрэчы Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з Рональдам Рэйганам. У памятным кастрычніку 1986 года гэты горад стаў сапраўдным сімвалам пацяплення адносін паміж дзвюма вялікімі дзяржавамі. Тут быў зроблены буйны крок да збліжэння розных пунктаў гледжання, розных поглядаў на праблемы міру і раззбраення. Рэйк'явік стаў важным звяном на гістарычным паваротным шляху да новага мыслення, ядзернага раззбраення.

Была яшчэ адна абставіна, якая значна ўзвышала наш сяброўскі візіт — маючае адбыцца 70-годдзе Вялікага Кастрычніка. Нам было наканавана прадстаўляць вялікую Краіну Саветаў, яе дасягненні, добрую волю да міру і дружбы паміж народамі.

Рыхтаваліся да гэтай ганаровай місіі з усёй адказнасцю, сумесна з Саюзам мастакоў і Саюзам кампазітараў, Міністэрствам мясцовай прамысловасці, Беларускім аддзяленнем АДН, Белдзяржуніверсітэтам, Белдзяржкансерваторыяй. Да адкрыцця Дзён Беларусі ў Рэйк'явік былі накіраваны выстаўкі сучаснай беларускай графікі, народных мастацкіх промыслаў, дзіцячага малюнка, фотаілюстрацыі — «Беларусь — гады здзяйсненняў». Загадзя былі перакладзены на ісландскую мову і апублікаваны ў мясцовым перыядычным друку і спецыяльных выданнях публіцыстычныя матэрыялы пра нашу рэспубліку. Каля года спецыяльна рыхтаваўся да паездкі народны ансамбль танца Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

На беларускай і ісландскай мовах гучаць вершы М. Танка.

Выступае народны ансамбль танца «Крыжачок» Белдзяржуніверсітэта.

Не адразу патрапілі мы на гэты далёкі востраў Атлантыкі. Толькі пасля Капенгагена і малаўтульнага з-за густога дробнага дожджыку Глазга авіялайнер ісландскай кампаніі прызямліўся ў Кефлавіку — міжнародным аэрапорце, больш вядомым у свеце як ваенная база НАТО. Канечне, ваенная база не дужа пасуе да гэтай паўночнаеўрапейскай краіны, «характар» якой, на мой погляд, вызначаны дакладна ў радках ісландскага пісьменніка Б'ёртна Торстэйнсана: «Гісто-




У цэнтры Рэйк'явіка.

Басейн на тэрмальных водах у прыгарадзе сталіцы.

рыя ісландскага народа — даволі дзіўная з'ява. У нас няма ніводнага нацыянальнага героя ў ваенных даспехах, але вялікая колькасць герояў з пяром у руцэ, прычым многія з іх — безыменныя геніі».

Цікава, што ўжо на борце самалёта мы пазнаёміліся з ранішняй газетай Рэйк'явіка, дзе паведамлялася, што ў Ісландыі пачынаюцца Дні СССР на прыкладзе Беларусі, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. «Спяшайцеся не спазніцца на выступленні народнага ансамбля «Крыжачок», выканаўцаў на народных інструментах, салістаў-вакалістаў, і вы атрымаеце цудоўныя ўражанні!» — завяршаў свой заклік артыкул.

Хацелася аддаць належнае арганізатару гэтай рэкламы не толькі за яе аператыўнасць, а яшчэ і за тое, што ён як бы прадвызначаў настрой ісландцаў на час іх сустрэч з беларускім мастацтвам.

Адкрыццё Дзён Савецкага Саюза на прыкладзе Беларусі адбылося ў Сяльфосе, буйным, па ісландскіх маштабах, цэнтры сельскагаспадарчай прамысловасці. Ісландцы надзвычай гасцінна сустрэлі прадстаўнікоў Савецкай Беларусі. Мы адразу адчулі іх шчырае жаданне як мага больш даведацца пра нашу краіну, завязаць новыя кантакты, якія не абмяжоўваліся б адным толькі тыднем. Адчувалася, што адносіны да нас шмат у чым вызначаюцца павышанай добразычлівай цікавасцю да СССР, забяспечанай М. С. Гарбачовым у часе знаходжання ў Рэйк'явіку.

## На цырымоніі адкрыцця

Дзён нашу дэлегацыю цёпла вітаў вядомы тэатральны дзеяч Ісландыі, прэзідэнт таварыства «Ісландыя — Савецкі Саюз» Івар Ёнсан. Ён падрабязна расказаў аб дзейнасці таварыства, павіншаваў савецкіх гасцей з 70-годдзем Вялікага Кастрычніка. Ён сам даў высокую ацэнку перабудове, якія адбываюцца ў СССР, падкрэсліў, што слова «перастройка», якое ўвайшло сёння ў многія мовы свету, заваявала папулярнасць і ў яго краіне.

У цэнтры ўвагі на вечары быў Гутмундур Даніэльсан, які з вялікім натхненнем прачытаў у сваім перакладзе верш Максіма Танка. Пасля гэтага, па яго просьбе, а таксама згодна з пажаданнямі іншых прысутных вершы нашага народнага паэта чыталіся на беларускай мове.

Потым быў канцэрт. Выдатна прадставіў беларускую нацыянальную харэаграфію універсітэцкі ансамбль «Крыжачок». Усе былі малайцамі, але асабліва я вылучыў бы супрацоўніцу кафедры палітэканоміі Наталлю Янушкевіч. Яна паказала сябе не толькі як адметная салістка ансамбля, але і як выдатны чытальнік вершаў. Вельмі пранікнёна і — прызнаюся — нечакана для ўсіх нас яна прачытала на вечары «Баладу пра маці» Максіма Танка.

Прыемна было бачыць прыязныя твары ісландскіх сяброў, чуць іх захопленыя водгукі: «Само абаянне!», «Таленавіта!», «Велічна!»... Такую ацэнку давалі яны выступленням цымбалісткі Таццяны Ялецкай, салісткі оперы Ніны Казловай, скрыпачкі Лілії Умновай, якія выступалі пад акампанемент аркестра Ільі Дубіна. Гледачоў скарыла цудоўная гармонія музычнага трыо, створанага перад паездкай у Ісландыю дацэнтам Белдзяржкансерваторыі піяністкай Людмілай Малышавай. Надзвычай вялікі поспех выпаў на долю народнага артыста БССР Ярaслава Еўдакімава. Адзначаўся не толькі цудоўны голас нашага спевака, але і яго прывабнасць, артыстызм, элегантнасць манер. Папулярным, як заўсёды, быў Ігар Лучанок. Ды і мы, члены беларускай дэлегацыі, неяк па-новаму ўспрымалі ўдалечыні ад Радзімы яго песні «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Майскі вальс», «Успамін»...

Ніколі не забудзь, як пасля канцэрта вядомы ісландскі кампазітар Хельгасан адрасаваў гасцям поўную глыбокага сэнсу фразу: «Нацыя, у якой такая высокая культура, не можа быць агрэсіўнай».

Чарговая сустрэча адбылася ў раёне Хеймаланд, большасць жыхароў якога ўвогуле ўпершыню ўбачыла савецкіх людзей. Пераезд нялёгкім горным шляхам да месца гэтай сустрэчы заняў амаль шэсць гадзін трэцяга дня нашага знаходжання ў Ісландыі. Артысты былі вельмі ўражаны «месячным пейзажам» з застылай лавы, да якога толькі дзе-ніздзе уздоўж трасы дадаваліся адзінокія пабудовы ці невялікія комплексы жывёлагадоўчых ферм. Ды яшчэ звярталі на сябе ўвагу «дамы для ўратавання душ» — будынкі выратавальных службаў для людзей, што заблудзіліся ў гарах ці трапілі ў якую іншую складаную сітуацыю. Варта аддаць належнае мудрасці і прадбачлівасці ісландцаў: усе аўтамашыны, шлях якіх ляжыць праз горныя перавалы, радыёфікаваны. Усеагульную цікавасць выклікалі дарожныя знакі, складзеныя з камянёў. Падарожныя часта пакідаюць у іх напісаныя імі сагі, чатырохрадкоўі, каб хто іншы дапоўніў гэтыя самадзейныя творы ужо сваёй фантазіяй.

За паваротам, кіламетраў за 10—12 ад Рэйк'явіка, побач з ажыўленым трактам, скіраваным у далёкі гейзераў, утульна размясцілася сядзіба выдатнага ісландскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Хальдаура Кільяна Лакснеса. У цэнтры сядзібы — невысокі, у два паверхі, бялюткі дом. Побач ажыўлена шчабеча ручаёк.

Дзякуючы адметнаму таленту пісьменніка мільёны людзей ва ўсім свеце знаёмы са штодзённым жыццём ісландцаў, іх працай, характарам, клопатамі. Пяцьдзесят тамоў літаратурных твораў выдадзена пры жыцці аўтара. Сваю творчасць і ўсё сваё жыццё Х. Лакснес прысвяціў барацьбе за свабоду свайго народа, за ўмацаванне пачуццяў дружбы і прыязнасці паміж усімі людзьмі на зямлі. Ён быў адным з першых замежных пісьменнікаў, хто звярнуўся ў сваіх творах да паказу жыцця савецкіх людзей. Яго пяру належаць аповесці «Шлях на Усход», «Руская казка», якія сталі класічнымі творамі ісландскай літаратуры. У гэтых і многіх іншых творах пісьменнік настойліва прапагандуе ідэі інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва, сацыяльнай справядлівасці, міру і сацыялізму. Хальдаўр Лакснес — нязменны старшыня таварыства «Ісландыя — Савецкі Саюз», заснаванага яшчэ ў 1933 годзе.

## Суботнім вечарам Лакснес

гасцінна вітаў савецкіх людзей, праявіўшы ўвагу да кожнага шчырым поціскам рукі. Пяцёра ўнукаў пісьменніка паселі, нібыта верабейкі, на прыступках лесвіцы, што вяла на другі паверх дома.

Уразіла пісьменніцкая гасцёўня. Яна нагадвала залу музея, у якім выстаўлены творы літаратуры, мастацтва, народнай творчасці. Велічна вылучаліся сярод іншых «экспанатаў» 15 нібыта жывых чалавечых фігурак у касцюмах народаў СССР. Гаспадар звярнуў нашу ўвагу на графічны ліст Арлена Кашкурэвіча па матывах яго аповесці «Атамная станцыя».

У шчырай сяброўскай гутарцы Х. Лакснес гаварыў пра тое, што вельмі рады бачыць савецкіх людзей, з якімі яго шмат што нітуе. Прыгадаў свае неаднаразовыя паездкі ў СССР, вынікам якіх звычайна былі новыя літаратурныя творы.

— Цяпер мае паездкі абмежаваны. Усяму свой час...— з жалем прамовіў ён.

Пісьменнік быў здзіўлены і ўзрадаваны тым, што многія яго творы ёсць у бібліятэках нашай рэспублікі і што на паліцах яны не залежваюцца. Ён з вялікай зацікаўленасцю падтрымаў гаворку пра Максіма Горкага, Янку Купалу, Якуба Коласа. З удзячнасцю прыняў наш падарунак — выдадзены ў рэспубліцы альбом «Спатканне з лесам». Выразна прачытаў яго назву. А потым, зручна ўладкаваўшыся ў нізенькім, на тры вяршкі ад падлогі, скураным крэсле, зачаравана слухаў рамансы Чайкоўскага ў выкананні Ніны Казловай і Людмілы Малышавай. З лёгкім сумам, які заўсёды спадарожнічае развітанню з добрым чалавекам, пакідалі мы сядзібу славутага пісьменніка. І, ад'язджаючы ад яе, доўга яшчэ бачылі на асветленым ганку самога Лакснеса, яго чулую да гасцей жонку з развітальна прыўзнятымі рукамі.

Спагадлівы і гасцінны народ Ісландыі здавён славіцца сваёй прыхільнасцю да літаратурнай творчасці. Ісландцы жартуюць, што ледзь не на кожную душу насельніцтва ў іх прыходзіцца адзін пісьменнік ці паэт. На кожных 466 жыхароў краіны прыпадае адно друкаванае выданне. Непаўторныя помнікі тут ствараюць пісьменнікам. Так, помнік класіку ісландскай літаратуры Стэфану Стэфансану ўсталяваны не на плошчы, скажам, людната горада, а на пустынным перавале паміж дзвюма далінамі, непадалёк ад дарогі. Ён — добры арыенцір, указальнік падарожнаму на надзейную дарогу. Вельмі сімвалічна!

Славутая Даліна гейзераў адкрылася нашым позіркам адразу ж за заснежаным перавалам, які асляпляльна іскрыўся пад промнямі яркага сонца. Горда ўзвышаліся горныя вяршыні з вулканічнай лавы. То тут, то там зеўралі варонкі кратэраў. А самі гейзеры — высачэзныя струмені тэрмальных крыніц — з'яўляліся ў полі зроку нечакана і гэтак жа нечакана знікалі. Але іх выхад на паверхню, як мы заўважылі, быў падпарадкаваны пэўным інтэрвалам часу.

Магутная сіла тоіцца ў тэрмальных водах. Імі сёння ацяпляюцца практычна ўсе памяшканні краіны, напаўняюцца цудадзейныя ванны, басейны. Падземнымі крыніцамі запаўняюцца рэчкі. Так і цякуць у адзіным рэчышчы: ля аднаго берага гарачыя воды, ля другога — халодныя.

Неўзабаве перад намі адкрылася казачная панарама «Райскага саду». Сакавітая вясновая зеляніна здавалася прывезенай з іншага, нейкага паўднёвага вострава. Трапічныя плады пераліваліся рознымі колерамі вясёлкі ў цёплым вільготным клімаце ўмяшчальных аранжарэй, пабудаваных на гарачых крыніцах.

## Казачны куток саду

ня доўга вабіў вочы. Адразу за паваротам выявіўся новы краявід — «ісландскі лес», нізенькае кустоўе, якое крыху нагадвала расліннасць бясплоднай багны. Дзіву даешся: колькі прыродных цудаў на гэтым маленькім востраве! Тым больш, што далейшы наш шлях ляжаў да яшчэ адной з іх: славутага залацістага вадаспада.

Шматлікія вадаспады ўпрыгожваюць дзіўную паўночную прыроду. Яны мякка скідваюць зіхоткія патокі вады з вялізных гор у даліны, расколіны глыбокіх каньёнаў. Ганарацца гэтым дзівам прыроды ісландцы. Складаюць пра яго песні і легенды, ахоўваюць як вялікі нацыянальны набытак. Мемарыяльны знак ля залацістага вадаспада «Гутльфос» апавядае пра мужную патрыётку, якая цвёрда выстаяла перад націскам замежных дзялкоў, якія планавалі купіць вадаспад і пабудаваць на ім гідраэлектра-

станцыю. Вялікая любоў да свайго народа надала гэтай кволай жаночыне сілы ў няроўнай барацьбе за захаванне прыроднай жамчужыны краіны.

Увогуле высокая маральнасць, сціпласць ісландцаў кранае. Яна, дарэчы, як бы падкрэсліваецца і вонкавым выглядам краіны: тут няма фешэнебельных будынкаў, асляпляльнай рэкламы, тлумных гандлёвых радоў. Нас заўсёды акружалі спакойныя, ураўнаважаныя людзі, уважлівыя адзін да аднаго, а тым больш, да гасцей. Адчувалася іх грунтоўнасць у разважаннях і рашэннях. У характары ісландцаў — ніколі не спяшацца, але і нікуды не спазняцца.

Працуюць ісландцы многа, прычым з маладых гадоў. Студэнты і навучэнцы старэйшых класаў імкнуцца абслугоўваць сябе самастойна. У краіне традыцыйна падтрымліваецца амаль што бездакорны грамадскі парадак. Людзі звычайна не карыстаюцца замкамі, у якіх проста няма патрэбы. Ніхто не ахоўвае дзесяткі тысяч галоў жывёлы, якая вольна пасвіцца ўсё лета ў далінах. Ісландцы ганарацца тым, што ў іх краіне адсутнічаюць злачыннасць, беспрацоўе, беднасць.

І вось канчатковы пункт нашага падарожжа — даліна Хеймаланд. Напачатку сустрэла нас няветліва-пустынна. Аўтобус зрабіў прыпынак ля адзінокай пабудовы. Выявілася, што гэта клуб, збудаваны на сродкі жыхароў тутэйшых мясцін, якіх налічваецца ў наваколлі каля пяцісот. У вечаровых прыцемках, ля зачыненых дзвярэй клуба, на сцюдзёным ветры Атлантыкі было няўтульна і нават сумна. Навокал — ніводнай пабудовы і ніводнага чалавека. Толькі размераны і спакойны шум вадаспада парушаў цішыню даліны. Неяк нечакана ў салоне аўтобуса загучалі акорды баяна, і начную цішыню абудзіла блізкая сэрцу мелодыя: «Каб любіць Беларусь маю мілую...» Стала больш утульна, неяк весялей, цяплей.

Але ісландцы, як гаварылася, ніколі не спяшаюцца і ніколі не спазняюцца. У дакладна вызначаны час начную цемру прарэзалі дзесяткі аўтамабільных фар. Людзі ехалі цэлымі сем'ямі, і праз 15—20 хвілін усе месцы ў зале былі заняты. На вечар дружбы, як засведчылі гаспадары, прыбыла трэцяя частка ўсіх жыхароў Хеймаланда. Гасціннымі гаспадынямі вечара аказаліся актывісткі жаночага таварыства на чале з яго старшынёй Маргрэт Іонсдохцір.

Увазе, з якой ісландцы ставіліся да кожнага канцэртнага нумара, да кожнага нашага слова, можна пазайздросціць. Дзесяткі людзей у часе выканання канцэртнай праграмы ціхенька пакідалі свае месцы і імкнуліся бліжэй да сцэны. Уладкоўваліся побач з аркестрам, уздоўж сцен, уставалі, каб не прапусціць ніводнага руху артыстаў. Прыём быў цудоўны, авацыі — шчырымі і дружнымі.

Доўга не разыходзіліся людзі і пасля канцэрта. «Нічога падобнага тут яшчэ не было»,— захоплена прызнаваліся гаспадары. Неяк само сабой у цэнтры ўвагі апынуўся маладжавы, з прыязнай усмешкай чалавек — тутэйшы святар Хальдаўр Гунарсан. Ён зацікаўлена распытваў пра ансамбль, пра нашу краіну, выказваў свае сімпатыі да яе. Гунарсан падрабязна запісваў усе адказы на свае шматлікія пытанні, збіраючыся, па яго словах, апісаць гэтую сустрэчу на старонках цэнтральнай газеты.

**Цяжка перадаць пачуцці**, якія ахопліваюць чалавека ўдалечыні ад Радзімы ў тыя дні, калі яна адзначае свае важнейшыя святы. Не было выключэннем і 1 лістапада мінулага года, калі ў цэнтры Рэйк'явіка ў адной з утульных залаў сотні людзей сабраліся ўрачыста адзначыць 70-годдзе Вялікага Кастрычніка. Калі не па маштабах, дык па самой сутнасці гэтая падзея адпавядала велічнай урачыстасці, якая адбылася ў Мінску 5 лістапада і на якую мы, да нашай вялікай радасці, паспелі прыехаць. У чужой краіне з асаблівай эмацыянальнасцю ўспрымаюцца цёплыя словы, шчодра выказаныя ў адрас СССР. І трэба адзначыць, што такіх слоў было многа, у тым ліку і ў афіцыйных выступленнях міністра замежных спраў Ісландыі С. Хермансана і свяшчэннаслужыцеля, вядомага ў краіне грамадскага дзеяча Р. Фінбагасана.

Дні Савецкага Саюза ў Ісландыі, бясспрэчна, дазволілі пашырыць уяўленні ісландскага народа аб нашай краіне, дапамаглі яму больш глыбока асэнсаваць сутнасць перамен, што адбываюцца ў нас сёння. Менавіта пра гэта, пра неабходнасць пашыраць супрацоўніцтва нашых краін, пра неабходнасць узаемаўзбагачэння культур абодвух народаў ішла запамінальная гаворка ў часе прыёму прадстаўнікоў Беларусі прэзідэнтам Ісландыі чароўнай пані Вігдзіс Фінбагадацір. Прэзідэнт Ісландыі скарыла нас шырынёй сваіх інтарэсаў і ведаў, глыбокапаважнымі манерамі ў адносінах з людзьмі.

З вялікай цікавасцю паставілася пані Вігдзіс да беларускіх нацыянальных касцюмаў, зробленых для народнага ансамбля «Крыжачок» мастачкай Галінай Юрэвіч, да габелена Ады Салохінай «Нацюрморт», нават да нашых цымбалаў. З сімпатыяй выказалася пра творчасць Ігара Лучанка.

Сустрэч было многа. Грамадскасць Ісландыі з вялікай цікавасцю знаёмілася з экспазіцыямі выставак беларускай графікі, народнай творчасці, кніжных выданняў, дзіцячага малюнка. Высокая ацэнка была дадзена творам А. Паслядовіч, Л. Асецкага, В. Шаранговіча, А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага, У. Басалыгі, Л. Марчанкі і іншых графікаў.

Прыемна было бачыць у цэнтральнай прэсе вершы М. Танка, слухаць па мясцовым радыё «Мой родны кут» у выкананні хору Беларускага тэлебачання і радыё, чытаць шматлікія публікацыі пра нашу рэспубліку ў спецыяльна падрыхтаваных да Дзён дружбы выданнях.

У той ці іншай меры ў Ісландыі былі прадстаўлены і высока ацэнены важнейшыя дасягненні БССР за гады Савецкай улады. У гэтыя дні, па выразу ісландцаў, быў пабудаваны мост дружбы паміж Рэйк'явікам і Мінскам, які паслужыць далейшаму ўмацаванню ўзаемаразумення народаў, справе міру і міжнароднага супрацоўніцтва.

Менавіта аб гэтым піша нам у сваім чарговым лісце член праўлення таварыства «Ісландыя — Савецкі Саюз» Гутмундур Б'ярнлейфсан: «Якая б адлегласць нас ні падзяляла, у нашых думках вы заўсёды будзеце побач».

Гэта той шчаслівы выпадак, калі сімпатыі людзей — узаемныя.

**Арсен ВАНІЦКІ,**
**старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**
**Фота аўтара.**



**Сяргей ПАНІЗНІК**



## *Планета «Беларусь»*

**Міжнародны планетны цэнтр (Кембрыдж, ЗША) зацвердзіў назвы планет Беларусь, Хатынь, Мінск, адкрытыя нашымі астраномамі ў Крыме. Усе гэтыя малыя планеты знаходзяцца на адлегласці соцень мільёнаў кіламетраў ад Зямлі, паміж арбітамі Марса і Юпітэра.**

*З газет.*

З магутнай кроны
вечнага Сусвету
ніводны плод свой,
космас,
не раструсь,—

і зберажы
маленькую планету
з такой пакутнай назвай —
«Беларусь».

Ляціць планета
у глыбокай далі
ў суседстве астэроідаў,
камет.

Ёй нездарма
імя такое далі:
радзіму нашу
ведае ўвесь свет.

Ляці, планета,
у бязмежнай высі —
маёй зямлі
маленькі напамін:

ты — у вяках —
нашчадкам адзавіся,
калі курлыкне
жураўліны клін.

Свяціся кропкай
весела і звонка,
нясі ў прастор
свой непамерклы груз...

Жыць будзе Беларусь —
мая старонка,
сярод зямлян
жыць будзе
беларус.

Ляціце, Зоркі Памяці!
Глядзіце!

З Кастрычніка
на новай мы арбіце.

## *Памяць*

Што на памяці
У Сонца?
Міг святла
У цьме бясконцай.
Са святла таго — Сусвет:
Свет людзей
І свет планет.

Што на памяці
У Зямлі?
Рунь скарэлай аралі:
Знізу — корань,
Зверху — кветка.
Там, дзе кветкі,—
Там і дзеткі!

Помняць нашы курганы
Кожнай —
Жвір і жар —
Вайны.

Што на памяці
У Айчыны?
Бляск паходні і лучыны.
Плахі меч,
Пагоні меч
І фашыстаў
Чорны смерч.

Беларусь не зваявана,
Продкаў памяць — захавана!
Берагчы ўсё
Трэба ўмець.
Дзе беспамяцтва —
Там смерць.

Што на памяці
У песні?
Тое, што ўжо не закрэсліць
Ні вякі,
Ні лайдакі,
Ні алоўкі, ні штыкі.
Мова — з памяці-вязьма:
Без яе мяне няма.
Для душы няма пажывы —
Не жывы я,
Не служывы.
Ведаю, што дух народны
З роднай мовай несмяротны.

Што на памяці
У мяне?
Рэха ў роднай старане.
Ля Дзвіны карэнні роду.
Веру: ім не будзе зводу.
Мой сынок, мая дачка —
Два вяслы. А я — рака.
Вёслы
Крыллямі ўзлятаюць,
Нашы дні
Ў вякі плывуць,
І суседзі нас вітаюць,
Беларусамі завуць.

## *Сцяжына*

Мне — тратуар, а вуліца —
машынам:
у горадзе жывём і ты і я.
А дзе — сцяжына,
мая сцяжына,
сцяжынка незарослая твая?

У горадзе не колецца ажына.
Метро дарогу зменшыла ўдвая.
Маўчыць сцяжына,
Мая сцяжына,
Сцяжынка паўзабытая твая.

Жыццё — тугая звонкая спружына.
Шыпіць шаша, уецца як змяя.
Вярні, сцяжына,
да хаты сына:
сыноў чакае добрая зямля.

Дзе сціплы цвет арэшыны-
ляшчыны?
Дзе голас мамы — голас ручая?
Жыве сцяжына,
твая сцяжына,
сцяжына запаветная мая.

# Пад

Жорж СІМЕНОН
АПОВЕСЦЬ

Але, думаў Лябро, гэта не сон, а праўда. І плошча — хоць і цьмяна ён яе бачыў цяпер — стаіць на месцы. І галасы ў кафэ і на тэрасе былі знаёмыя.

Праходзячы міма кафэ па вуліцы, Віяль, босы, з сеткаю на спіне, спыніўся і крыкнуў:

— Пан Лябро! Лодка ў парадку!

— Дзякуй, Віяль,— адказаў машынальна Лябро.

Ніхто, вядома, і не падазраваў, што ён, іх добры знаёмы, былы іх мэр і паважаны на востраве чалавек, асуджаны на смерць. І якім чынам асуджаны — горш ужо і не прыдумаеш!

У судзе хоць ёсць адвакаты. Журналісты, якія даюць у друку паведамленні аб ходзе працэсу. Нарэшце, рашэнне суда можна абскардзіць. І апошні злачынца можа выклікаць спачуванне ці нават нейкія сімпатыі. А тут...

— Урэшце, гэта будзе залежаць ад таго, што за жыццё будзе ў мяне на тваім востраве, ты разумееш?

Не, Лябро нічога не разумеў. Бачыў адно, як зноў налівае яму Жуль у шклянку віно. Няўмольны погляд прымусіў паднесці шклянку да вуснаў і зноў піць...

А Жуль ужо крычаў:

— Жа́жо, паўтарыць!

Лябро зусім атупеў. Пяць бутэлек — гэта ўжо занадта. Ды яшчэ раніцай! Ён ніколі і за тыдзень столькі не выпіваў. Страўнік у яго яшчэ з Афрыкі быў не ў парадку.

— А нумар мой нічога, га? — спытаўся Жуль.— Спадзяюся, плошча з яго відаць?

— Вядома... Пайду скажу Марысу...

З'явіўся шанц хоць на якую хвіліну адысці ад гэтага невыноснага тыпа, пастаяць аднаму ў цяньку, перадыхнуць крыху ад яго няўмольнага, здзеклівага позірку. Але толькі Лябро прыўзняўся, як аднаногі паклаў яму на плячо сваю цяжкую, бы свінцовую, руку.

— Паглядзім яшчэ... Мажліва, мне тут спадабаецца, і тады нам хопіць часу на сёе-тое...

Ці ж не давалі гэтыя словы хоць якую надзею?

— Не думай пра гэта, Аскар. Ты яшчэ мяне не ведаеш.

Лябро не сказаў ні слова. Твар у яго быў абсалютна нерухомы, а вочы, дакладней, вока праз цёмныя акуляры ніяк нельга было разгледзець.

Дык як жа тады ўгадаў аднаногі, пра што ён думае?

— Я ж сказаў: «Пад страхам смерці» — хіба не так? Га?.. Але пакуль што, у чаканні прысуду, нішто не перашкаджае нам пазнаёміцца трохі бліжэй. Урэшце, мы ж зусім не ведаем адзін аднаго... Дык праўда, што твая жонка не надта памяркоўная?.. Іду ў заклад, што яна намыліць табе шыю, бо ты смярдзіш шынком і праседзеў тут да паўдня... У піжаме... А дзіўна, братка, бачыць цябе ў такім выглядзе ў гэты час... Жажо!..

— Я малю вас...

— Апошняя... Бутэльку, Жажо!.. Што я табе казаў?.. А, што ў нас ёсць час пазнаёміцца бліжэй... Рыбу разам палавіць... Ніколі не было на гэта ні часу, ні магчымасці... Заўтра ты мяне навучыш... Як тут, клюе?

— Клюе.

— І ў цябе?

— І ў мяне... Як і ў іншых...

— Ну, і мы пойдзем на рыбалку... Возьмем з сабою віна... Ты гуляеш у шары?.. Выдатна, я так і думаў... Навучыш і мяне... Мы час марнаваць не будзем!.. За тваё здароўе!.. «Пад страхам смерці», не забывай... А цяпер я пайду спаць...

— Не пад'еўшы? — спытаўся збянтэжаны Лябро.

— Крошка Жажо прынясе мне снеданне ў нумар...

Ён устаў, уздыхнуў і, хістаючыся, рушыў да дзвярэй, у якія так і не патрапіў. Нехта засмяяўся, і Жуль раз'юшана агледзеў прысутных.

— Паклапаціся, Аскар, каб такога больш не было,— сказаў ён Лябро.

Пасля прайшоў праз усю залу на кухню, падняў, ні на кога не звяртаючы ўвагі, накрыўку з каструлі і гучна загадаў:

— Мне ў нумар!

— Зараз, пан Жуль!

У кафэ было чуваць, як ён стукаў драўлянай нагой па прыступках, пасля па падлозе. Мяркуючы па гуку, які данёсся з ягонага нумара, ён адразу ж, не раздзеўшыся, упаў на ложак.

— Адкуль ён? — спытаўся Марыс, спусціўшыся ў кафэ.— Калі гэты тып збіраецца тут заста접вацца...

Лябро перапыніў яго, пераймаючы тон Жуля, каб і слова супраць сказаць было нельга:

— Застанецца дык застанецца.

Пасля чаго выйшаў з кафэ і накіраваўся дамоў праз плошчу. На ганку яго чакала жонка. Лябро, хоць і сціснуў у кулак усю сваю волю і не зводзіў з жонкі вачэй, зрабіў усё ж некалькі добрых кругоў.

— Што гэта цябе так разабрала? Што ты робіш у кафэ ў такіх строях? — паказала яна на ягоныя піжаму і пантофлі.— Мне расказвалі, быццам нейкі тып перарэзаў трос у тваёй лодкі. Што за ён?

Лябро не мог адказаць на ўсе пытанні адразу і таму адказаў толькі на апошняе:

— Гэта сябра.— І дадаў, націскаючы на склады са стараннасцю п'янага чалавека, які хоча здавацца цвярозым: — Гэта мой лепшы сябра... Больш, чым сябра... Гэта брат, ты чуеш?.. Я не дазволю нікому...

У пяць гадзін дня ў нумары, дзе спыніўся новы пастаялец «Ноева каўчэга», усё яшчэ было ціха.

Калі ж у той самы час звычайныя партнёры пана Лябро па гульні ў шары пастукаліся ў дзверы ягонага дома, выйшла да іх пані Лябро.

— Тс-с! — ціха сказала яна.— Ён спіць. Вельмі стаміўся сёння...

## III

Кожны наступны дзень яны выходзілі зранку ў мора.

Лодка мерна пагойдвалася на лагодных хвалях. У гэты час мора заўсёды было спакойнае, гладкае, бы атлас,— брыз падымаўся толькі праз некалькі гадзін пасля ўсходу сонца. І марскі лазурак, і нябесная сінь так і пераліваліся дзівоснымі вясёлкавымі адценнямі. А непадалёк ад «Люстранага шкапа», за колькі сотняў метраў ад мыса, бы снег, бялела высачэзная скала Мэд.

Спадзяванні аднаногага спраўдзіліся: ён усур'ёз захапіўся рыбалкаю. Часцей за ўсё Жуль сам будзіў Лябро свістам гадзін у пяць раніцы.

— Не забудзь узяць віна! — напамінаў ён кожны раз.

Сеўшы ў лодку, Лябро заводзіў маторчык, і «Люстраны шкап», ірвануўшыся з месца, ускаламучваў ваду, пакідаючы шумны след уздоўж пляжаў і бухтаў да самай скалы Мэд, непакоіў сваім гудзеннем ціхі світанак.

— Насадзі мне новую піяду! — раз-пораз гучна загадваў Жуль.

Як прынаду на Паркэролі выкарыстоўвалі ракаў-адзінотнікаў, па-тутэйшаму піядаў. Ракавіны, у якіх сядзелі піяды, даводзілася разбіваць малатком або каменем.

Жуль га́дзіўся нават дакранацца да ракавін і разбіваць іх. Насаджваць ракаў на кручок стала работай аднаго Лябро. Рака нельга было параніць, і таму апрацоўка ракавіны вымагала вялікай далікатнасці, так што самому Лябро рыбу лавіць часу амаль не аставалася. Скручваючы цыгарку, Жуль кідаў на яго позірк.

— Як ты думаеш, Аскар: мне здалося, што...

Кожнага дня яму прыходзіла ў галаву якая-небудзь новая ідэя, звязаная са спосабам смяротнага пакарання Лябро, і ён абмяркоўваў яе з ім у самым зычлівым тоне, усё роўна як давяраўся сябру.

Аднаго разу ён сказаў:

— Спачатку я думаў задушыць цябе. Ведаеш, чаму?.. Бо неяк у бары, не памятаю ўжо дзе, адна жанчына сказала мне, што ў мяне рукі забойцы, які ўжо задушыў не аднаго чалавека. Дык цяпер добры выпадак паспрабаваць, га?..

Ён прыглядаўся да шыі Лябро, пасля пазіраў на свае рукі, круціў галавою.

— Не, наўрад ці я буду душыць цябе...

Перабіраў уголас усе магчымыя варыянты смяротнага пакарання.

— Калі я цябе ўтаплю, ты будзеш такі непрыгожы ў труне... Мне агідна пра гэта думаць... Ты калі-небудзь бачыў тапельца, Аскар?.. А цябе ж і цяпер прыгажуном не назавеш...

Апусціўшы вуду ў ваду, ён нерваваўся, калі не клявала хоць пяць хвілін. І тады Лябро, які ўжо даўно перастаў маліцца, пачынаў прасіць бога, каб той паслаў Жулю рыбы, бо баяўся, што той разлюбіць рыбалку і... Страшна было падумаць, што тады можа здарыцца...

— Скажы, Аскар... Не, дай мне спярша бутэльку... Час ужо...

З кожным днём ён пачынаў піць усё раней і раней.

— А ведаеш, справа ўсё больш ускладняецца. Раней я думаў, што заб'ю цябе, і не мае, урэшце, значэння, як я гэта зраблю, бо як ужо выйдзе ўсё, так яно няхай і будзе... Ты разумееш, што я хачу сказаць? У мяне не было асаблівых прычын чапляцца за жыццё... Урэшце, магу табе прызнацца, што мне было б нават цікава трапіць у турму, каб вакол мяне ўсчаўся ўвесь гэты гвалт: паліцыя, суддзі,

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Працяг, пачатак у «Беларусі» №№ 3—4.

# страхам смерці

журналісты, прыгожыя дамы ў зале суда... Грандыёзны быў бы працэс, га?.. Я расказаў бы ім усё, што ёсць у мяне на сэрцы... А чаго толькі там няма — аднаму богу вядома!.. Упэўнены, галаву мне не адсеклі б... А ў турме мне было б не так ужо і блага... Але ўяві: цяпер я зноў адчуў смак жыцця... Што ўсё і ўскладняе, бо цяпер мне трэба, каб я забіў цябе і мяне не сцапалі... Тры ці чатыры спосабы пракруціў я ўжо ў сваёй галаве — ад самага пачатку да самага канца... Гадзінамі думаю... Дзіва дый годзе... Прадумваю кожную дэталь, спрабую прадугледзець любы магчымы паварот... І толькі пачне ўжо здавацца, што ўсё гладка, ды тут раптам — ба-ба-ах! Нейкая драбяза нішчыць увесь план...

На якісьці час ён змоўк, пасля абсалютна спакойна спытаў у Лябро:

— Ну а як бы ты ўзяўся за гэтую справу, га?..

З дня яго з'яўлення на востраве прайшло ўжо амаль тры тыдні. Лябро прызвычаіўся ўжо да такіх размоў. Якраз у той самы момант ён даставаў з вады добрую, ці не кілаграмовую скарпену.

— А можа, не трэба мяне забіваць? — асцярожна спытаўся ён у адказ.

Жуль здзіўлена, нават дакорліва паглядзеў на яго.

— Ну сам падумай, Аскар... Ты ж выдатна ведаеш, што я напісаў: «Пад страхам смерці...»

— Гэта было так даўно...

Жуль стукнуў кулаком па сваёй драўлянай назе:

— А хіба я адмяняў свой прысуд?

— Мы тады яшчэ не былі знаёмыя...

— Ну і што?.. Дык тым больш, што знаёмыя!.. Не, галубок!.. Трэба, каб я знайшоў добры спосаб... Відаць, зраблю гэта ўсё ж



такі ў моры... Хто тут можа бачыць нас цяпер?.. Ніхто. Ты плаваць умееш?

— Трошкі.

Лябро адразу ж пашкадаваў, што сказаў гэтае «трошкі», якое магло канчаткова падштурхнуць Жуля да здзяйснення задуманага, і асцярожна зазірнуў свайму кату ў вочы.

— Я заўсёды няблага плаваў...

— Але ты не зможаш плыць, калі атрымаеш добры ўдар па галаве... І слядоў пасля майго ўдару не застанецца... Трэба, каб я навучыўся кіраваць лодкай, бо буду ж вяртацца на бераг адзін... Насадзі мне новую піяду!

Калі не клявала і Жуль быў у кепскім настроі, ён зусім ужо дапякаў Лябро.

— Ты, мусіць, думаеш купіць мяне тым, што будзеш карміць і паіць? Га?.. А ўвесь час лічыш, колькі я выпіў бутэлек... Ты скваліны, Аскар! І эгаіст. А баязлівы які! Памерці нават прыгожа не зможаш. Ведаеш, што я табе скажу? Ты мне агідны. Дай выпіць...

Трэба было піць разам з ім. Лябро жыў усё роўна як у нейкім кашмары — аглушаны віном ужо з дзесяці гадзін раніцы і п'яны ўшчэнт у поўдзень. А Жуль нават праспацца яму не даваў пасля гэтага, будзіў у чатыры-пяць гадзін дня, каб ісці гуляць на плошчу ў шары.

Гуляць ён не ўмеў зусім, але ўпарта імкнуўся выйграць. Спрачаўся пасля кожнага ўдару, вінаваціў іншых гульцоў у махлярстве. А калі хоць хто-небудзь з прысутных дазваляў сабе зрабіць якуюсьці заўвагу або ўсміхнуцца, Жуль кідаў тады шалёныя позіркі на Лябро.

— Спадзяюся, што ты перастанеш урэшце сустракацца з гэтым тыпам? — казала пані Лябро.— Думаю, гэта не ты плаціш за віно, якое вы, кажуць, літрамі смокчаце?..

— Ды не... Не я...

Ведала б яна, што ён плаціў не толькі за віно, але і за пражыванне Жуля ў «Ноевым каўчэзе», у тым ліку і за сталаванне!

— Паслухайце, пан Лябро,— казаў яму гаспадар гатэля Марыс.— Усялякія кліенты ў нас былі. Але гэты зусім невыносны. Учора ўвечары ён пагнаўся ў калідоры за маёю жонкаю... Пазаўчора — за Жажо. Цяпер дзяўчына адмаўляецца заходзіць да яго ў пакой... Ён падымае нас сярод ночы, грукоча сваёю драўляшкаю па падлозе дзеля таго аднаго, каб запатрабаваць шклянку вады і таблетку аспірыну... Лямантуе з любой нагоды, адсылае назад ежу, якую ён, ці бачыце, не ўпадабаў... Адбівае, словам, ад гатэля пастаяльцаў... Я так больш не магу...

— Я прашу цябе, Марыс... Калі толькі ты паважаеш мяне, як сябра...

— Для вас я ўсё гатовы зрабіць, пан Лябро... Але не для гэтага адназогага, не...

— Пацярпі яго яшчэ два тыдні...

Два тыдні... Тыдзень... Трэба было выйграць час... Пазбегчы смерці... А яшчэ прыходзілася штодня па некалькі разоў улагоджваць гульцоў у шары: людзі адмаўляліся гуляць з гэтым нахабным шаленцам, які няспынна сварыўся і кляў кожнага, не лезучы за словам у кішэню...

— Трэба табе пагуляць сёння, Віяль... І Герсі папрасі прыйсці... Скажы яму ад майго імя, што гэта вельмі важна... Проста неабходна, каб ён сёння прыйшоў...

Плакаць хацелася ад такой абразы. Іншы раз Лябро казаў сам сабе, што Жуль — вар'ят. Але гэта нічога не мяняла. Не мог жа ён запраторыць свайго нязванага госця ў вар'ятню?

Ён нават не мог пайсці ў паліцыю і заявіць, што гэты чалавек пагражае яму смерцю.

Перш за ўсё таму, што ў яго не было ніякіх доказаў. Не паштоўкі ж паказваць — абсмяялі б адно. Па-другое, яго мучыла сумленне. Бо Жуль такі, як ён ёсць цяпер, быў, можна сказаць, ягоным уласным творам. Хто ж, як не ён, Лябро, быў адказны за ўсе тыя рысы, якія набыў Жуль разам са стратай нагі і веры ў людзей?..

Але няўжо ён павінен быў даць забіць сябе?.. Павінен, што яшчэ горш, жыць тыдзень за тыднем, магчыма, месяц за месяцам (гэта калі пашанцуе) з думкаю, што ў любую гадзіну, у самы нечаканы момант Жуль скажа яму сваім адначасна і зычлівым і здзеклівым голасам: «Час прыйшоў, Аскар...»

А Жуль быў садыст, якіх пашукаць. Дбайна падкідаў і падкідаў дровы ў вогнішча страху свайго колішняга злосніка. Варта было Лябро супакоіцца крыху хоць на якую хвілінку, як Жуль адразу ж казаў ліслівым голасам:

— А што, калі мы гэта зробім зараз?..

Яшчэ гэтае сапраўды езуіцкае «мы»! Нібыта ён, Лябро, даў ужо яму сваю згоду і самахоць пойдзе на смерць.

— Павер мне, Аскар, я пастараюся зрабіць усё так, каб ты пакутаваў як мага меней... Не такі ўжо я і жорсткі, як можаш ты думаць... Усё гэта зойме хвіліны тры, сама больш...

Лябро заставалася адно ўшчыкнуць сябе, каб пераканацца, што гэта не сон, не вар'яцкае насланнё.

— Дай мне бутэльку,— зноў і зноў казаў яму Жуль.

Выпіўшы, Жуль пачынаў гаманіць пра рыбалку, гульню ў шары, пра пані Лябро, якую ён, хоць і бачыў толькі здалёк, дужа неўзлюбіў.

— Ты ніколі не думаў развесціся?.. Табе гэта трэба зрабіць. Прызнайся, што ты не шчаслівы з ёй, га?.. Яна ж на ланцужку цябе водзіць, бы сабачку якога!..

І Лябро прызнаваўся, хоць тое, што казаў яму толькі што Жуль, поўнай праўдай назваць ніяк нельга было. Гэта была праўда хіба што ў пэўнай ступені. Але лепш было не пярэчыць, бо тады Жуль адразу ж тэрарызаваў яго новымі жорсткімі меркаваннямі пра яго не надта далёкую смерць.

Дый без пярэчанняў не вельмі лёгка было яго слухаць.

— Калі ты развядзешся,— зазіраў у будучыню Жуль, дачакаўшыся ад Лябро прызнання,— думаю, мне будзе лепш перабрацца да цябе. Возьмем Жажо за служанку...

**Заканчэнне будзе.**

# чалавек веруючы

**(Заканчэнне.
Пачатак на 20-й стар.)**

8. Лямеш правы — 9.
9. Шатун грукату — 36.
10. Паўзорачка — 27.
11. Вал транспарцёра — 9.
12. Корпус эксцэнтрыка — 36.
13. Гідраразмеркавальнік — 4.
14. Блок-шарнір — 30.
15. Рэшата першае — 10.
16. Рэшата другое — 10.

Камбайн маркі КГП-2:... Арлоўскі.

**(Да другога камбайна Кірыла Пракопавіч прасіў дэталі 21 назвы. Каб не стамляць чытача, я скараціў спіс. Скарацію — і падумаў: як жа стамляла старога старшыню, як яго прыводзіла ў шаленства, даводзіла да адчаю гэта штодзённае ўніжэнне — прасіць запчасткі, будматэрыялы для калгаса.— А. К.).**

19.09. Магілёў, аблсельгастэхніка, Перальману.

Тэлеграма.

Рэжа мяне падрыхтоўка зімы жывёлагадоўлі вельмі прашу тэрмінова адпусціць калгасу «Рассвет» будматэрыялы згодна нашай заяўкай Арлоўскі.

26.09. Галоўнаму санітарнаму ўрачу Кіраўскага раёна тав. Калеснікаву М. І.

Праўленне калгаса «Рассвет» дакладвае Вам, што ў 1967 годзе мы будзем будаваць двухпавярховы капітальны свіран ёмістасцю 1000 тон зерня.

Праект у нас ёсць, але абласная санэпідстанцыя забараняе будаваць свіран, таму што ён размесціцца за 120 метраў ад могілак, а па санітарных нормах патрабуецца 300.

Праўленне калгаса «Рассвет» лічыць вышэйпамянёную забарону неразумнай прыдзіркай. У свірне не будзе ніякіх артэзіянскіх свідравін, ён стане на пагорку, таму ніводнаму нябожчыку не ўдасца прабрацца ў наш свіран.

Просім дазволу будаваць свіран на пагорку за 120 метраў ад могілак. Арлоўскі.

31.10. Начальніку Кіраўскай міліцыі тав. Мухіну В. І.

Члены праўлення калгаса «Рассвет», даведаўшыся пра Вашу дабрату да нашага п'янага хулігана Бяляўскага С. Е. (штраф 15 руб.), вельмі абураюцца тым. Адкуль у Вас, т. Мухін, з'явілася такая дабрата, такая сардэчнасць да п'яніц і хуліганаў?

Вам далажылі, што п'яніца Бяляўскі С. Е. нанёс вялізную матэрыяльную шкоду калгасу «Рассвет», змяшаўшы 14 тон бензіну з саляркай. Цяпер мы не ведаем, куды падзець вышэйпамянёную сумесь.

Калі Вы, т. Мухін, будзеце так дапамагаць калгасам, дык парадку ў раёне Вы ніколі не наведзяце і эканомікі раёна мы з Вамі не ўзнімем. Арлоўскі.

28.11. Дырэктару Магілёўскага будаўнічага трэста № 12 тав. Баршчу А. А.

Праўленне калгаса «Рассвет» другі раз вымушана Вам далажыць, што на будаўніцтве Палаца культуры кожную суботу рабочыя працуюць толькі паўдня, гэта значыць, да абеду, а ў панядзелак работа ў іх пачынаецца толькі з 13 гадзін, таму што прараба тав. Цітова ў гэтыя дні на будоўлі не бывае, і рабочыя сядзяць без справы. Арлоўскі.

13.12. Міністру мясной і малочнай прамысловасці БССР тав. Шамгіну В. К.

Праўленне калгаса «Рассвет» дакладвае Вам, што 10 снежня г. г. у нашай гаспадарцы атрымалася сапраўдная катастрофа, а іменна: 1250 галоў племянных парасят і 960 галоў племянных цялят мы перасталі паіць адгонам малака, у выніку чаго мы недаатрымліваем штодзень 960 кілаграмаў жывой вагі мяса.

Прычына ў тым, што на нашым малочна-сепаратарным пункце выйшаў са строю паравы кацёл, і мы вымушаны штодзень вазіць малако (12500 кг) у Кіраўск на маслазавод, дзе зусім адсутнічае працоўная дысцыпліна сярод работнікаў, дзе не мыецца, не выпарваецца посуд, дзе свежы адгон хутка кісне, становіцца непрыгодным на корм жывёле. Такі адгон мы не можам выкарыстоўваць.

Пераканаўча прашу Вашага садзейнічання: тэрмінова прадаць нам новы паравы кацёл. Мы адрамантуем свой сепаратарны пункт, і не будзе вялізнай шкоды калгасу і дзяржаве. Арлоўскі.

20.12. СМ БССР.

Маё фізічнае здароўе не дазваляе мне ў далейшым працаваць на пасадзе старшыні калгаса, але і сядзець без справы я не магу і не буду. Мне думаецца, што я яшчэ змагу прынесці некаторую карысць народу і дзяржаве на рабоце брыгадзіра нашай садаводчай брыгады, а пладовыя сады ў нас займаюць 340 га, яны размешчаны ў чатырох асобных месцах. Для абслугоўвання саду вельмі неабходна машына ГАЗ-69 з верхнім металічным кузавам, яна ў любое надвор'е ўсюды пройдзе. Прашу выдзеліць для продажу нашаму калгасу новы аўтамабіль ГАЗ-69. Арлоўскі.

22.12. Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Брэжневу Л. І.

Дарагі Леанід Ільіч!

Праўленне і партыйная арганізацыя калгаса «Рассвет» рады Вам далажыць, што мы будуем Палац культуры на 950 месц, які па праекту будзе каштаваць нам 1 мільён 250 тысяч рублёў.

Такі Палац нам па сілах, грошы ў нас ёсць, крэдыту мы не просім, а будаваць яго вельмі неабходна, народ хоча культурна жыць і адпачываць.

Дарагі Леанід Ільіч! Нам хочацца Вам сказаць, што царская Расія была ў шмат разоў бяднейшая за савецкую сацыялістычную Расію і што царскі ўрад будаваў свайго роду «ачагі культуры» — цэрквы — за кошт дзяржавы. І нам хочацца сказаць, што калгасныя Палацы культуры — менавіта культуры, а не рэлігійнага дурману — настаў час будаваць для нашага працоўнага сялянства, для нашага народа, які жыве ў вёсках, за кошт дзяржавы.

Звяртаемся да Вас з просьбай: каб 50 працэнтаў кошту нашага Палаца культуры, гэта значыць 625 тысяч рублёў, узяла на сябе дзяржава. Арлоўскі.

22.12. Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Брэжневу Л. І.

Дарагі Леанід Ільіч!

Праўленне і партыйная арганізацыя калгаса «Рассвет» вымушаны Вам далажыць, што людзі, якія жывуць на тэрыторыі Магілёўскай вобласці, ніколі не займаліся вырошчваннем цукровых буракоў, таму што прыродныя ўмовы нашай вобласці, наша падзоліста-пясчаная глеба не дазвалялі сялянам займацца гэтай культурай — буракамі.

Апошнія 3 гады нашы калгасы і саўгасы абавязваюць вырошчваць цукровыя буракі як прамысловую культуру, але яны даюць нізкія ўраджаі і не апраўдваюць затрат працы.

У нашай Магілёўскай вобласці добра апраўдвае працу бульба. Наш калгас «Рассвет» займае пад бульбу 1120 гектараў. Дзякуючы гэтай культуры мы займаем першае месца ў Беларускай ССР па вытворчасці малака і мяса.

Нам хочацца Вам, Леанід Ільіч, сказаць некалькі слоў аб цэнах на сельскагаспадарчую прадукцыю. За бульбу, што здаём дзяржаве, нам плацяць па 6 капеек за кілаграм, а за раннюю — нават па 10—15. За цукровыя буракі нам плацяць па 3,8 капейкі за кілаграм, у той час як гэта культура больш патрабавальная да глебы, на яе вырошчванне затрачваецца працы ў 2 разы больш, чым на бульбу.

Дзе тут логіка, дарагі Леанід Ільіч?

К. П. Арлоўскі, старшыня калгаса «Рассвет».

28.12. Салігорск, гарвыканком.

Дарагі Васіль Міхайлавіч!

Віншую Вас і Вашу сям'ю з надыходзячым Новым годам, юбілейным для нашай краіны,— 1967-м!

Дазвольце Вам далажыць, што наш калгас «Рассвет» недаатрымаў ад Вас у чацвёртым квартале 1966 года 60 тон калійнай солі. Калі ёсць магчымасць, адгрузіце ў бліжэйшыя дні. Будзем удзячны за Вашу ласку.

Акрамя таго, у красавіку 1967 года мы на сваіх аўтамашынах прывязём Вам у Салігорск чатыры тысячы саджанцаў каштанаў узростам 7 гадоў, і Вы зможаце добра азеляніць вуліцы Вашага цудоўнага горада. Арлоўскі.

29.12. Усім брыгадзірам і загадчыкам ферм калгаса «Рассвет».

Вам вядома, што нашы людзі, нашы радавыя калгаснікі ўжо выхаваны камуністычнай свядомасцю ў працы, але гэтыя нашы людзі вельмі часта расчароўваюцца і выказваюць незадаволенасць, таму што нашы брыгадзіры і загадчыкі ферм яшчэ дрэнна кіруюць людзьмі на рабоце.

Сход упаўнаважаных яшчэ раз нагадвае: у канцы рабочага дня аб'яўляць людзям велічыню іх дзённага заробку, таму што без гэтага метаду кіраўніцтва не можа быць добрай працоўнай дысцыпліны.

Старшыня калгаса Арлоўскі.
Бухгалтар калгаса Бяляўскі».

**Першая палавіна папкі — «выходныя» — перагартана (працытаваны далёка не ўсе пісьмы Арлоўскага). Перад намі дзень за днём прайшоў цэлы год старшынёўскіх клопатаў. Аб чым яны — мы ведаем. Каму адрасаваны шматлікія просьбы, крыкі аб дапамозе — мы ведаем.**

**Які ж быў адказ?**

**Часткова мы ведаем, які быў адказ на просьбы, а больш дакладна, на заканамерныя патрабаванні калгаснага старшыні, заклапочанага толькі адным — даць краіне як мага больш прадуктаў. Які быў адказ — сведчаць у пісьмах Арлоўскага выразы накшталт: «паўторна просім», «звяртаемся ў трэці раз», «яшчэ раз звяртаюся па таму ж пытанню». Значыць, адмаўлялі старшыні Арлоўскаму. Адказам на яго заканамерныя патрабаванні была здзеклівая, працізаконная, алагічная па сваёй сутнасці адмова.**

**Як жа так!! Можа, не заўсёды адмаўлялі, можа, пісьмы-адказы і радавалі старога зраненага старшыню, зраненага на вайне, змучанага шматгадовай барацьбой з бюракратыяй і алагічнасцю!**

**Я гартаю другую палавіну папкі: «уваходныя». Гартаю — і дзіву даюся. Усе адказы ідуць у калгас аднатыпныя, быццам адной асобай складзеныя:**

**«Не маем магчымасці».**
**«Не можам».**
**«Вымушаны адмовіць».**
**«Няма ў наяўнасці».**
**«На жаль, няма».**
**«На вялікі жаль, не маем».**
**«Няма».**

**Я гартаю гэту злавесную папку, створаную з суцэльных «няма», як раптам сонечны зайчык упаў на старонку, на чарговае «не». Я зірнуў у акно — зіхацеў шпіль на калгасным скрыжаванні, з яго вяршаліны біў сонечны прамень, адбіваючыся ў пазалочаным яднанні сярпа і молата.**

**Пакінуўшы пыльную папку, я выйшаў на вуліцу. У блакіце неба на трыццацідвухметровай вышыні сонечна свяціў ва ўсе бакі свету вядомы сімвал нашай дзяржавы — серп і молат. Атрымаўшы ў спадчыну бязрадасную папку Арлоўскага, Старавойтаў усё ж узвёў на калгасным скрыжаванні гэта сонца, гэты шыкоўны святлафор коштам семдзесят тысяч рублёў. Узвёў, каб указваў шлях. Узвёў — значыць, верыць у яго гэтак жа утрапёна, наіўна, рэвалюцыйна, дзейсна, як верыў Арлоўскі.**

**Сонца свеціць толькі чалавеку веруючаму.**

**Таварыш Молат, вы ў вялікім даўгу перад таварышам Сярпом. Ваш доўг шматгадовы, як само жыццё.**

**Рана здаваць у архіў службовую перапіску Арлоўскага, якую ён вёў з партнёрамі калгаса ў 1966 годзе. Яна актуальная да сённяшняга дня, яна архісучасная.**

**Мінула два дзесяцігоддзі — і ніводная са старшынёўскіх ран Арлоўскага не залечана грамадскім лячэннем. Ніводная! Яблыкаў — гніючае багацце, а запчастак — фенаменальны дэфіцыт. Будматэрыялаў для калгаснай будаўнічай брыгады няма. Асфальту, бітуму, друзу для калгасных дарожнікаў няма. Ганебная ўраўнілаўка і валюнтарызм працвітаюць пад шыльдай: РАПА. Віхуры папяровыя праносяцца над калгасам, рэгламентуючы тэрміны сяўбы, пакрыцця свінаматак, асемянення кароў. Партнёры забылі, што такое джэнтльменства. Сеялкі не ўмеюць сеяць, а камбайны — убіраць тое, што паспела. Трактары не аруць, а нявечаць зямлю...**

**Таварыш Молат, чуеце: «Рэжа мяне»! Гэта скрозь тоўшчу двух дзесяцігоддзяў, скрозь зняверачную зямлю ляціць да нас тэлеграма старшыні Арлоўскага, чалавека веруючага, але не жалезнага, не вечнага. «Рэжа мяне»,— паўтарае пераемнік Старавойтаў, веруючы, але не ўсёмагутны.**

**Таварыш Молат, пазалочаны, сонечны, зіхатлівы ў ганаровым яднанні з Сярпом бабулі Феадосіі! Спусціцеся на рэальную рассветаўскую зямлю, ударце ўсёй сваёй накопленай магутнасцю па кавадле вясковага кавала дзеда Дудаля — ён укажа Вам мэту сваім маленькім, сваім дакладным малаточкам.**

**Таварыш Молат, мы — кавалі, і дух наш малады, куём мы шчасця ключы, мы верым у дакладны ўдар.**

СЛУЖБА



ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» працягвае сваю работу.
Вось ужо чацвёрты раз у гэтым годзе мы сустракаемся з вамі, шаноўныя чытачы, у рубрыцы «Чытач — чытачу». Відаць, настаў час напомніць умовы работы нашага аддзела. Вядома, што гэта будзе цікава і тым, хто ўпершыню сустрэўся з нашай рубрыкай.**

**1. Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» створаны ў нашым часопісе з мэтай даць людзям магчымасць зрабіць адзін аднаму паслугу, аказаць дапамогу, знайсці сябра.**

**2. Аб'явы ва «Узаемадапамозе» публікуюцца бясплатна.**

**3. Аб'явы могуць змяшчацца за подпісам аўтара ці, калі ён таго пажадае, мець лічбавы індэкс.
У водгуках просім абавязкова пазначаць індэкс аб'явы, якая вас зацікавіла, што дазволіць нам у найкарацейшы тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.**

**4. Аддзел не ў стане дасылаць адказы на ўсе вашы пісьмы.
Ды і мэта наша, як адзначалася вышэй, іншая: чытачы павінны самі адказваць адзін аднаму.**

**5. Рэдакцыя не дасылае адрасы тых, чые аб'явы былі надрукаваны пад кодам. Калі ж вы вырашылі звязацца з тым ці іншым аўтарам надрукаванай аб'явы, дашліце пісьмо ў рэдакцыю і ўкажыце лічбавы індэкс, які вас зацікавіў.**

**6. Калі вы адгукнуліся на аб'яву, якая была надрукавана ў часопісе, а адказу не дачакаліся, не трэба крыўдаваць на нас — усе пісьмы знаходзяць свайго адрасата. І калі ўжо ваша аб'ява трапіла на старонку часопіса, вы абавязкова павінны адказаць на ўсе лісты, якія прыйшлі на ваш адрас.**

**7. Кнігі, фотаздымкі і іншыя рэчы рэдакцыя не дасылае.
А зараз пазнаёмцеся з чарговай падборкай чытацкіх допісаў. Сёння мы вылучаем у ёй тры асноўныя раздзелы: прапановы, водгукі, парады.**

## ПРАПАНУЮ

### Я — ЗА «БЕЛЫ ВЕТРАЗЬ»

Можа, маё пісьмо не вельмі пасуе да рубрыкі «Узаемадапамога», але вырашыў усё ж звярнуцца менавіта сюды. Справа вось у чым. У Мінску, у парку імя Горкага, ёсць цудоўны крыты каток. Прапаную даць яму дакладную, трапную назву. Маюць жа свае найменні стадыёны, кінатэатры, атэлье, нават кафэ. А чаму б палацу спорту не мець свайго імя? Скажам, «Сняжынка», «Зімовы», «Юнацтва»... А яшчэ лепш было б назваць яго «Белы ветразь» — палац сапраўды нагадвае распасцёрты ў моры дрэў ветразь... А, можа, будуць яшчэ якія прапановы?

**М. ГУСЬКО,** г. Мінск.

### РАДАСЦЬ — КРУГЛЫ ГОД

Прыгожы, маляўнічы каляндарык у кішэні — радасць на ўвесь год. Не выпадкова многія людзі калекцыяніруюць іх. Доўгі час захапляюся збіраннем каляндарыкаў і я. Цяпер у мяне цікавая калекцыя, да таго ж, у ёй шмат двайных, г. зн. аднолькавых экземпляраў.

Неяк я прачытала ва «Узаемадапамозе» пісьмо чытача, які бескарысліва прапануе таму, хто захоча, уласныя дзіцячыя цацкі, бо яго дарослыя дзеці ўжо не маюць у іх патрэбы. Гэта падштурхнула і мяне звярнуцца з аналагічным заклікам да калекцыянераў: забярыце мае лішнія каляндарыкі.

**Алена.** (117).

### МЭТА — АДШУКАННЕ НАДЗЕІ

«Не сумуйце, як тыя, што надзеі не маюць»,—надпіс на магільным помніку ў Вільні. Шкада мне аднагодкаў, якія лямантуюць на ўсю Беларусь аб сваёй адзіноце. У сталым узросце пара аб душы і аб дзецях падумаць. Дзеці і моладзь самоту спазналі таксама.

І ці такія мы былі не адзінокія побач са сваімі мужамі, жонкамі? Чаму самотных не ўзнімае дух Ефрасінні, Каліноўскага, Багдановіча? «Я не самотны — я кнігу маю...» Не такі яскравы прыклад — Стэфан Баторый. Быў ён шчаслівы, ажаніўшыся са старой гарбатай Ганнай, каб стаць каралём і вялікім князем? А салдаткі ўсіх войнаў, ці адважыліся б пісаць аб'явы ў часопіс? Не. Зганьбілі б памяць герояў.

Давайце створым суполку «Безнадзейнасць» (назва ад верша М. Багдановіча). Варункі: хто зведаў безнадзейнасць, веданне мовы або жаданне яе вывучыць і патрэба духоўнай дзейнасці, інтэлігентнасць. Вашы лісты і будуць заявамі. Пазнаёмімся, супольна збяромся на арганізацыйную сустрэчу. У нас жа ёсць незалежнасць і вольны час. Узрост і сямейнасць не маюць значэння.

Мэта — адшуканне надзеі. (127).

### ПОШТА ХУТКАГА РЭАГАВАННЯ

Прачытаў у газеце аб цікавай практыцы «пошты хуткага рэагавання» ў адным з заходнееўрапейскіх гарадоў. Хоча чалавек тэрмінова пераслаць невялікі пакет, бандэроль, паштоўку ў межах горада — звоніць па адпаведным тэлефоне, і яму за пэўную плату робяць такую паслугу на працягу 1—2 гадзін.

А хіба нельга ў Мінску, а таксама ў абласных гарадах, буйных раённых цэнтрах наладзіць такую службу?

Хто возьмецца? Міністэрства сувязі рэспублікі? Мінбыт? Ці, можа, знойдуцца аматары, якія пажадаюць арганізаваць для гэтай мэты спецыяльны кааператыў?

**Л. І. ХВОШЧ,** г. Наваполацк.

## ВОДГУКІ

**У наш аддзел паступае шмат пісьмаў, у якіх аўтары (часцей за ўсё, гэта маладыя хлопцы і дзяўчаты) просяць дапамагчы ім разабрацца ў сабе, знайсці сваё месца ў жыцці. Адзін з такіх лістоў быў надрукаваны ў снежаньскім нумары пад кодам 89. Падобныя пісьмы працягваюць паступаць у рэдакцыю. Надрукаваць усе іх мы, натуральна, не можам. Таму і лічым карысным пазнаёміць чытачоў з двума водгукамі на ліст вышэйпамянёнай шаснаццацігадовай дзяўчыны.**

■

Як старэйшы таварыш (а мне ўжо 35 гадоў), я хацеў бы звярнуцца да аўтара аб'явы, надрукаванай пад кодам 89.

Перш за ўсё, старайся быць заўсёды побач з людзьмі, ніколі не адмаўляй ім у дапамозе, паспрабуй быць карысным і неабходным ім. Па-сапраўднаму знайсці сябе зможа толькі той, хто не баіцца цяжкасцей, хто дакладна ведае, да чаго ён імкнецца.

Прачытаўшы тваю аб'яву, я зразумеў, што ты марыш гарэць агнём, а не тлець. І таму яшчэ адна парада: шукай незвычайных вырашэнняў у барацьбе за здзяйсненне сваёй мэты. Нават не бойся стаць «белай варонай» у тых ці іншых станоўчых справах і пачынаннях. Гэта цяжка. Але я ўпэўнены, што ты абавязкова будзеш узнагароджаны за гэта — людзі пацягнуцца да цябе, будуць паважаць цябе, цаніць тваю думку.

Паспрабуй пачаць з самага звычайнага. Заўтра, напрыклад, зрабі што-небудзь такое, за што пачуеш «дзякуй». Не атрымаецца заўтра — нічога! Рабі добрыя справы кожны дзень, і ты не пашкадуеш аб гэтым — будзеш дарыць людзям радасць, і ў цябе на душы будзе радасна. Будзеш рабіць іх шчаслівымі — і сама будзеш шчаслівая. Шчасця табе!

**Алег,** г. Гомель.

■

Я параю гэтай дзяўчынцы абавязкова прачытаць кнігу У. Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду.», уважліва перачытаць Маякоўскага. Спадзяюся, што зварот да літаратуры дапаможа ёй знайсці адказы на хвалюючыя пытанні.

Акрамя таго, яна павінна ведаць, што ў яе «пераломным» узросце нейкая разгубленасць перад вялікім і суровым жыццём — даволі частая з'ява. Частая, а, галоўнае, часовая. Цяжкі настрой праходзіць, як толькі чалавек пачынае адчуваць сілу ў сваіх руках і думках, як толькі бярэцца за карысную справу, уключаецца ў актыўнае жыццё.

З павагай
**Міхаіл Мікалаевіч КУЛАКОЎСКІ, ветэран вайны і працы.**
Салігорскі раён.

## ПАРАДЫ

Я — маляр і хачу падзяліцца з чытачамі. «Узаемадапамогі» прафесійнай, у пэўным сэнсе, тайнай. Каб лесвіца трывала стаяла, пакладзіце пад яе ножкі гумавыя галёшы.

**В. СКРЫПКО,** г. Маладзечна.

■

Мая парада, вынесеная з уласнага вопыту, адрасуецца вясковым людзям і дачнікам: каб сырыя дровы хутка разгараліся, не варта паліваць іх газаю — дастаткова пасыпаць жменькай буйной солі.

**М. ЮХІМЕНКА,**
Кармянскі раён.

■

Я жыву ў шматпавярховым доме, абсталяваным сучаснымі ліфтамі. Зручна, нічога не скажаш: націснуў на кнопку — і камфартабельны механічны пад'ёмнік за лічаныя секунды даставіць цябе на патрэбны паверх.

Але ўявіце, што чалавек упершыню ў вашым доме. Ён ведае толькі нумар кватэры, якая яго цікавіць, і не ведае, на якім паверсе яна знаходзіцца. На якую ж кнопку ціснуць ў ліфце? Як паказвае практыка, госці абыходзяцца «метадам спроб і памылак», калі іх загадзя не папярэдзіць прадбачлівы гаспадар.

А, між іншым, пазбавіцца гэтай недарэчнасці вельмі проста. Трэба зрабіць невялічкую, але выразную таблічку з указаннем паверха і нумароў кватэр, якія на ім знаходзяцца, і прымацаваць гэтую таблічку побач з кнопкамі ліфта. Прычым не варта нават домакіраўніцтва турбаваць: зрабіце гэта самі. Клопат невялікі, а людзі дзякуй скажуць.

**Вольга ІВАНОВА,** г. Мінск.

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**



# СПАРТСМЕНЫ І БАЛЕЛЬШЧЫКІ





**Апошнім часам спартыўная прэса нярэдка апісвае не перыпетыі таго ці іншага матча, турніру, спаборніцтва, а паведамляе аб дэталях, падрабязнасцях вакол іх. Як правіла, яны звязаны з непрыстойнымі, а то і хуліганскімі паводзінамі балельшчыкаў. Прычым, калі раней мы гаварылі, што «фанаты» ёсць там, «на Захадзе», то цяпер заўважылі гэту з'яву і ў сябе дома. Нагадваю, што ў мінулым сезоне футбольныя скандалы адбыліся ў Ланчхуці (не першы раз), Кіеве, Вільнюсе... Гэта толькі гарады каманд вышэйшай лігі, не гаворачы пра першую і другую. Зразумела, балельшчыка трэба выхоўваць, працаваць з ім. Як паказвае практыка, найбольш удала выхаваўчую работу з моладдзю і падлеткамі (асноўны кантынгент) — гледачамі спартыўна-масавых мерапрыемстваў — можна праводзіць у клубах аматараў таго ці іншага віду спорту, створаных непасрэдна пры камандах майстроў. У першым паўгоддзі 1988 года ў рэспубліцы плануецца адкрыць 16 клубаў балельшчыкаў. У прыватнасці, аматары футбола Мінска могуць аб'яднацца пры сталічным стадыёне «Дынама», гамяльчане — на «Гомсельмашы» і г. д. Свае клубы будуць і ў гледачоў, якія «хварэюць» за хакеістаў, баскетбалістаў, валейбалістаў, гандбалістаў і нават хакеістак на траве — пры камандзе «Рытм» на гродзенскім стадыёне «Чырвоны сцяг». Мяркуецца з цягам часу вырашыць пытанне па стварэнні падобных нефармальных аб'яднанняў пры калектывах, удзельніках чэмпіянату рэспублікі па футболу і хакею (56 каманд). Але, думаецца, галоўнае тут не гнацца за колькасцю, ростам клубаў, а пастарацца стварыць у іх сапраўды цёплую атмасферу, каб людзі туды ішлі ахвотна.**

**Сёння гасцямі «Беларусі» з'яўляюцца выдатныя беларускія спартсмены, людзі, як кажуць, з імем. Прапануем вашай увазе маналогі чэмпіёнаў на тэму «Спартсмены і балельшчыкі».**

**Сяргей ГОЦМАНАЎ:**

— Скажу адразу, што прыемна гуляць, як гаворыцца, пад шум трыбун. На жаль, у Мінску яны часта запоўнены напалову, а то і менш. Безумоўна, аўдыторыя балельшчыкаў — гэта своеасаблівы барометр класа гульні каманды. У «залатым» 1982 годзе паглядзець на нас ахвотна ішлі ў Маскве і Кіеве, Тбілісі і Днепрапятроўску. Заўважана, што нашы беларускія гледачы «хварэюць» моўчкі. Але вось некалькі разоў у мінулым сезоне, калі я ішоў падаваць «вуглавыя», неяк асабліва адчуў дыханне трыбун. З'явілася адчуванне, што на мяне, кроплю ў вялікай чашы стадыёна, скіраваны сканцэнтраваны выбух... У такія моманты хочацца згуляць як мага лепш. Можа таму мінскія дынамаўцы і гуляюць лепш за мяжой, што там стадыёны — спецыяльныя, футбольныя? Гледачы побач, а футбольнае поле... Здаецца, стукнеш мацней па мячу і пераб'еш яго ад варот да варот. Разумееце, эфект прысутнасці стопрацэнтны. Замежныя балельшчыкі паводзяць сябе на трыбунах больш жвава, зацікаўлена, нібыта дыхаюць табе ў спіну. Здараецца, адчуваеш і нейкую злосць з іх боку, тады і сам адпаведна настройваешся.

Спецыяльна на гледача я не працую. Лічу, што гульні трэба аддавацца поўнасцю, а балельшчык сам разбярэцца — хто фальшывіць, як кажуць, адбывае нумар, а хто і адзін на полі воін. Можа, таму многія аматары футбола не заўсёды роўна адносіліся да знакамітага кіяўляніна Алега Блахіна... Ён, здаралася, гуляў празмерна тэатральна, з непрыемнай жэстыкуляцыяй і апеляцыяй да суддзяў, сяброў па камандзе і працаўнікаў.

Лічу, што стварэнне клуба балельшчыкаў на мінскім стадыёне «Дынама» — толькі на карысць усім нам. Галоўнае, каб сустрэчы там не былі занадта афіцыйнымі, заарганізаванымі. Лічу неабходным выпускаць як мага больш плакатаў, вымпелаў... Вельмі добрую і карысную справу па выпуску рознай спартыўнай атрыбутыкі робіць сёння кааператыў «Сувенір», створаны пры Дзяржзабеспячэнні БССР, і іншыя кааператывы. Клуб мог бы займацца і арганізацыяй паездак аматараў футбола ў іншыя гарады краіны. А то часта да нашага аўтобуса ў Маскве ці Вільнюсе падыходзяць юныя мінчане з просьбай узяць у аўтобус. Бяром некалькіх, а астатнія?

**Марына ЛОБАЧ:**

— Падтрымка гледачоў — вялікая справа. Памятаю, як нялёгка нам давялося ў Варне, на чэмпіянаце свету. У Балгарыі мастацкая гімнастыка — адзін з самых любімых відаў спорту, да поспехаў сваіх гімнастак там адносяцца надзвычай раўніва. Відаць, для таго, каб засцерагчы іх ад усялякіх непажаданых «раздражняльнікаў», асобы, адказныя за правядзенне спаборніцтваў, білетаў савецкім турыстам не гарантавалі. У залу ўсімі праўдамі і няпраўдамі трапілі толькі нешматлікія, але адданыя нашы балельшчыкі. Затое «хварэлі» яны заўзята. І дапамагалі ім тэмпераментныя іспанцы, італьянцы, фіны...

Трэба сказаць, што і балгарскія балельшчыкі заўсёды добразычлівыя і дружалюбныя, яны ўмеюць цаніць сапраўднае мастацтва. Тое ж можна сказаць і пра нямецкіх балельшчыкаў. У ГДР, напрыклад, у горадзе Котбус, дзе я выступала ў турніры на Кубак Інтэрбачання, у гасцініцы мяне чакаў сюрпрыз: штодзень на маё імя прыходзіла некалькі пісьмаў на рускай або нямецкай мове ад юных прыхільнікаў гімнастыкі з просьбай... даслаць ім аўтограф. У ГДР сярод аматараў спорту наогул калекцыяніраванне аўтографаў надзвычай распаўсюджана. Прычым робіцца гэта па-рацыяналізатарску: у канверт кладуць акуратны кавалачак чыстага кардону (тыпу візітнай карткі) і яшчэ адзін канверт са зваротным адрасам. Атрымаў пісьмо — паслаў аўтограф. Што я і рабіла, прызнаюся, з задавальненнем, адпраўляючы гэтыя весткі дружбы маім завочным прыхільнікам.

За мяжой нярэдка даводзілася даваць аўтографы і на вуліцы. Гэта было дзіўна, бо дома на мяне, здаецца, ніхто не звяртае ўвагі. Сяброўка вытлумачыла гэтую сітуацыю вельмі арыгінальна: «У звычайнай вопратцы ты зусім не такая, як на тэлеэкране і на фотаздымках!» Што зробіш — гэта праўда...

**Галіна САВІЦКАЯ:**

— У футболе разбіраюцца ўсе. Пра баскетбол жа пры ўсім жаданні такога не скажаш: гэта гульня, на мой погляд, больш складаная, дынамічная, багатая на тактычныя варыянты, не кожнаму зразумелыя нюансы яе правіл. Таму на баскетбольныя матчы ходзяць у асноўным сапраўдныя знаткі. Тым больш, што тэлебачанне і прэса аддаюць нам няшмат увагі — дзе ўжо тут стаць сапраўдным знаўцам гульні, калі бачыш яе ад выпадку да выпадку! А бывае і так: зазірне выпадкова чалавек у залу, дзе ідзе цікавая гульня, захопіцца эмоцыямі аўдыторыі, а потым прыйдзе і на наступны матч,

пачне пакрысе знаёміцца з асаблівасцямі гульні. Глядзіш — і з'явіўся новы балельшчык.

А наогул, пустыя трыбуны, цішыня — гэта не па мне. Гуляю тады без настрою. Затое, калі трыбуны перапоўнены, гледачы «хварэюць» азартна, захоплена, няхай нават супраць нас, нібыта сіл дадаецца. Колькасць балельшчыкаў — гэта таксама паказчык класа каманды. «Гарызонт», я заўважала, падабаецца прыхільнікам баскетбола ўсюды: імпануе актыўная форма абароны, якой мы часта карыстаемся, імклівая, відовішчная манера гульні.

І ўсё ж больш за ўсё я люблю выступаць у родным Мінску, у перапоўненым Палацы спорту. На жаль, здараецца гэта па волі складальнікаў календара першынства краіны надзвычай рэдка. Дарэчы, у многіх гарадах ёсць у нас свае асабістыя балельшчыкі. Добра ведаю аднаго ленінградца, які вось ужо некалькі гадоў запар не прапускае ніводнага матча з нашым удзелам. Ленінградцы, як і мінчане, вельмі любяць баскетбол. А вось пра масквічоў такога не скажаш. Магчыма, распешчаны яны ўсякімі відовішчамі.

Дарэчы, пра відовішчы. Нядаўна ў складзе зборнай краіны наведала ЗША. Вось дзе ўмеюць зрабіць з баскетбольнага матча сапраўднае шоу! Велізарныя палацы спорту (а маленькіх, сціплых залаў там, па-мойму, наогул няма, ва ўсякім разе гульні там не праводзяцца), разлічаныя тысяч на 15—20 гледачоў, ніколі не пустуюць. Балельшчыкі, як і ўсюды, заўзятыя, але кампетэнтныя. Сустракаліся мы з універсітэцкімі камандамі (прафесійнага жаночага баскетбола ў ЗША няма). Асабліва запомніўся матч у Тэхасе. Шум у зале стаяў такі, што не толькі трэнера — партнёра за два крокі нельга было пачуць. «Хварэлі», вядома, за сваіх, але калі мы ўсё ж перамаглі з маленечкай перавагай — віталі нас стоячы, доўга апладзіравалі, віншавалі, нешта крычалі, усміхаліся...

Справядлівым будзе сказаць, што балельшчыкі ва ўсіх краінах, а я іх пабачыла нямала, у многім аднолькавыя: экспансіўныя, але справядлівыя. Сярод прыхільнікаў баскетбола хуліганскіх выпадаў, інцыдэнтаў амаль не здараецца.

**Міхаіл ПРАКУДЗІН:**

— А мяне, па-мойму, наогул ніхто і ніколі не пазнае. Не тое, што мяне гэта закранае або крыўдзіць, і ўсё ж падумаеш іншым разам: футбалісты нашы чэмпіёнамі свету ніколі не былі, прызёрамі таксама, а вось любому хлапчуку-навабранцу не паспее ён забіць свой першы гол — пашана і павага, нібыта ён новаспечаны Пеле! Ці не занадта пільная ўвага да нашых паплечнікаў па спорту? Не палічыце за скаргу, гавару для параўнання: мы з жонкай, чэмпіёнкай Еўропы па стральбе з лука, кватэру не маглі атрымаць шмат гадоў. А футбалісты, па-мойму, з гэтай праблемай незнаёмы. Цяпер вось, кажуць, пенсію ім збіраюцца даваць, калі кар'ера скончана... Не палічыце мяне за буркуна, гэта так — накіпела крыху.

Што датычыць балельшчыкаў, то ў нас — барцоў-вольнікаў — яны таксама ёсць: адданыя, кампетэнтныя, шчырыя. І мы без іх абысціся не можам і ўдзячны ім за падтрымку ў цяжкую хвіліну.

**Інтэрв'ю вёў Віктар ФІЛІПЧЫК.**



Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.



# ТЭАТР НЕВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ

Прыемна, што ні кажыце, атрымаць падарунак, тым больш, калі гэты падарунак навагодні. Мінскі армеец Барыс Гельфанд трактуе гэтую звычку па-свойму: ён не, не дый падносіць сабе падарункі... сам.

Ужо на другі дзень новага, 1988-га, года Барыс дамогся перамогі на чэмпіянаце Еўропы ў Галандыі і атрымаў тытул шахматнага прынца. Яго вынік на юніёрскім турніры даволі пераканаўчы: адзінаццаць перамог, адна нічыя і адно паражэнне!

Бітвы на чорна-белых палях звычайна параўноўваюць з «тэатрам неваенных дзеянняў», і калі працягваць гэтае параўнанне, можна дадаць: армеец Барыс Гельфанд за апошні час стаў даволі спрактыкаваным стратэгам і тактыкам. Шматлікія тонкасці шахматнай стратэгіі і тактыкі армейскі спартсмен спасцігае разам са сваім трэнерам і старэйшым сябрам, шматразовым чэмпіёнам БССР, майстрам спорту Альбертам Капенгутам. Гэты тэндэм Гельфанд — Капенгут існуе ўжо восем гадоў, і можна сцвярджаць, што тыя ідэі, якія ў свой час не змог рэалізаваць сам трэнер, знаходзяць сваё практычнае ажыццяўленне ў гульні маладога самабытнага шахматыста.



На XII мемарыяле Сакольскага ў 1983 годзе Гельфанд у марафонскім паядынку з Іткесам знайшоў даволі цікавы шлях да перамогі. Пасля 44-га ходу белых Ca1 склалася пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме.

У сваім роздуме-каментарыі пасля гэтай партыі сам Барыс зазначаў:

«На Ca1 чорныя адказалі — h5? Далей было. 45. g5 f5 46. Ce5 Kpe6 47. Cf6 Kpd5 48. Cg7 Kpe6 49. Cf6 Kpd5 50. Ke5!? Л : h4 51. Kpg3 Лe4 52. К : g6 Лg4 53. Kph3 Kpe6 54. Kh4 Лf4 55. Kpg3 Лg4 56. Kph3 Лf4 57. f3 Лc4 58. Cg7 f4 59. g6 Лc1 60. Ch6! Лc4 (альбо 60. ...Лh1 61. Kpg2 Лh4 62. Cg5 Лg4 63. fg hg 64. Kpf2. Цугцванг.) 61. Kg2 Лc3 62. К : f4 Kpf5 63. g7 Лc8. (Элегантная пастка: 63. ...Лh8 64. ghФ, пат! Трэба было ставіць не ферзя, а ладдзю! — ghЛ! 64. Kph4 Kpf6 65. К : h5 Kpf7 66. Cg5 Kpg8 67. Cf6 Лc6 68. f4 Лc8 69. Kpg4 Лc6 70. Ce5 Kpf7 71. Kg3 Kpg8 72. Kf5 Лe6 73. Kpg5 Kph7 74. Cf6 Лe1 75. Ke7. Чорныя прайгралі».

Гэтая цікавая партыя, перамога на мемарыяле і ўвогуле сама гульня засведчылі, што мінскі школьнік Барыс Гельфанд ужо не баязлівы дэбютант, а адзін з найбольш здольных і перспектыўных шахматыстаў Беларусі.

Нагадаю яшчэ раз: ішоў 1984 год...

За апошні час у спартыўнай біяграфіі Барыса з'явілася шмат цікавых старонак: турніры, сустрэчы з моцнымі гросмайстрамі, кандыдат у майстры становіцца міжнародным майстрам.

І вось — год 1987-мы, Рыга, бульвар Падам'ю, 16. Тут, на сцэне рэспубліканскага шахматнага клуба, праходзіў турнір юных надзей. Восем мацнейшых шахматыстаў краіны змагаліся за права на ўдзел у чэмпіянаце Еўропы.

Да гэтай пазіцыі пасля 19 хадоў прыйшлі на рыжскім турніры Барыс Гельфанд (белыя) і Ігар Хенкін.



У белых, як кажуць, відавочная тэрытарыяльная перавага. Але як гуляць далей? Барыс ажыццяўляе шматлікія размены, яго партнёр не пярэчыць: меней фігур на дошцы — болей шанцаў на нічыю... Але разлікі нашага земляка былі больш дакладнымі.

20. К : d5 К : d5 21. Cf3 Фe7 22. Л : d5 Ф : g5 23. Л : g5 Лd2 24. Cc3 Л : a2 25. Л : c5 Cb6 26. Лe5 Лc8 27. Cb7 Лb8 28. Cd5 h6 29. h4 Лc8 30. h5 C : h5 31. Л : h5 Ca5 32. b4 — і белыя перамагаюць...

Быў час, калі перад Б. Гельфандам стаяла пытанне: «Як стаць майстрам?». І ён адказаў на яго даволі пераканаўча: у 1986 годзе атрымаў два балы міжнароднага майстра, заваяваў тытул чэмпіёна Еўропы сярод юнакоў.

Час прыспяшае, і на парадак спартыўнага дня паўстала пытанне чарговае: «Як стаць гросмайстрам?».

Мяркую, што Барыс дасць станоўчы адказ і на гэтае пытанне ў самы сціслы тэрмін: на міжнародным турніры, які адбудзецца ў маі ў Мінску, або ўвосень у часе юнацкага чэмпіянату свету ў Аўстраліі.

Чакаць засталося нядоўга...

# КРАСВОРД




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Воінскае званне. 7. Маршал авіяцыі, тройчы Герой Савецкага Саюза. 10. Ураджэнец Віцебскай вобласці, Герой Савецкага Саюза. 11. Легендарны крэйсер. 14. Савецкі канструктар танкаў. 15. Дапаможны пункт, па якім робіцца прыстрэлка прыцэльнага агню. 17. Рухавік унутранага згарання. 18. Урачысты агляд войск. 19. Горад-герой. 20. Кветка. 22. Праслаўлены савецкі палкаводзец, чатыры разы Герой Савецкага Саюза. 24. Удзельнік савецка-фінляндскай, Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза. 25. Ліквідацыя пашкоджанняў, паломак. 27. Урачыстае абяцанне на вернасць Радзіме. 28. Удзельнік баёў на Беларусі ў Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза. 29. Прыстасаванне, куды закладваюцца патроны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Генерал-лейтэнант артылерыі, Герой Савецкага Саюза. 2. Прыбор для назірання. 3. Горад-герой. 5. Савецкі канструктар агнястрэльнай зброі, Герой Сацыялістычнай Працы. 6. Від боепрыпасаў. 8. Арганізатар, былы кіраўнік Чырванасцяжнага ансамбля песні і танца Савецкай Арміі, аўтар музыкі Гімна Савецкага Саюза. 9. Савецкая лётчыца, Герой Савецкага Саюза. 12. Маршал Савецкага Саюза, Герой Савецкага Саюза. 13. Разведчык, які перамяшчаецца паўзком. 15. Лінія абарончых збудаванняў. 16. Генерал-маёр авіяцыі, двойчы Герой Савецкага Саюза. 21. Фігура вышэйшага пілатажу. 23. Генерал-лейтэнант інжынерных войск, Герой Савецкага Саюза. 24. Удзельнік баёў на Беларусі ў Айчынную вайну, поўны кавалер ордэна Славы. 26. Музыкант духавога аркестра. 27. Кавалерыст.

Склаў
Пётр ШЫЦІК.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4

**Па гарызанталі:** 5. Шхуна. 8. Анапа. 10. Клінкер. 11. «Дынама». 12. Шчотка. 13. Рулетка. 14. Рапіра. 17. Квакша. 20. Казна. 23. Ландау. 24. Барсук. 25. Рэмез. 26. Комікс. 27. Аляска. 28. Кварц. 31. Гранат. 35. Стачка. 38. Алгебра. 39. Эталон. 40. Кароль. 41. Трактар. 42. Румба. 43. Афсет.

**Па вертыкалі:** 1. Цунамі. 2. Бакара. 3. Маршак. 4. Валока. 5. Шмыга. 6. Фіялка. 7. Юкатан. 9. Аркуш. 15. Пратока. 16. Радніна. 18. Варыянт. 19. Крумкач. 20. Курск. 21. Замша. 22. Абзац. 29. Вігвам. 30. Работа. 32. Рытар. 33. Нельма. 34. Тантал. 35. Сакрат. 36. Агрэст. 37. Кольт.

# ДЫЯЛОГІ БЕЗ РЭГЛАМЕНТУ







У рэдакцыі «Беларусі» ёсць добрая традыцыя: некалькі разоў у год у яе сценах збіраюцца і знаёмяцца пазаштатныя аўтары часопіса, героі нарысаў і рэпартажаў, вучоныя, работнікі розных міністэрстваў, ведамстваў, службаў...

У некаторых выданнях існуюць рубрыкі — «Сустрэча з цікавым чалавекам» і «Кампетэнтны субяседнік». Госці традыцыйных адкрытых сходаў «Беларусі» — людзі заўсёды і кампетэнтныя, і, як кажуць, цікавыя.

На гэты раз прафесійныя журналісты, пісьменнікі, паэты пазнаёміліся з людзьмі, якія па роду сваёй службы добра ведаюць праблемы ўмацавання правапарадку і сённяшні злачынны свет Мінска.

Начальнік крымінальнага вышуку сталіцы рэспублікі падпалкоўнік міліцыі Віктар Канстанцінавіч Пякарскі і супрацоўнік міліцыі Мікалай Сцяпанавіч Рафальскі разам з літаратарамі гаварылі аб тым, якія і раней «закрытыя» тэмы ўсё яшчэ застаюцца па-за ўвагай нашай прэсы, літаратуры. Разважалі, якія рэальныя станоўчыя вынікі можа даць больш пільная ўвага прафесійных журналістаў, літаратараў да сацыяльных прычын росту тых ці іншых відаў злачынстваў.

Напрыклад, ужо наспела неабходнасць даследаваць **сапраўдныя ўмовы**, у якіх праводзяць свой вольны час старшакласнікі і навучэнцы ПТВ. Ці хваля аўтамабільных крадзяжоў, ці крадзяжоў запасных частак для асабістых машын, матацыклаў. Што падштурхоўвае людзей да злачынства, да пярэкупу заведама крадзенага? Адна з галоўных прычын — вялікі разрыў паміж лікам транспартных сродкаў гараджан і лікам месцаў на аўтастаянках, колькасцю індывідуальных гаражоў. А скупляць па спекуляцыйных цэнах заведама крадзенае аўтааматары вымушаны з-за празмернага дэфіцыту запасных частак для «Жыгулёў», «Волгаў» і «Масквічоў».

Словам, нямала актуальных тэм для будучых публікацый у «Беларусі» выявілася ў выніку сустрэчы работнікаў крымінальнага вышуку Мінска і літаратараў.



**У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ» ЧЫТАЧ ПАЗНАЁМІЦЦА З ПРАБЛЕМНЫМІ РЭПАРТАЖАМІ, КАРЭСПАНДЭНЦЫЯМІ І ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫМІ АРТЫКУЛАМІ НА ЭКАНАМІЧНЫЯ І ПРАВАВЫЯ ТЭМЫ, АЎТАРАМІ ЯКІХ БУДУЦЬ ПРАФЕСІЙНЫЯ ЛІТАРАТАРЫ, РАБОТНІКІ ПРАКУРАТУРЫ І СУДОЎ РЭСПУБЛІКІ, СУПРАЦОЎНІКІ МІЛІЦЫІ.**

**На здымках: выступаюць маёр міліцыі М. С. РАФАЛЬСКІ і падпалкоўнік міліцыі В. К. ПЯКАРСКІ; госці і супрацоўнікі рэдакцыі.**

**Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.**







Фота Віктара САСНОЎСКАГА
і Сямёна ЖЫЛІНА.




# ПРАФЕСІЯ — РЭПАРЦЁР

# СТВАРАЮЦЬ ДЛЯ ПРЫГАЖОСЦІ, ДОРАЦЬ НА РАДАСЦЬ





*Здавалася б, і матэрыял просты— звычайная лаза, і ўзор немудрагелісты, а не адарваць вачэй ад плеценых хлебніц, кошыкаў, кашолак— такія яны лёгкія, ажурныя, з плаўнымі краямі...*



Цана 35 кап.
«Беларусь», 1988, № 5, 1—36.
Індэкс 74820.